

Я. БАТАЛЬЁНАК. Нядзеля. З серыі «У майстэрні» (акварэль, 1981).

ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

# Маладосць

## 8·90

(450) ЖНІВЕНЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка






Вокладка **А. Карповіча**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— **Я. Батальёнак. Цвіце стары сад** (алей, 1974).

На шмуцтытуле публіцыстыкі—фота **С. Брушко.**




# Паэзія Проза





*Упершыню ў „Маладосці"*

## *Таццяна Дашкевіч*



Дзе новы колер — уладар,
Дзе ліхтары ўжо не патрэбны,
Мяне чакае дзіўны дар,
Які даецца недарэмна.

Я бачу мой апошні шлях,
З дзяцінства гледзячы ў нябёсы,
Іду да зорак па вуглях —
І вогнішчам палаюць косы.

Кахаю і жыву пакуль —
Здаецца незвычайным морак...
Трымайся, дружа, за руку.
Я адвяду цябе да зорак.



А свет стары так доўга будзе жыць,
Бо існасць ёсць у цяжкіх скрыжаваннях
Старых бярвенняў
з галубоў гуканнем,
І комінаў пакрыўджаных,
І шыб...

Не памінай мяне, апошні Бог,
Апошняй кропляй людскага патопу,
Дзе, як дзіця спужанае,— Еўропа,
Ў вачах яе — такі сусветны боль.

Прароцтва ўжо не будзе ад званоў,
Бо ўшчэнт паразбіваліся іх рухі.
Вандруе ў душах бездань-палявуха,
Халопка чорных нелюдзяў-паноў.

Нібы павозка, коціцца Зямля,
І шлях яе аднойчы абарвецца,
І боскае яе святое сэрца
Ніхто ў вуглях не знойдзе апасля.

### КАЛЫХАНКА

Русалка Ганна!
Гоманам вады —
Адказ, і споведзь, і вачэй блакітных
Стамлёны боль...
Апошняя малітва...
Шукаю на вадзе твае сляды.

Твая вада спакою не дае.
Вянок плыве,
Сто год ужо плыве,
І на тваёй бялюткай галаве
Сплятаюць хвалі бліскаўкі свае...

...Павінны хвалі ціха калыхаці
Глыбока
люлечку твайго дзіцяці.
Спі, дзіцятка,
спі, сонейка,
спі, рыбка.
Надзейна захавана твая зыбка...

Спі, золатка,
спі, панскае дзіця...
Забаўляюць хвалі,
мігацяць...
І па вадзе плыве:
баю-баю,
Я пра каханне песеньку пяю.



І пахіснуўся гэты дом —
Прытулак мой губляе сілу,
І зараз прад маім акном —
Пустэча, погляду магіла.

Куды ідзеш, гаючы снег?
Навошта вусны мне кранаеш?
Люстэрка плача на сцяне
І сёння твар мой не пазнае

І заўтра не пазнае твар,
Бо ён — апошні месяц, люты...
Апошняе не мае мар
І супакойвае пакуты.

Перахрысціся на акно,
Вандроўнік-знаўца.
Недарэмна
Яно сцямнілася адно.
І рамы крыж такі таемны.

### ХРЫШЧЭННЕ

Над крыніцай не будзе дажджу,
Ні аблокаў, ні зор, ні птушак.
Я табе дзіця нараджу
І даверу крыніцы гушкаць.

Толькі ты мяне не карай.
Хай жа ўсё табе добра будзе.
Я пайду адзінока ў край,
Дзе мяне не пазнаюць людзі.

Хай мяне папракае люд,
Толькі ведае хай, што я маці.
Хай вадзіца нам будзе — суд,
Ды лятае анёл па хаце.

### МАСКВА. ДАБРАЛЮБАВА

Чужына. Далёкая хата,
Ад вокнаў — пачатак тугі.
Хто сябра, хто вораг закляты —
Ці гэты, ці той, другі?

Пакіну пакой на світанні,
Кавалачак хлеба — ў кішэнь.
І вораг і друг развітанне
Праспяць, не расплюшчаць вачэй.

Каханы! Цябе заклікаю,
Цябе я павінна забраць!
Адкажа: «Прабач, не кахаю.
Бывай, я стаміўся кахаць».

Пакрочу адна да радзімы,
Ступлю на пакрыўджаны шлях —
Ні воўка, ні добрай людзіны
Не стрэчу ў цямнючых лясах...

І шыі вярыгамі сцяты.
І вочы ад сонца баляць.
Чужына. Нялюбая хата.
Вар'яты ў люстэрка глядзяць.





## Зінаіда Дудзюк

◆

Не прыляціць у мой куток зязюля,
Не абнадзеіць і не ўсцешыць слых.
Счарнелыя дубы ў гаях паснулі
Без гоману і песень веснавых.

Я тры гады яе дарма чакала,
Перасяленку, здрадніцу, сястру.
А мо яна ад стронцыю сканала
Сярод птушыных патаемных скрух.

Піла расу з атрутнага лісточка,
Хавалася ў атручаных карчах.
Зязюльчын лён, зязюльчына сарочка
На смерць падрыхтаваная не ў час...

◆

Не напісаць з замілаваннем верш
Пра мой Дняпро, ссівелы і агорклы.
Як ён не скамянеў, яшчэ жыве
Пад позіркам біблейскай Чорнай зоркі.

Бездапаможны, хворы і сляпы,
Няўцямна падмывае бераг стромы,
Не пазнае ні шчодрых, ні скупых
У прадапошнім трызненні і стоме.

З жалобаю схіляюся над ім,
Быў вечны, нібы бог, а памірае,
Ні крыўды і ні зла не прытаіў,
Нікога і нічым не дакарае.

Жыві далей, гадуйся, чалавек,
Патонеш хутка пад уласным смеццем,
Я перажыць паспела столькі рэк,
Што ўжо жыцця страшуся, як бяссмерця.

І словам я не здольна ажывіць
Панішчаныя нашыя святыні,
Хіба вады атрутнае папіць,
Няхай душа знябудзецца, астыне...

◆

У самотнага доўгая ноч,
У галоднага Бога няма.
Я зжыла свае леты даўно,
А наперадзе толькі зіма.

Скарбы ўсе рассыпаюцца ў прах,
Мне адхлання не знаць нідзе.
Перад заўтрашнім днём страх
За сябе, за зямлю, за людзей.

◆

*Лячу ізноў, і не хапае крыл,*
*І халадок ужо фліртуе з Музай.*

Я. Янішчыц

Што меў паэт, раздаў без шкадавання,
Сусветны холад выстудзіў жытло,
Ёсць успаміны, ды няма вяртання,
І стома — арэолам над чалом.

Рака кахання мкнецца супраць часу
І супраць лёсу, як яе спыніць?
Не скарыстаеш слова для акрасы,
Калі краса ў пачуццях не шчыміць.

Цяжкому слову горычу адбіцца,
Жывому слову выспець дабрынёй.
І гэтак лёгка аб жыццё разбіцца,
Як зблытаеш прадонне з вышынёй.



*Упершыню ў „Маладосці"*

## Іван Сычык

КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



# ПАРТРЭТ

Белае воблака наплывала на цёмныя кучавыя хмары, быццам гэта быў пачатак бітвы святла і цемры. Белае воблака расло, адсоўвала шэрань дажджавых хмар.

Малады мастак спыніўся, пачаў уважліва назіраць за рухам неба. Некалькі хвілін ён захапляўся грандыёзным відовішчам. Белае воблака на фоне цёмных хмар зіхацела, блішчала, яно пасылала сваё святло на зямлю, на восеньскі жоўта-чырвоны лес, на поле і вёску.

«Вось і пейзаж-карціна, далёка ехаць не трэба»,— пасля роздуму мастак рушыў далей.

* * *

Праўленне калгаса доўга шукаць не прыйшлося. Яно было ў цэнтры вёскі, побач — драўляны клуб, магазін. Аўтамабіль «Волга» стаяў ля праўлення. Мастак зайшоў у кабінет старшыні калгаса.

— Добры дзень,— прывітаўся ён.

У мяккім скураным крэсле сядзеў чалавек гадоў шасцідзесяці. Яго тлусты чырвоны твар прыкметна спахмурнеў. Мастака ён быццам не заўважыў, працягваў размаўляць па тэлефоне.

— Ну дык што?! Бульба, тэхніка, працоўных рук не хапае... Усё гэта адгаворкі, а бабы нашто? Ты — брыгадзір, вось і дзейнічай самастойна.— Некалькі хвілін ён штосьці слухаў, затым дзёрзка адказаў:— Хоць старых, а каб людзі былі на полі.— Старшыня паклаў тэлефонную трубку, абыякава і халаднавата зірнуў на мастака, спакайней спытаў:— Што патрэбна, малады чалавек?

 

— Прыехаў у творчую камандзіроўку,— нясмела прамовіў мастак.— Ёсць заданне Саюза мастакоў.

— І якое?

— Буду пісаць партрэты перадавых людзей калгаса.

— Цікава! — пасля паўзы сказаў старшыня, затым набраў нумар тэлефона, буркнуў:— Пархуту да мяне, і хутка!

Праз некалькі хвілін у кабінет зайшоў чалавек сярэдніх гадоў.

— Што патрэбна, Сцяпан Якаўлевіч? — спытаў ён.

— Гэта наша ідэалогія,— адзначыў старшыня, затым растлумачыў:— Мастак прыехаў з вобласці. Ён павінен маляваць перадавых людзей калгаса. Вось і думай, парторг!

— Гаворыце, перадавых, заслужаных людзей? — Пархута хітравата зірнуў на старшыню, на мастака, памаўчаўшы трохі, сказаў: — Мабыць, болей узнагарод і заслуг, чым у вас, Сцяпан Якаўлевіч, у калгасе і няма!

— Хопіць, хопіць,— задаволена адазваўся старшыня.

— Вас я зразумеў,— умяшаўся ў гаворку мастак.— Скажыце, якім часам вы можаце пазіраваць і дзе?

— Заўтра раніцай, і прыходзь сюды. А там паглядзім, магчыма, буду ў крэсле,— усміхнуўся старшыня.

— Зразумеў,— уздыхнуў мастак,— а як з жыллём? Мне на два дні.

— Пархута!— звярнуўся старшыня да парторга.— Разбярыся...

— Добра, усё будзе зроблена, Сцяпан Якаўлевіч,— паабяцаў Пархута.

Мастак і парторг выйшлі на вуліцу. Ішлі моўчкі. Калі звярнулі ў правулак, Пархута сказаў:

— Ёсць тут адна хаціна, старая там жыве. Кватэра не цуд, але пераначаваць можна.

— Нічога... Як-небудзь...

Яны зайшлі ў двор старэнькай хаткі. Яна была невялікая, трухлявая. Вакол раслі разгалістыя яблыні і вішні. Мастак прыкмеціў, што сцежка да маленькага хлевушка чыста вымецена і шыбы акенцаў аж зіхацяць. Непадалёку ў разоры сядзела бабуля, капала бульбу.

— Базэліха! Вазьмі квартэранта на пару дзён,— крыкнуў Пархута.

Старая схамянулася, насцярожылася, уважліва паглядзела на Пархуту, на незнаёмага хлопца, затым моўчкі кіўнула галавой.

* * *

Вечарам старая Базэліха скрэбла бульбу, седзячы на маленькім услончыку. Мастак падрыхтоўваў эцюднік і палотны.

— А вы, бабка, адна жывеце? — пацікавіўся ён.

— Адна, галубок.

— І дзяцей няма?

— На вайне забілі і мужыка майго, і двух сыночкаў,— усхвалявана прамовіла старая.

— І больш нікога і няма?

— Дачка ёсць, унукі ўжо сталыя ў горадзе жывуць. А малодшанькага сыночка-саколіка нядаўна ў Аўганістане забілі. Афіцэрам быў.— Вочы старой заблішчэлі ад слёз, яна пачала выціраць іх хусцінкай.

— Вось як! — спагадліва адазваўся мастак. Слёзы старой узрушылі яго. Памаўчаўшы, ён спытаў: — А хто вам дапамагае гаспадарку весці, мо калгаснае начальства?

— Ой, галубок! Усё сама. Толькі дачка і ўнукі ўлетку прыязджаюць сена назапасіць. Кароўку зімою карміць трэба чымся,— старая прысела ля печы, паклала на калені вузлаватыя рукі, думаючы аб сваім.

Мастак пачаў уважліва разглядаць убранства хаткі. Ля акенца — стол з сасновых дошак. За печчу — жалезны ложак. На покуце вісяць іконы і фотаздымкі, відаць, сыны і муж Базэліхі. Над печчу сушацца ваўчкі, валошкі, дубовае лісце...

Мастак перавёў позірк на старую, лагодна перапытаў:

— Дык, гаворыце, ніхто з калгаса не дапамагае вам?

— Ніхто, галубок, ніхто.

— А старшыня, а парторг?

— Яны начальства вялікае, рэдка іх бачу. На машынах раз'язджаюць. Раней, калі працавала ў калгасе, то часцей бачыла іх.

— І доўга вы ў калгасе працавалі?

— Трыццаць гадоў. О! Раней цяжка было. Пасля вайны сеялак не было. Жалі сярпамі. Пасля ўжо камбайны і трактары прыслалі. Усялякае было ў жыцці. Дзяцей пагадавала, а вось цяпер якое гора і смутак,— старая на нейкі момант змоўкла, на вачах зноў паказаліся слёзы.

— Вы, бабуля, не смуткуйце вельмі. На долю беларусоў багата чаго выпала, не адна вы,— хацеў суцешыць мастак бабулю.

Некаторы час маўчалі. Затым мастак спытаў:

— А зімой печ чым паліце?

— З палівам таксама труднэча.

— Зразумеў.

Базэліха пачала гатаваць вячэру. Хутка на стале запахла свежымі гуркамі, хлебам, бульбай. Гаспадыня паставіла гліняны збан з малаком. Перакусіўшы, мастак шчыра падзякаваў, лёг адпачываць.

Раніцай ён ішоў вясковай вуліцай да праўлення калгаса. Старшыню застаў у крэсле. На чыстым пінжаку блішчалі ўзнагароды: ордэны, медалі.

— Малюй такім, як ёсць,— сказаў старшыня.

Мастак паставіў эцюднік, замацаваў палатно. Не зусім падабалася яму натура, але патрэбна было мірыцца з гэтым. На белым палатне пачаў з'яўляцца малюнак. Мастак скрыпеў вугольчыкам і разважаў. Думкі былі пра Базэліху. Зараз мастак выразна ўбачыў розніцу паміж старшынёй і старэнькай. Творчае натхненне кудысьці знікла, на змену яму з'явілася непрыхільнасць да натуры, а гэта для мастака — канец творчай задуме. Пачыркаўшы трохі яшчэ па палатне вугольчыкам, мастак сярдзіта сказаў:

— Усё! Астатняе дапішу ў майстэрні.

— Так хутка? — здзівіўся старшыня.— Пакажы, што ў цябе атрымалася?

 

 

Мастак зняў з эцюдніка палатно.
— Вось глядзіце, рысунак гатовы.
— А чаго не каляровы? І ўзнагароды не ўсе.
— Астатняе дапішу ў майстэрні.
— Ну, дык глядзі, персанальна ў майстэрню не паеду.

* * *

Мастак быў на сядзібе Базэліхі. Старая сядзела ў разоры з кошыкам, выбірала бульбу. Мастак паставіў эцюднік. Вось і чыстае палатно. Ён нейкі час глядзеў на старую, затым сказаў:
— Бабуля! Я ваш партрэт пісаць буду.
— Ой, што ты, унучак, такую непрыгожую, старую ды ў трантах!
— Нічога, бабуля, нічога!
— Тады я пайду, прыбяруся трохі, камізэльку і фартух чысты адзену.
— Не трэба, бабуля,— натхнёна прагаварыў мастак,— будзьце такою, якая ёсць зараз. Гэта вобраз!
Хутка на палатне з'явіліся каляровыя плямы алею. На фоне старой каржакаватай яблыні з залацістай лістотай і спелымі яблыкамі пачаў праяўляцца партрэт Базэліхі. Яна сядзела на зямлі, трымала кошык бульбы худымі, патрэсканымі рукамі ў той жа дзіравай вопратцы, у тых жа кірзавых ботах. Маршчыністы твар быў смутны, але адначасова добры, шчыры, спагадлівы.
Раптам мастак пачуў крокі, ён павярнуўся. Падышоў Пархута, насмешліва спытаў:
— Навошта ты гэтую старую мажаш?
— Не мажу, а пішу партрэт.
— Ёсць і лепшыя людзі ў калгасе.— Парторг пералічыў шэраг імёнаў.— А ты займаешся ерундыстыкай.
— Гэта вобраз, гэта прыгажосць! Ды і бабуля — заслужаны чалавек калгаса. Ветэран працы.
— Якая гэта прыгажосць? Старэча ў лахмоццях,— пырхнуў смехам Пархута.
— Прыгажосць бывае не толькі знешняя. Ёсць прыгажосць духоўная. Ці ж не прыгожыя гэтыя спрацаваныя рукі? Тут прыгажосць сціплая, някідкая, але ж прыгажосць,— натхнёна і ўсхвалявана прамовіў мастак.
Пархута маўчаў, але выраз твару змяніўся: знікла фанабэрыстасць. Ён пільна глядзеў на бабулю...

# КРЫЎДА

У галаве бабкі Аўдоцці стаіць шум: крычаць унукі, звіняць вёдры, кубкі, шклянкі. Нявестка ўшчувае малодшага ўнука, крыкліва павучае яго. Хлопчык вырываецца з рук маці, імгненна заскоквае на печ, адтуль высоўвае галаву і паказвае язык.



У хату зайшоў Аляксей, сын бабкі Аўдоцці. Ён нядобрым позіркам зірнуў на маці, кінуў у куток вопратку, спытаў:
— Ну што, не зняла яшчэ са сцяны свае іконы і анучы? — Саматканыя ручнікі ён называў анучамі.
Думкі старой пачынаюць кружыцца, ногі слабеюць, становяцца кволыя, але яна працягвае мыць посуд.
— Чаго маўчыш? За сваё старое барахло трымаешся,— зычна працягвае Аляксей.— Патрэбна яно табе... толькі клопаты лішнія.
— Аляксейко, сынок,— на хвіліну старая супыняецца, ставіць міску на лаўку, разгублена глядзіць на сына, і яе светла-блакітныя вочы становяцца вільготныя.— Жыццё пражыла з гэтым... Дорага яно мне: і іконы, і ручнікі, і партрэт твайго бацькі.
— Хопіць! Наслухаўся тваіх баек,— голас Аляксея прагучаў са злосцю.— Нікчэмныя твае цацкі выкіну сам і пастаўлю новую мэблю.
Чаго не стрымае матчына сэрца. Старая працягвае глядзець на сына, і яе разгубленасць змяняецца жалем:
— Супакойся, Аляксейко, мабыць, ты стаміўся на працы, павячэрай і адпачывай.
Аляксей нібы ашалеў. Быццам і не прыкмячаў сівізны, працоўных мазалёў, спагады маці. Ён злосна крычаў:
— Сама знімеш, ці мо дапамагчы? Ліха іх бяры...
У бабкі Аўдоцці перахапіла дыханне. Старая цяжка ўздыхнула, у вільготных вачах была невымоўная журба. Яна стаяла ўся сцятая, нібы чакаючы ўдару. Ногі адзервянелі, не згіналіся ў каленях. Ёй здавалася, што яна не здолее вынесці памыі на вуліцу. На нейкі момант у хаце ўсталявалася нудная цішыня. Сабраўшыся з думкамі, бабка Аўдоцця яшчэ раз напомніла сыну пра бацьку. Ад гневу і абурэння Аляксей не хацеў разбірацца ў дробязях. Раз'юшаны, ён мацюкнуўся і пайшоў у другі пакой.
Маці некалькі хвілін стаяла на адным месцы, затым, цяжка стукаючы ботамі, учапілася вузлаватымі, касцістымі пальцамі за дужку вядра, таропка выйшла на вуліцу. Маці адчувала сябе кепска, крыўда апякла душу.

* * *

Ноччу бабка Аўдоцця доўга не магла заснуць, яе хвалявалі непрыемныя думкі. Глуха енчыў вецер за вокнамі, ён то сціхаў, то злосней стукаў у шыбы, палохаючы старую. Яна варочалася на тапчане, часта малілася. Шмат чаго перадумалася за гэтую ноч.
Толькі досвіткам да яе прыйшоў сон. У сне яна ўбачыла мужа-нябожчыка. Ён выплыў бы з туману, прыблізіўся і прамовіў:
— Аўдоццюшка, мая даражэнькая, не бядуй і смерці не прасі. Пажыві яшчэ трохі ды ўнукаў падгадуй, словам добрым сагрэй іх. Няхай ідуць яны па жыцці з мірам. А ад смерці яшчэ ніхто не адкупіўся. Усе народжаныя ўвойдуць у вароты смерці і адтуль ніколі не ўбачаць ласкавага сонейка, квітнеючых садоў, людзей...

На гэтым прачнулася.

Старая паднялася, памалілася, акуратна працерла партрэт мужа-нябожчыка, паправіла ручнікі. З фотакарткі на яе глядзеў муж тым жа хуткім позіркам, і ад гэтага на душы пасвятлела.

Аляксей моўчкі збіраўся на працу. Нявестка мітусілася на кухні. Пачынаўся новы дзень. Што ён прынясе? Гэтае пытанне ў апошнія дні трывожыла старую.

...Цэлы дзень бабка Аўдоцця клапатала ў агародзе, палола гуркі. Надвячоркам да яе падбег малодшы ўнук, сказаў:

— Бабуля! Тата прыгожую канапу купіў, шафу і яшчэ штосьці. Ідзі паглядзі.

— Прысядзь, унучак, тут, адпачні трохі, бо зноў ноччу крычаць будзеш і скардзіцца, што ножкі баляць.

Хлопчык паслухмяна прысеў ля бабулі.

— Ты, Васілёк, у які клас пойдзеш?

— У трэці, бабуля.

— А настаўніцу таксама не будзеш слухаць, як мамку?

— А мамка мяне ні за што б'е.

— Паслухмяным патрэбна быць. Вось тады не будуць крычаць, біць. Па-добраму трэба адносіцца да ўсіх — і да цябе па-добраму паступяць. Вось слухай казку.

«Расла маленькая сцяблінка. Ішоў злы чалавек і прыбіў ботам сцяблінку да зямлі. Пачала вянуць сцяблінка, пакрывацца пылам. Мабыць, быў бы ёй канец, але па той дарозе ішоў добры чалавек. Убачыў ён прыбітую сцяблінку і падняў яе. Зямлю прарыхліў і вадзіцай паліў. «Дзякуй табе, добры чалавек, век не забуду тваёй дабрыні»,— адазвалася сцяблінка.

Прайшлі гады. З маленькай сцяблінкі вырасла прыгожая яблыня. Увесну буйна квітнела, увосень румянымі яблыкамі людзей частавала. І вось на той зямлі пачаўся вялікі голад. Людзі паміраць пачалі. Ішоў зняможаны ад голаду той добры чалавек, які яблыні жыццё даў. Шчыра прыняла яблыня яго, пачаставала чалавека сваімі сакавітымі яблыкамі. Сіл і бадзёрасці ён набраўся. Паблізу ў пошуках яды валачыўся зняможаны і злы чалавек, які прытаптаў сцяблінку. Ён убачыў яблыню, падышоў да яе, хацеў сарваць яблык, але яблыня высока падняла свае галінкі, сказала: «Пазнала я цябе, злы чалавек. Ты загубіць мяне хацеў, а зараз я не ведаю, з чым прыйшоў. Адыдзі ад мяне». Так і загінуў ліхі чалавек».

Хлопчыку падабаліся казкі бабулі, ён хітравата глядзеў на яе:

— Раскажы яшчэ якую-небудзь казку!

— Ужо час, Васілёк, дамоў. Адпачываць трэба.

Хлопчык пабег.

Сонца хілілася да лесу. Мабыць, яно таксама хацела адпачыць пасля доўгага ліпеньскага дня. Бабка Аўдоцця паднялася, пайшла нетаропка дахаты. Была надзея, што Аляксей будзе лагаднейшы. Вось і дзверы. Старая зайшла ў сенцы. Пякучым агнём апаліла сэрца. Яе тапчан, выкінуты, стаяў у кутку. Яна не паверыла вачам, пільней прыгледзелася: побач валяліся ручнікі, ікона, партрэт мужа-нябожчыка. Бабка Аўдоцця схамянулася. У вымучанай душы ржавым жалезам засела крыўда, якая цяпер не пакідала яе. З хаты даносілася гаворка:

— Правільна, Аляксей. Канапу можна паставіць у гэты куток, шафу — у гэты.

— І то праўда, рухлядзі месца ў сенцах.

— Вось, вось! А старую і ў горад можна адправіць. Там вольна сыны жывуць. Кватэры гарадскія... па тэатрах да рэстаранах ходзяць, а маці глядзець не хочуць. Тут, у вёсцы, клопатаў па горла, ды яшчэ за старой глядзець трэба... Хоць разарвісь!

— Уга, суседка. Я таксама Аляксею кажу тое ж.

Адчуванне ў бабкі Аўдоцці было агіднае. Мабыць, так адчуваюць сябе абяздоленыя старцы без цяпла, без прытулку. Яна, цяжка ступаючы, выйшла на вуліцу. «Няма нічога святога ў душы сына,— самотна і балюча разважала яна.— Значыць, не прыняў добрых слоў маіх і парад не паслухаўся. Мусіць, без карысці жыву я на белым свеце, лепей памерці тады...»

Ішла яна, прыгнуўшыся, нізка схіліўшы галаву, быццам ішла на лютыя пакуты. У гэты час яна нічога не хацела: ні бачыць, ні чуць, ні адчуваць. Толькі ісці... ісці... ісці... Яна мінула свой агарод, агарод суседа Трафіма і раптам, на ростані, спынілася. Відавочна, старая ішла б і далей, але яе аклікнула Халівоніха, таксама вясковая старая жанчына:

— Аўдоцця! Куды ты? Ноч хутка.

Бабка Аўдоцця некаторы час стаяла, думаючы штосьці, затым падышла да Халівоніхі, прысела побач на лаўцы.

— Ноч хутка, сядзела б у хаце,— сказала Халівоніха.

— Няма ў мяне хаты.

— Як няма? Вось жа тутачкі!

Не мела звычкі бабка Аўдоцця бедаваць. А каб не маўчаць, яна сказала:

— Іду да ракі, гусей пагляджу.

— А Аляксей, а нявестка? Ды і ўнукаў поўная хата.

— Унукам трэба адпачываць, а нявестка і сын сваімі справамі заняты.

— Ой! І маладыя пайшлі цяперача... Адны здзекі над бацькамі. Раней было па-другому, грахом гэта лічылася.

— Але, галубка! Не той час цяпер, не той. Па-другому жывуць маладыя. Па-другому думаюць і справу вядуць па-другому. А мы, старыя,— абуза для іх.

— Не абуза каменьчык ворыву, а пень коласу. Пры сонейку цёпла, пры матцы добра.

— Не разумеюць зараз гэтага дзеці нашы.

— Бывала, бацькі ў хаце — закон! І традыцыі іх у пашане былі, і парад слухаліся.

— Не хочуць цяпер дзеці прымаць традыцый нашых.

— Мусіць, не навучылі іх бацькі?..

— Адзін паратунак — памерці, і ўсё на гэтым.

Трафім, пажылы вясковец, падышоў непрыкметна:

— Памерці — гэта не дзела,— умяшаўся ў гаворку ён.— Даўгалецце — вялікая божая ўзнагарода. Вось як, бабанькі!

— Бядовае і цяжкае жыццё старыкоўскае,— памерклым позіркам бабка Аўдоцця глядзела на дах сваёй хаты.

— Знаю твае беды, Аўдоцця,— падумаўшы, прамовіў Трафім.— Сын з хаты выганяе.

— Так, мабыць, выхаваны,— уставіла свае слова Халівоніха.

— Хлопец без бацькі рос.

— Гэта так, Трафімко. Але ж не ўсё добрае бяруць дзеці,— глыбакадумна прамовіла бабка Аўдоцця.— Я сваіх дзетак паслухмянасці і дабру вучыла. Вучыла карысць прыносіць людзям. А яны па-другому жывуць. Святога ў душы не ўзялі...

— Ды якая цяпер святасць? — ажывілася Халівоніха.— Настаўнікі ўсе бязбожнікі. Вось і чакай дабра ад дзяцей.

— Настаўнікі дрэннаму не вучаць,— сказаў Трафім.— А табе, Аўдоцця, раю. Едзь у горад да сыноў сваіх. Там кватэры гарадскія: цяпло, святло і ніякага клопату.

— Нікуды не хочу, Трафімко. Тут памерці думаю. Нарадзілася тут, дзяцей пагадавала, тут і пайсці ў зямліцу хочу.

— У кніжцы напісана, што дзе добра, там і радзіма,— заўважыў Трафім.— А ты, Аўдоцця, не смуткуй, як так? Аляксей — хлопец гарачы, пашалее ды супакоіцца. Можа, ужо твой тапчан у хаце з новай мэбляй стаіць. І абразы твае вісяць.

Размова трохі падбадзёрыла бабку Аўдоццю, з душы быццам камень зваліўся. Пачала знікаць трывога. Яна ўспомніла. Вось тры маленькія сыночкі сядзяць за печчу ў льняных кашулях. Яна падае збан сырадою меншанькаму Алёшку. Хлопчык бярэ сваімі ручкамі і прагна глытае. Шкадавала яна Аляксея, таму што быў меншы — часцей пакрыўджаны быў. Вось Аляксей сядзіць з нявесткай за вясельным сталом. А вось ён заходзіць у хату са сваім дзіцяткам.

Хутка гады праляцелі і прынеслі змены...

* * *

Чырвоныя промні сонца крануліся зямлі, адкінулі доўгія, дзівосныя цені дрэў, слупоў, хат. Пастухі прагналі па вуліцы статак, пакінуўшы пасля сябе клубы рыжага пылу.

Бабка Аўдоцця з добрай надзеяй вярталася дамоў. Вось і хата, ганак, парог, сенцы. Чырвона-вохрыстыя промні сонца прайшлі праз шчыліны дзвярэй і асвяцілі сцены з сасновых дошак і бярвенняў, стары куфар, цабэрак, тапчан. Побач на падлозе — ікону, ручнікі, партрэт мужа-нябожчыка.





# ГОРКІ ХМЕЛЬ

Антон спяшаўся, ён часта пазіраў на гадзіннік, крочыў усё шпарчэй і шпарчэй. Ля магазіна ён быццам не прыкмеціў старую Жытлянчыху, штурхнуў яе. Тая войкнула і адхіснулася, але, учапіўшыся за паркан, з палёгкай уздыхнула:

— Ой, божачкі! Пранесла нячыстую.

— Нечага, Жытлянчыха, дарогу засланяць. Ішла б дамоў, лепей было б,— агрызнуўся Антон.

— Чаго на старую крычыш? — пачуўся жаночы голас з натоўпу.— Сам вінаваты, нясецца, як ашалелы. І свету не бачыць.

Антон бы і не пачуў нічога, ён ужо лацвей уладкоўваўся ў чарзе. А чарга была сёння на дзіва: густа ля дзвярэй таўкліся мужчыны, маладыя хлопцы. Жанчын было меней, яны шумна гаманілі. Бабка Жытлянчыха апынулася ў пачатку чаргі. Антон зычна крыкнуў:

— А ты чаго тут мосцішся? Пазней прыйшла і першай лезеш. Ну і Жытлянчыха, спакою ад цябе няма!

— Я займала месца раней, як цябе не відана тут было,— ціхім галасам прамовіла старая.

— Не бачылі мы цябе тута, старушэнцыя,— ажывіўся Міхась, вясковы стары халасцяк, выпівоха.— Табе, бабуся, нечага тут дзёргацца. Ляжала б на печы.

— Чаго крычыш, абармот? — заступілася за старую чырванатварая маладзіца.— Напэўна, за гарэлкай давішся, а бабцы мо хлеба патрэбна ўзяць.

Жытлянчыха ў знак згоды кіўнула галавой.

— І калі кончыцца гэты абедзенны перапынак?

— Хутка ўжо, хутка! Не турбуйся, Антон,— супакоіў сябра Міхась.

Да адкрыцця магазіна засталося некалькі хвілін. Мужчынская частка чаргі прыкметна заварушылася, пачала расці.

— Што за балаган уперадзе? — пачуўся звонкі жаночы голас.

— Правільна! Правільна,— падтрымалі другія жаночыя галасы.

Раптам дзверы адчыніліся, хваля мужчынскага натоўпу, ломячы другую створку дзвярэй, рынулася ў магазін. Пачуліся жаночыя крыкі. Бабку Жытлянчыху прыціснулі да вушака так, што яна не магла ні крыкнуць, ні дыхнуць. Старая на нейкі момант страціла прытомнасць. Гэтага ніхто не заўважыў, толькі калі чарга паслабела, Жытлянчыха звалілася на ганак магазіна. Жанчыны пачалі яе падымаць.

— Вы звар'яцелі, мужыкі. Чуць бабку не задушылі,— злосна сказала адна з жанчын.

— Сядзела б дома старушэнцыя, а то магла душу богу аддаць, — рассмяяўся Міхась.

— То гэта яшчэ нічога,— азвалася чырванатварая маладзіца.— У горадзе я сама бачыла, як адну кабету з чаргі «хуткая дапамога» забрала. А дзеду руку зламалі.

Антон узяў дзве бутэлькі гарэлкі, выйшаў на вуліцу. За ім выбег Міхась.

— Куды пойдзем? — спытаў ён.

— Куды ісці? Вось за магазінам і прымем па шклянцы.

Міхась задаволена кіўнуў галавой.

Шклянка вісела на плоце. Антон, трохі апаласнуўшы яе, наліў гарэлкі. Выпіў. Затым закурыў. Міхась таксама глынуў шклянку гарэлкі, спытаў:

— Чаго настрою няма?

— Адкуль настрой будзе? Жонка як аўчарка лаецца.

— Я таму і не жанюсь. Свабода па душы мне! А бабы гізунты выматаюць,— рассмяяўся Міхась.

— I я хачу, каб мая знікла куды-небудзь. Ехала б у сваю вёску, ці што...

Хмель хутка завалодаў імі. I яны ўжо ішлі па вясковай вуліцы, спявалі:

Я буду долго гнать велосипед,
В глухих лугах его остановлю,
Нарву цветов и подарю букет
Той девушке, которую люблю.

— А мо яшчэ дабавім? — спытаў Міхась у сябра.

— А дзе ты возьмеш? У магазіне, мусіць, як карова языком злізала.

— Самагонкі можна дастаць.

— Не так проста, Міхась, зараз. Прайшоў вясёлы час,— развёў рукамі Антон.— Пайду, мусіць, дамоў.

Антон звярнуў у двор сваёй сядзібы.

...Наташа, жонка Антона, карміла дзіцё. Убачыўшы мужа, яна турботна прамовіла:

— Зноў п'яны.

— Вячэра чаму не гатова? — выкрыкнуў Антон.

— Хіба не бачыш, што дзіцё кармлю?

— Заўсёды ў цябе так.

— А калі ты прыйдзеш, невядома. I ноччу прыходзіш. I пад раніцу з'яўляешся. Пара за розум брацца, сын расце, як на бацьку такога глядзець будзе? Ды ці выхаваеш ты яго?

— Хопіць! Затараторыла. Табе б языком толькі ляпаць.

— На сябе лепш паглядзі. За гарэлкай свету не бачыш. П'е, п'е. I калі ты здаволішся, колькі грошай ляціць! Дзіцяці цацку не можаш купіць, не гаворачы пра другое.

— А што? Хцівасць душыць. Грошы мае, што хачу з імі, то і раблю.

— Не шкада грошай, шкада твайго розуму.

— Не дурней за цябе,— Антон падышоў да буфета, дастаў рэшткі недапітай гарэлкі ў графінчыку, патрабавальна сказаў:

— Давай закусь, і жыва!

Наташа падбегла да Антона, пачала вырываць графінчык.

— Не дам болей! I так цёпленькі...

Антон рэзка штурхнуў яе. Наташа адляцела і ўпала на канапу. Жаласна заплакала дзіцё.







— Ну, усё! Цярпела, цярпела, ды цярпенне маё лопнула,— у роспачы прагаварыла Наташа.— Жыві сам у сваёй хаце, не трэба ні аліментаў тваіх, ні дапамогі тваёй, ні клопатаў! Усю душу ты мне выматаў, вочы ад слёз не прасыхаюць. Болей не ўбачыш мяне.

Антон трохі збянтэжыўся, твар яго наліўся чырванню. Ён пастаяў хвіліну, другую, затым прысеў ля стала, гледзячы на жонку, дэманстратыўна выпіў гарэлку. Закурыў.

* * *

Наступны дзень цягнуўся доўга і нудна. Антон ледзь-ледзь зрабіў апошні рэйс. Загнаўшы трактар на калгасны двор, ён хутка ішоў да свайго сябра Міхася.

Міхась прыняў Антона лагодна. Пасля чаркі, другой у галаве Антона пасвятлела, ён нават заспяваў.

— Вось і павесялеў,— заўважыў Міхась.

— Чаго да сэрца кожную дробязь браць?

— Гэтак,— пасля паўзы Міхась паведаміў:— Жытлянчыха старая памерла.

— Памерла?!— здзівіўся Антон. На некаторы час ён задумаўся, затым прамовіў:— Годы, мабыць. Нам бы да такіх гадоў дажыць. А можа, учарашняе падзейнічала?

— Дык жывая ўчора была.

— А хто яго ведае? Сэрца слабое было ў старой... Сумленне штосьці мучыць.

— Не дуры мне галавы. Хапяні лепш шклянку і — з сумленнем у парадку стане,— сказаў Міхась.

Яны чокнуліся. Выпілі. Прыкусіўшы, Антон глядзеў на шклянку і вачыма быццам прасіў наліць яшчэ. Затым, панура апусціўшы галаву, прамовіў:

— А падумаць, не толк гэта — штодзень піць. Старой — царства нябеснае. А што робіцца ў магазіне, калі прадаюць гарэлку? I самога як давянуць — канцы можна аддаць. Можа, і мы больш вінаваты бываем, а ўсё на другіх зварочваем. Не гадзіцца гэта!

— Антон, штосьці загаварыў ты не тое. Менш у галаву дуры бяры.

— А я штосьці сумнявацца пачаў. Жыць патрэбна па-другому! Мне сям'ю карміць, табе жаніцца патрэбна, а то і застанешся бабылём.

— Ты сёння, мабыць, не з тае нагі падняўся.

— Пайду, мусіць, Наташа чакае, ды і за сынам догляд патрэбен.

Антон выйшаў на вуліцу. На захадзе неба прыняло трывожны чырвона-шэры колер. Падышоўшы да сваёй хаты, Антон заўважыў, што ў вокнах святла няма.

Хата яго сустрэла няўтульнасцю і пустэчай. На падлозе валяліся цацкі сына. У шафе адзення Наташы не было. Ён доўга тупаў па пакоі з кутка ў куток. Потым сеў на канапу і ўсхвалявана глядзеў на сынавы цацкі. Хмель ужо не весяліў яго — ён быў горкі.

# ЗАЙЗДРАСЦЬ

У вёсцы гаварылі, што Лятун чалавек неблагі, шчыры і лагодны, ды і гаспадар прыстойны. Двух сыноў выгадаваў, дапамог стаць ім на ногі і ў самастойным жыцці. Паважалі вяскоўцы яго, але калі Лятун хату новую пачаў будаваць — гэта многія не зразумелі.

Матрона, жонка яго, жанчына была хцівая, але сялянкі зайздросцілі яе гаспадарлівасці. Зараз яна латала кашулю мужа. З вуліцы пачуўся шум аўтамабіля. Матрона падсела да акна, угледзелася: з акна добра было бачна, як ля хаты суседа Балагура спыніўся грузавік, як з яго выйшаў Балагур і нейкі чалавек. Яны пачалі разгружаць цэглу. Матрону ахапіла непрыемнае пачуццё, ёй болей усяго хацелася быць багацейшай за суседа. І калі што ў Балагура лепш атрымлівалася ў гаспадарцы, то ў душы Матроны з'яўляўся едкі неспакой. Муж ёй не адзін раз гаварыў, што зайздрасць да дабра не прывядзе, што трэба жыць сваім жыццём, якое бог дае. Матрона не згаджалася, і часцей такія размовы канчаліся сваркамі.

Матрона латала кашулю і працягвала глядзець у акно. Тым часам Балагур разгрузіў цэглу, пачаў рамантаваць лодачны рухавік, а цераз паўгадзіны ён спяшаўся з касой і рухавіком да сваёй лодкі.

У сенцах нешта загрукатала, адчыніліся дзверы. У хату зайшоў Лятун. Ён моўчкі прайшоў у залу, прылёг на канапу. Матрона, унюхаўшы штосьці, абурылася:

— Што! Зноў дзесьці налізаўся?

— Дзе там налізаўся. Дошкі пілаваў для будынка. Вось з мужычкамі прыйшлося выпіць трохі,— апраўдваўся Лятун.

— Дошкі дошкамі, а без гэтага не можаш ты. Грошы толькі сееш па ветру. Вось Балагур і цэглы на гараж прывёз, і чысты як шкельца. Ды ўжо за возера папёр на сенажаць.

— Ну і што? Балагуру Балагурава, а ў нас сваё. Няхай возіць, няхай косіць, а я адпачну, вельмі стаміўся.

— У Балагура хутка будзе машына ў гаспадарцы, а ты хату ніяк дабудаваць не можаш,— не супакойвалася Матрона.

Выслухаўшы жонку, Лятун спахмурнеў.

— Ты, чортава баба, задумала гэта,— раздражнёна адазваўся ён.— Я б і ў старой хаціне дажыў свой век.

— Лайдак! Аб сынах падумаў бы. Прыедуць з нявесткамі, з унукамі, а ў цябе і прыняць няма куды!

— Знайшлі б месца. Вось пакой пустуе.

— Ох і пакараў мяне боженька з гэтым лайдаком! Без мяне ў лахманах валяўся б ля паркана.

— Адстань, чортава баба! — раззлаваўся Лятун.

— Як адстань, на сенажаць ідзі. Да вечара далёка яшчэ.

— Рэшткі засталіся, паспею. Трава не згарыць.

— Не падняць! Лёс мой горкі. Адны мукі!







— Ды мне з табою болей мучэння,— сярдзіта сказаў Лятун. Ён падышоў да акна, паглядзеў на вуліцу.— Хмары апускаюцца, магчыма, навальніца будзе.

— Балагуру і другім мужыкам хмаркі ніпачым. А ён, што б ляжаць, сто прычын знойдзе.

— Супакойся, чорт цябе бяры,— узрушана гаварыў Лятун, абуваючы боты.

— Касіць можна ў любое надвор'е, гэта не грэбці,— не сціхала Матрона.

— Можа, яшчэ і «Жыгулі» хутка захочаш? Бачу, як вочы заблішчэлі, на месцы ўсядзець не можаш. Ох ужо гэтыя бабы! — цяжка ўздыхнуў Лятун, затым узяў торбу з ядою. Не марудзячы, выйшаў у двор, узяў лодачны рухавік, касу на плячо.

Матрона выбегла ўслед.

— Даўно б так, а то мне ўсё штурхаць трэба. Сам павінен здагадацца, што рабіць. Дакосіш ды яшчэ займі сенажаць.

Лятун моўчкі крочыў да возера.

Матрона пачала гатаваць вячэру.

Нечакана малыя хмаркі, што гулялі па небе, пачалі прыкметна расці, яднацца ў вялікую цёмную хмару, якая нізка апусцілася над возерам, вёскай. Разарваўшы неба, бліснула маланка. Дзесьці побач улупіў пярун. Пайшоў праліўны дождж, ён шумеў доўга і нудна, і здавалася, што ўсе гукі прапалі кудысьці. Толькі бліскалі маланкі, білі перуны.

Твар Матроны быў злы. Яна не адчувала сваёй віны перад мужам. У душы яе з'явілася незадаволенасць: «Трэба было быць гэтай навальніцы. Працаваць няма як!»

Дождж ліў доўга.

Цёмная ноч зглынула хаты, дрэвы, возера. Дождж прыціх. Наступіла цішыня. Прыціхлі і вясковыя сабакі, напужаныя грымотамі.

Матрона чакала мужа, але ён не з'явіўся ні ноччу, ні раніцай, ні на наступны дзень.

* * *

Вясковыя мужчыны знайшлі лодку ў чароце на возеры. Яе пазналі — лодка была Летуна. Яго шукалі, але не знайшлі. Па вёсцы папаўзлі чуткі: адны гаварылі, што Лятун утапіўся, другія — што ўцёк ад Матроны да другой жанчыны ў горад ці ў другую вёску. Лодку штурхнуў у возера, яе хвалямі і прыбіла ў чарот.

Возера — нямы сведка. Часам яно ціхае, часам шуміць, але і да гэтага часу хавае свае таямніцы.

Мал. **П. Багданава**



## *Алесь Камароўскі*

◆

Губляюцца фарбы, адценні
У словах,
у звычаях,
людзях...
Шкада, што яны —
у адзенні...
А можа, не мы гэта —
Цені,
Якія сябе і не будзяць?
Сціраюцца тонкія грані —
Няўжо мы не бачым, не чуем? —
У дружбе,
сяброўстве,
каханні...
Пакрыўдзіў,
абразіў,
параніў...
Ці толькі ў нас чэрствасць начуе?
І рыцарства збегла ў паданні,
Прапалі герояў манеры...
Ці проста, як здані, памерлі...
Якое ж у нас апраўданне?
Характар,
натруджанасць,
нервы...
Халодныя к нечаму болю,
Даём не руку, а пароду...
А мы ці гатовы з табою
Да смелага, жорсткага бою
За сябра,
за слова,
за праўду?
Нам потым лічыць недароды,
Бо сеялі часта на вецер...
Ідзе размыванне пароды...
Вось так паміраюць народы:
У нас,
А пасля — і у дзецях.

Губляем,
сціраем
і рушым,
Хоць моцна крычым:
«Не сказіце!»
Народам народжана —
тушым...—
Губляем сябе мы і душы,
А ў што пераходзім?
Скажыце!

◆

Імёны... Імёны...
Славутых, выдатных...
Архівам балюча
Іх доўга лічыць.
Трыццатых распятых
Здранцвелыя даты...
І не адагрэць іх,
І не адлячыць.

Чаму ж не крычалі,
Чаму не паўсталі?
Ці вера туманам
Ахутала зрок?
Каршуністым вокам
Бязлітасны Сталін
Над цэлай краінай
Узводзіў курок.

Гісторыі цяжкай
Ліхія папрокі
Агорваць і нам,
Як балючы дакор...
Ды толькі няхай жа
Такія урокі
Сабе не шукаюць
У людзях паўтор.



Тады расстраляны,
Ці быў ты апошнім?
Нячутна крычыш...
Ці з надзеяй маўчыш...
На берыеўскім полі,
На сталінскай пожні
Грымотна дрыжыць
Прыуздымлены крыж.

## У ЛЕСЕ НА ІСЛАЧЫ

Такі ж ён лес, як і тады!
Пярэрвы ў два гады не меў:
Як паўвярсты да барады,
Сасонак выраслі рады...
Ды, лес, чаго ж ты анямеў?
Чаканне ў навісі галін,
Ядловец выяршыў асцё...
Ды не распальваюць гілі
На снезе ўзвіхраны касцёр.
«Які пранёсся ураган,—
Трывогу будзяць леснікі,—
Па гэтых ціхіх берагах,
Па дзікіх крылах і рагах?»
Не скажа лес — нямы арган,
Маўчаць усе галаснікі.
У ціхай скрусе і жальбе
Галінку кволую крану...
Як быццам стукнулі цябе
І ў сэрцы вырвалі струну...
А дзяцел стомлена дзяўбе
Для птушак новую труну.

## ЖАЛЕЗНЫ ВЕК

Ствараў машыны, адшліфоўваў час,
Прагрэс іх гнаў за вынікам за лепшым...
Мы гэтак жа ад іх цяпер залежым,
Як і яны залежалі ад нас.

Гадуе лічбы бег матораў, шын...
Мы — іх рабы, палоннікі, прыслуга...
Каб нас сейсмограф вартасці праслухаў —
У нашых душах нешта ад машын.

Вялікай тэхнікі задышша і засіл...
Куды вядзе яна: у скон ці ў вечнасць?
Ці не губляецца у гэтым чалавечнасць,
Ці не расце дыктат жалезных сіл?

...Халоднай волі сцяўшы абцугі,
Кую характар, спрамлены, жалезны,
І заўважаю: стаў зусім другі —
Нервовы, злосны, к гору не балесны.

Электраасцылограф закрывіў —
Якое ліха у душу улезла?
Хоць лекі з лесу — толькі у крыві
Не меншае халоднага жалеза.

Не той жалезны век, калі з руды
Метал паліўся вогненным замесам,
А той, калі ў людзей у час круты
Чарсцвеюць сэрцы горай за жалеза.

Ніякіх скідак на імклівы век!
Душа не знойдзе аніякіх лекаў,
Калі ў жалезным веку чалавек
Не будзе заставацца Чалавекам.





# *Змітрок Марозаў*

*Родина и государство —*
*не одно и то ж.*
Владимир Корнилов

Цень матулі, згорблены, балесны,
У траве згубіўся сухадольнай...
Мне ў дзяржаве холадна і цесна,
На радзіме ж светла і прывольна.

З каласком, з былінкай безназоўнай
Адчуваю повязь я жывую...
Мне ў дзяржаве глуха і бязмоўна,
На радзіме ж я пяю і чую.

Зведаў страты, бачыў пот крывавы,
Ды калі губляў я часам сілы,
Паўтараў імя тваё, дзяржава,
Хоць радзіма мне душу гаіла.

Не баюся я дачаснай смерці,
Ды, калі яна мяне падкосіць,—
За дзяржаву я гатоў памерці,
Каб радзіме сто вякоў жылося.



З той даўняй-даўняй даўніны
Ляжаць за вёскай валуны,
Наўкол расце трава густая.

Крык выкапнёвага каня
І гучны рогат варання
Сну камянёў не парушае.
За годам год.
За векам век
Сюды прыходзіць чалавек
З насеннем жытнім...
Ды міжволі,
Пачуўшы рогат груганоў,
Бяжыць ён прэч ад валуноў...
І камянее сам паволі.



Непаўторна, па-летняму звонка
Жніўны будзень згасае ў палях,
Супачыў матылёк-аднадзёнка
На маіх спрацаваных руках.

Я дыханнем яго саграваю,
Я прашу яго ціха: «Жыві!..»
Як і ён, я цяпер адчуваю
Халадок невядомы ў крыві.

Хутка, хутка знямелыя крылцы
Зорным саванам ноч ахіне,
Да нябёс адплыве таямніца...
Разам з ёй і часцінка мяне.

## СПОВЕДЗЬ ЗНАЁМАГА

Тупік, вагоны табуняцца.
Іржавых рэек мёртвы сон.
Мне больш няма куды вяртацца.
Я сам як спісаны вагон.

Не спадзяваўся я на бога,
Сябе кудысьці гнаў і гнаў...
Калі пранеслася эпоха,
Я не заўважыў і — адстаў.

Адстаў, калі мы даганялі,
Касцьмі ўсцілаючы свой шлях...
Адстаў, калі пераганялі
З крывавай пенай на губах.

Адстаў, калі каціў калёсы
Перад эпохі цягніком...
Згубіў я мудры дзедаў посах
І шлях канчаю тупіком.



Ад этапа да этапа —
Праз віхурны, золкі час...
Ні Хрыстос, ні рымскі папа
Не памоляцца за нас.

Нашы храмы як пагосты —
Зрокся іх відушчы бог,
Бо касцямі ўсланы вёрсты
Паэтапных перамог.



Па віхлястых сцежках і дарогах пыльных
Вымятаўся з вёсак вырай малады...
Ля хацін самотных і крыжоў магільных
Зараслі травою нашыя сляды.
На якіх сцяжынах страцілі мы веру?
Мо растрэслі памяць на дарогах тых?..
Не стае нам ладу, шчасця і даверу...
Як чужыя, крочым да магіл сваіх.



Меланхалічныя бярозы...
Рачулкі — мёртвая вада...
Шкада мне пчолак безгалосых,
І кветак хворых мне шкада.
Але душу ізноў хвалюе
Надзея, поўная святла:
«Відаць, не менш цяпер шкадуе
Мяне разумная пчала».



Сярод рамонкавай дзяржавы,
У царстве пчол і матылёў,
Жыцця складанага праявы
Заўсёды бачацца без слоў.

Рамонак сонейку ўсміхнецца.
Слязінку высвеціць раса...
І нейкай лішняю здаецца
Тады жыгучая каса.



Я прад людзьмі ні ў чым не вінаваты,
Але сядзіць у сэрцы і ў касцях
Мільён разоў пракляты-распракляты,
Мой самы люты ў свеце вораг — страх.

Ён ува мне, як спадчынная доля,—
Ад продкаў,
ад язычніцкіх багоў...
Ірвецца страх з нутра майго на волю,
Ды толькі я не выпушчу яго.

Яшчэ мяне пацягне ён на плаху,
Магчыма, ён душу маю распне...
І можа, я памру...
Памру ад страху...
Хай толькі страх закончыцца на мне!



*Віктар Карамазаў*





# РЫЖ НА ЗЯМЛІ І ПОЎНЯ Ў НЕБЕ

**Эскізы, эцюды і споведзь Духу,
альбо —
Аповесць-эсэ
жыцця жывапісца і паляўнічага
Бялыніцкага-Бірулі**

## МЕСА ГРЫГА

*Зося была маім першым каханнем. Яна была незямной прыгажосці.
Я адчуваў у ёй далёкі загадкавы свет
На яе партрэце, які я пачаў*

Незямная прыгажосць патрабавала незямных колераў. Але дзе фарбы, якія б далі святло і колеры далёкага загадкавага свету? У куфэрку і на палітры ляжалі звычайныя, зямныя.

Шукаць незямное святло было пакутай, як і кахаць. Салодкай і разам з тым невыноснай.

*Побыт яе патрыярхальнай сям'і скоўваў нашы памкненні застацца на адзіноце, і толькі ў нядзельныя дні, прыехаўшы ў касцёл да імшы, сярод старых трупехлых магіл нам удавалася пабыць без бабулек і цётак*

Буяла вясна. Па вечарах, як пачынала сутонець, цяжкія хрушчы, прашываючы сваімі бурклівымі палётамі тэрасу, галоўкамі біліся аб шкло вокан і сцены дома, а крыху далей, над агромністым возерам Няшчэрда, уздоўж зарослых трыснягом берагоў, у бок чырвонай, як цёмны крап-лак, зары, ад краёў аздобленай залацістай охрай, неслася пагоня слонак, пагоня зусім не лютая — на крылах таго самага вясновага кахання і вечаровай песні, якія ўсё не даваліся на кончык пэндзля.

*Бачу Зосю ў светлай, з карункамі, сукенцы, якая вельмі пасавала да яе зграбнай паставы*
*Яна была сімвалам мая*
*Яна была тым духмяным майскім ветрыкам, пад якім ажываюць кветкі*

Ён днямі шукаў на палатне патрэбны тон, ловячы сваё натхненне на ўзыходзе сонца, калі першая хваля святла пачынала саграваць лясныя ваколіцы, лугавую раскошу траў, абуджаючы ад начной спячкі кожную кветку, званочкі і парасончыкі, зрывала з азёрнага люстра начную белую коўдру, падсіненую ультрамарынавым золакам, разводзіла па бяскрайнім люстры бірузовую паводку, на якой пачынаў разгарацца дзень. Але ранішняе абуджэнне зямлі і вады не нараджала душы азарэння. Ён шукаў яго пазней, калі наліваўся на сонцы дзень, святло якога здавалася спакайнейшым за святло раніцы, без той ранішняй кволасці, нервовасці, няпэўнасці — спакойнае ў велічы дня. Але і дзень мінаў, пралятаў дні за днямі, блізіўся час ад'езду з Краснаполля, райскага куточка на Віцебшчыне, дзе жылі бацькі, а фарбы на палатне не загараліся полымем, якое паліла сэрца.
І вось аднойчы...

*Я злавіў гукі аргана*

Была ноч, і ўсё пачалося ў сне, калі ўбачыў рыжую бараду ксяндза Каятана. Вочы ксяндза былі зашторапы цяжкімі векамі, быццам ён спаў, але прыгожы круглы твар то азараўся жаўтлява-ружовым святлом, то шэрх, тануў у змроку. Гэта адбывалася пад музыку, падобную на раскаты грому, на гнеў нетраў, які з зямнога палону рваўся да неба, у нябёсы, а тут, на зямлі, разліваў незямное святло, што змывала твар Каятана, на месцы якога адразу ўзнікалі рукі, вялізныя хударлявыя рукі — яны нервова і моцна, нібы спляценні каранёў, білі па белых і чорных клавішах. Дык няўжо то рукі ксяндза? Можа, рукі арганіста Зэліка? Звычайна ў касцёле іграў Зэлік, ён жа флейціст у аркестры на гулянках і бадзяга, але гэтакія рукі былі адно ў ксяндза — вялізныя, моцныя сілаю каранёў, нервова-чуйныя да кожнага гуку тут, на зямлі, і там, у небе,— які таксама неаднойчы садзіўся за арган. Вось яны ўзляцелі высока, на імгненне застылі ў паветры, але адтуль, з вышыні, рынуліся ўніз, у паводку загадкава-фасфарычнага святла, і тая паводка шуганула ўгару, у вышыню нябёсаў, а там, у нябёсах, расплылася па ўсім высокім абшары. Ужо і сябе адчуў на вышыні, на той паводцы, якая выпраменьвала фасфарычнае святло, адчуў, што некуды ляціць, лёгка і свабодна, як можа ляцець дух, ляцеў увесь, з усім сваім целам і духам, і там, на вышыні, пазнаў музыку. То была знаёмая меса, якая часта гучала ў касцёле над возерам, ад якой заўсёды замірала сэрца, а ў маці, што ў час службы стаяла побач, на твары пачыналі блішчаць слёзы.

*Я пачуў месу Грыга*

Расплюшчыў вочы і толькі тады зразумеў, што ляжыць на ложку ў пакойчыку бацькоўскага дома на беразе Няшчэрды. Пахла язмінам і воскам яшчэ цёплых свечак у кубачках прыгожага меднага кандэлябра на круглым століку, дзе ляжаў эцюднік. На кандэлябры ззяла тое самае загадкава-фасфарычнае святло. Усхапіўся, стаў на мяккую коўдру, якая спаўзла ўначы,— усе апошнія ночы спаў неспакойна, і коўдра ляжала на падлозе кожнае раніцы. Акно было прачынена, і гэта адтуль, у прачыненае акно, з саду, у пакой плылі вострый водар язміну і святло ночы. Падышоў да акна, расхінуў шырэй і ў начной піжаме скочыў у сад. Сад залівала тое самае святло, што ляжала на кандэлябры ў спальні, што бачыў у сне, якое змывала твар і рукі ксяндза Каятана і нараджала музыку аргана. Але тут яно лілося на зямлю з неба, праз створ яловай алеі, між кронаў старых высозных яблынь. Калі гэта святло месяца, то дзе месяц? Фасфарысцыравала само неба, ахопленае загадкавым белым агнём. Чулася музыка — меса Грыга.
Ён кінуўся ад дома ў бок алеі, над якой блішчэла неба і чулася музыка. Здалося, што музыка гучыць у касцёле. Яна, аказваецца, была адной стыхіяй з гэтым дзіўным святлом, якога ніколі не бачыў раней. Можа, святло абудзіла касцёльны арган? Не рукі Каятана і не рукі Зэліка, а гэтае незямное святло — нябеснае ззянне?
Мінуўшы алею, выскачыўшы на зялёны газон, спыніўся. Так — гучаў арган, гучала любімая маміна меса. Але не як у касцёле. Тут арганам была сама прырода, небам касцёла — само неба, арганнымі трубамі — патокі незвычайнага, у белым бляску, святла, якое лілося з неба.
Зноў убачыў перад сабою Зосю...

*Мне здалося, што на партрэце, які я пачаў, яна павінна з'явіцца на фоне начных нябёс, жамчужна-фасфарычных*

Кінуўся ў пакой — да палітры. Спяшаўся, баючыся, каб не пагасла фасфарычная гама ночы, яе ззянне, якое якраз і было доўгачаканым святлом, каб не замоўкла меса. Калі здавалася, што неба гасне, свят-

Зрабілася холадна, няўтульна, жахліва. Вольга Іванаўна памерла сорак гадоў назад ад сухотаў. Хто застрахаваны? Ці ёсць такі — хоць адзін? Памерла ў сваім доме — у Маскве, у Варатнікоўскім завулку. Люба была пры ёй. А ён — пры ёй? Чаму развяліся? Хто вінаваты? Любіў жанчын? Была Ніна, Любашына бона, якая жыла з імі, у іх доме? Як жа ты?..

*Мая мілая, бясцэнная мая! Так хочацца, каб ты мяне зразумела, каб была да мяне бліжэй.*

Каб дачка зразумела і апраўдала? Але яшчэ тады — ці магла яна цябе зразумець, калі ты адпіхнуў ад сябе яе маці? Ці не тады паміж бацькам і дачкою свет раскалоўся? «Не, не! — запратэставаў голас адваката.— Люба мяне любіла і любіць. Я не пазбаўляў яе маці. Яна гэта ведае». Вольга Іванаўна сама пайшла. Не вытрымала — шмат жанчын акружала мужа? Гэта — так. Але ён не хаваўся. Яны былі ў іх у доме, за сталом. Рэўнасць? О, гэта — жах! Але ці магла Люба ў той час іх зразумець? Колькі ёй было? Гадкоў дванаццаць? І яна таксама любіла Ніну Аляксандраўну. Пасля смерці Вольгі Іванаўны любіла яе, як маці. Нядоўга? Так — праз колькі год памерла Ніна Аляксандраўна. Таксама ад сухотаў. Чаму ўсе — ад сухотаў, першая і другая? Што за хвароба? Кажуць, сухоты — ад душэўных пакут? Але жылі заўсёды цікава, у дастатку. Пакуты душы бываюць і ў дастатку? Зрэшты, чаму, калі не лічыш сябе вінаватым, просіш дачку, каб яна цябе зразумела? Дапускаеш, што можа не зразумець? Магла не зразумець?

Аб гэтым яшчэ ніколі не думаў з жорсткасцю да самога сябе, заўсёды даваў права гаварыць аднаму адвакату. Але цяпер пракурор няўмольны, пераканаць і абвергнуць яго ўсё цяжэй. Лягчэй проста не чуць. Заткнуць вушы? Зрабіць выгляд, што не чуе? Не, лепей чытаць ліст да Любашы, свой ліст з далёкага часу, чытаць і чытаць, не адрываючыся, не даючы сабе думаць.

*Пасля Сібіры ты яшчэ да мяне не вярнулася. Ты мяне любіш, я гэта ведаю, любіш не менш, як раней, але мы з табою ўсё далей і далей адно ад аднаго. Паміж намі нейкая сцяна. Я імкнуся да цябе, але ты далёкая, і зноў, убачыўшы цябе, я, нібы смоўж, хаваюся ў сваю шкарлупіну*

**Заканчэнне ў наступным нумары.** Мал. **У. Лукашыка**



## *Уладзімір Скарынкін*

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ З МІХАЛАМ ГЛІНСКІМ

### Фрагменты з паэмы

**Пачатак XVI стагоддзя азмрочаны крывавымі войнамі Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзіла тады Беларусь, з крымскімі татарамі і Рускай дзяржавай. Значную ролю ў гэтых войнах адыграў князь Міхал Львовіч Глінскі. У 1506 г., калі польскім каралём і вялікім князем літоўскім быў Аляксандр (1461—1506), Глінскі разбіў пад Клецкам крымскіх татар. Хуткае ўзвышэнне Глінскага пры Аляксандру выклікала незадаволенасць радавітых феадалаў. І пад іх уплывам новы вялікі князь літоўскі Сігізмунд І (1467—1548) пазбавіў славутага ваяводу ўсіх пасад. Міхал Глінскі адважваецца на паўстанне і пасля яго падаўлення ў 1508 г. прымае запрашэнне вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ (1479—1533) і прыязджае ў Маскву. У 1514 г. дапамагае Васілю ІІІ авалодаць Смаленскам, які быў далучаны да Вялікага княства Літоўскага ў 1404 г. Вітаўтам. Але ў сувязі з тым, што маскоўскі князь не выканаў свайго абяцання зрабіць Глінскага смаленскім ваяводам, вырашае вярнуцца ў Літву, звязваецца з Сігізмундам і натхняе яго на бітву пад Оршай, якая закончылася цяжкім паражэннем васьмідзесяцітысячнай раці Васіля ІІІ. За здраду славуты князь быў закаваны ў ланцугі і зняволены. Пасля таго, як жонкаю Васіля ІІІ стала пляменніца Глінскага, вызваляецца з-пад варты і мае вялікі ўплыў на дзейнасць маскоўскага двара. За ўдзел у змове ў 1534 г. яго зноў садзяць у турму, дзе ён і памёр.**

**І**

Самаахвярна з вераю сляпой
У справядлівасць рыцарам з Ламанчы
Я вёў з няпраўдаю няроўны бой —
Агонь падранкам б'ецца на ламаччы.

Там, дзе зайцоў пужаюць пугачы,
Наступнік нечы, нечы папярэднік,
Я размаўляю з духамі ўначы.
Агонь кастра — наш медыум-пасрэднік.

Аблiччаў невядомых мне святло
Займаецца над сцежкаю лясною.
І раптам князя Глінскага чало
З'явілася чамусь перада мною.

Дух вогнішча рвануўся ў небасхіл
Злым, агнядышным, шматгаловым змеем.

— Я вельмі спадзяюся, Міхаіл,
Што мы адзін другога зразумеем.

— Мае памылкі і мае грахі,
Аднак, апісваць я табе не раю.
«Нязведаны гасподнія шляхі!» —
Я паўтараў і зараз паўтараю.

— Мінулае не аднавіць ніяк.
Я гэта разумею, ваявода.
І разумею добра. Толькі як
Быць з гістарычнай памяццю народа?

— Навошта аднаўляць і шанаваць
Крывавую гісторыю захопаў?
Ва ўсе вякі любілі забіваць —
Было работы шмат у далакопаў.

Каго п'яніла кроў, нібы віно,
Глядзіць і сёння, як архангел з фрэскі.
Да мора нехта прасякаў «акно»—
Ляцелі навакол не толькі трэскі.

— У нашай шматпакутнай старане
Жылі спрадвеку богшы і багрымы.
Аднак цікавіш зараз ты мяне,
Ваяр нязломны і непрымірымы.

Каб нашым краем пагарджаць не мог
Ніхто ні з імператараў, ні з ханаў,
Ты крымчакоў ля Клецка перамог,
Ушчэнт разбіў нахабных басурманаў.

— Усеяна была тады зямля
Іх трупамі ад Лані і да Цэпры.
Са злосці трупы гэтыя пасля
На часткі рвалі і ваўкі, і вепры.

— Прыйшло няшчасце жніценькай парой
У край, дзе зараз Ялта і Масандра.

— І быў бы я — праслаўлены герой,
Каб смерць не даканала Аляксандра.

— Высакародны і сумленны вой,—
Ты стаў ахвярай подлых нагавораў
І ўтаймаваць не здолеў нораў свой —
Упарты, горды, незалежны нораў.

Усіх пасад пазбавіў Сігізмунд
Цябе — праслаўленага ваяводу.
І ў гневе ты адважыўся на бунт,
Мячом цяжкім выказваеш нязгоду.
Бязлітасны, рашучы і круты,
З упартасцю і з фанатызмам дзікім
Русь Кіеўскую адрываеш ты
Ад княства, што здаўна завуць Вялікім.

Аднак і з дапамогаю Масквы,
Якая стаць вялікаю хацела,
Ты адарваць не здолеў ад Літвы
Ніводнага маёнтка і надзела.

Не пажадала шчодрая зямля
Стаптанай быць чужымі капытамі.
І ты ў Маскву да князя Васіля
Тады падаўся з роднымі братамі.

Абразліва за пераможны бой
Такую атрымаць узнагароду.
Але, скажы, як ты — славуты вой —
Радзіме здрадзіў і свайму народу?
Як мог ты маскавіту Васілю
Прапанаваць свой розум і паслугі?

— Служыць не мог я болей каралю,
З якім сябруюць хамы і падлюгі.

Як паступіць па-іншаму, скажы,
Калі, славуты, у сваёй краіне
Ты пагарджаны ўсімі і чужы,
Нібы жывеш дзе-небудзь на чужыне?

— Скажы тады, як мог у ложку ты
Забіць свайго паклёпніка ў Гародні,
Як ты адважыўся, хоць не святы,
Парушыць шосты запавет гасподні?

— Род Глінскіх пачынаецца з Арды.
Падаграваў струмень крыві татарскай
Кроў гордую маю... і не заўжды
Спраўляўся я з натураю бунтарскай.

Аднак я ні аб чым не шкадаваў,
Забіўшы Забярэзінскага Яна.
Парыў свяшчэнны мною кіраваў:
Не можа подласць жыць беспакарана!

Паклёп страшней за дзіду і за меч.
У ход пускалася старая зброя —
І галава злятала з дужых плеч,
Нікчэмны хам перамагаў героя.
Павінен ведаць кожны чалавек:
Хрыстапрадаўцу не міне расплата!

— А ты баяўся смерці?

— Я свой век
Пражыў, з пагардай гледзячы на ката!
Ніколі не палохалі мяне
Ні шыбеніца, ні касцёр, ні плаха.
Пляваў я ў твар нахабны сатане,
Ні бога не баяўся, ні алаха.

Я смерцю пагарджаў, хоць разлюбіць
Да старасці не змог жыцця зямнога.
Таму лічыў, што ворага забіць
Намнога лепей, чым сябе самога...

Сказаў і знік. На сіні-сіні снег
Кладуцца сінія густыя цені.
Сузор'яў шоргат і сабачы брэх.
Ля поўні хмаркі, быццам летуценні.

Усё як у мінулыя часы.
І бліскаўкі на снезе, як паходні
Мяцежнікаў, якія праз лясы
Зімовай ноччу скачуць да Гародні...



2

Гарыць над лесам Вега каганцом.
Мацнее вецер — і яго парывы,
Здаецца, развяваюць над кастром
Чырвоных коней залатыя грывы.

І Глінскі зноў з'яўляецца, як маг.

— Мне сніўся, князь, ты неаднаразова.
І спадзяюся: будзе мець працяг
Табою абарваная размова.

Ты не нацягвай крыўды цецівы.
Удзячны вельмі буду я, калі ты
Раскажаш мне цяпер, як у Літвы
Смаленск адваявалі маскавіты.

— Даўно хацеў да рук сваіх прыбраць
Крывіцкую сталіцу князь вялікі.
Ішла ў паход шматтысячная раць,
Пагрозліва шчаціліліся пікі.

Абараняўся стойка Салагуб.
Баяўся князь ісці ў паход чарговы.
Таму, напэўна, і зляцелі з губ
У князя Васіля такія словы:

«І Навагрудак, і Мазыр, і Менск
Ты мне паднесці абяцаў на блюдзе.
Дык вось што, Міхаіл: вазьмі Смаленск —
І ён тваім, я абяцаю, будзе».

І я паверыў клятве Васіля,
Як дурань, перад ім развесіў вушы,
Хоць ведаў, што ў цара і караля
Прадажныя і звілістыя душы.

Ад выбухаў абсягі загулі,
І над Дняпром расплыўся дым калматы.
Ды мужных абаронцаў не змаглі
Паставіць на калені і гарматы.

Я скласці зброю ўгаварыў смалян!
З Масквою дружбу мацаваць наяве
Са світаю прыбыў у рускі стан
Епіскап Варсанофій неўзабаве.

Вартаўнікі каля варот былі
Урачыста зменены маскоўскай вартай.
Да ранку ў княжацкім шатры пілі
Духмяны мёд — хто брацінай, хто квартай.

Смаленскі люд узрушана вітаў
Сваіх адзінаверцаў-маскавітаў,
Бо князь маскоўскі пазбаўляць не стаў
Смалян ільгот, якія даў ім Вітаўт.

Затое хітры, крывадушны князь
Не выканаў мне дадзенага слова.
Змываў з душы яго насмешак гразь
Я у Дняпры, але беспаспяхова.

І вырашыў я,
ганарысты вой,
Які не ўмеў ні дагаджаць, ні гнуцца,
У край лясны, у край азёрны свой
Употай як мага хутчэй вярнуцца.

І Крычаў, і Дуброўна, і Мсціслаў
Здаліся князю Васілю без бою.
Да Менска ён палкі свае паслаў,
Бязмежна задаволены сабою.

Свяціўся князь гнілушкамі вачэй,
Ды я неспадзявана карты зблытаў.
Параіў Сігізмунду я хутчэй
Ісці насустрач войску маскавітаў.

Дзе ля Крапіўны дзьмухаўцы гараць,
Была тады Астрожскім Канстанцінам
Васьмідзесяцітысячная раць
Разбіта ўшчэнт — бог дапамог літвінам!

Шкада, што перад бітваю, калі
Да Сігізмунда я ўцякаў са стана,
Ахоўнікі маскоўскія ўзялі
Уцекача пад варту нечакана.

Пасля, як верны служка сатаны,
Які не мае права жыць свабодна,
Я закаваны быў у кайданы
Пад радасныя крыкі прынародна.

Не ўзяў Смаленск Астрожскі Канстанцін.
Не піў пад гоман ваявод літоўскіх
Ён у Смаленску візантыйскіх він.
Стаў горад вотчынай цароў маскоўскіх.

Сякерай не адсек мне галаву
На пласе кат, вялізны і кудлаты.
Як здраднік, быў адвезены ў Маскву
Я ў кайданах і кінуты за краты.

Сказаў і знік. На радасць лесунам
Гайдае вецер сосны шапаткія.
Такое адчуванне, быццам сам
Я закаваны ў кайданы цяжкія.

3

Няхай грыміць над галавою гром!
Павернецца да змагара фартуна.
Узносіцца высока над кастром
Дух Яна Гуса і Джардана Бруна.

Жывым ганебна гнісці і смярдзець.
Хай лепей крута абарвецца сцежка.
Мне жудасна на полымя глядзець:
Нібы хрыбетнік нечы, галавешка.

І зноў перада мною паўстае
Князь Міхаіл, у кайданы закуты,
Асуджаны за подзвігі свае
І за свае памылкі на пакуты.

Хачу яго я лепей зразумець.

— Міхал, а што, калі б наканавана
Была табе пакутніцкая смерць
Джардана Бруна або Гуса Яна?

— Мне долю горшую далі багі!
Няма, напэўна, лёсу безвыходней,
Чым закаваным быць у ланцугі.
Намнога лепш на момант стаць паходняй.

Усё жыццё я кайданы б насіў.
І радасныя не насталі б змены,
Каб раптам князь Васіль не папрасіў
Рукі маёй пляменніцы Алены.

Усе са мною раіліся зноў,
Мяне не абмінала зноў пашана.
Мяне апекуном сваіх сыноў
Вялікі князь прызначыў нечакана.

— Памёр Васіль — і кінула цябе
Пляменніца-рэгентша зноў за краты.
Мяне сумненне, Міхаіл, дзяўбе:
Няўжо не быў ні ў чым ты вінаваты?

Няўжо абвінаваціла дарма
Цябе ў імкненні захапіць уладу
Вялікая княгіня, што сама
Прасіла ўсіх тваю прабачыць здраду?

— А я не буду ад цябе скрываць
Сваіх намераў і задум таемных.
Рабіў усё я, каб абмежаваць
Уладу крывадушнікаў нікчэмных.

Абразліва, калі не «по уму»
Займаюць людзі алтары і троны.
Не мог я супакоіцца: чаму
Сядзяць у гнёздах беркутаў вароны?

— Пераканацца ў праваце тваёй
Даўно змагла бяспраўная галота.
Слязьмі і потам, ганьбай і крывёй
Аплачваецца царская дурнота.

Ды да тваіх сцвярджэнняў і заяў
Аднешуся я вельмі падазрона.
Хто і калі, скажы мне, права даў
Табе рашаць — хто беркут, хто варона?

Ацэнкі не бясспрэчныя твае.
У кожнай з'явы шмат адценняў розных.
Масква асанну Грознаму пяе,
А палачан пужае слова «Грозны».

Ты, думаю, не запярэчыш мне.
Суровы, хваравіты, бессардэчны —
Калісьці нашых продкаў у Дзвіне
Тапіў бязлітасна твой падапечны.

І можа, добры хлопчык-весялун
Зрабіўся злым і крыважэрным катам,
Таму што быў ягоны апякун
Злапамятным, бязлітасным, зацятым?

— Магчыма, і дарэмна я парой
Нацягваў помсты цеціву тугую,
Ды я не згодны з прымаўкай старой:
«Ударанць па шчацэ — падстаў другую».

У гэта я — зняслаўлены ізгой —
Не верыў і ніколі не паверу.
Калі адцята галава — другой
Ты шыі не падставіш пад сякеру.

— Тваё жыццё — кашмарны страшны сон.
Прызнайся мне па шчырасці, чаму ты
Заўсёды лез, як кажуць, на ражон,
Арлом глядзеў, і ў кайданы закуты?

— А як інакш? Звычайна беражом
Чамусьці мы жыццё, а не сумленне.
Ні перад кім не поўзаў я вужом,
Лісліўцам крывадушным на здзіўленне.

Я кату гаварыў у вочы: кат!
Была мне гордасць лепшаю апорай.
Ніколі я не патушыў пагляд
Адчаем і агіднаю пакорай.

І ты сваіх вачэй не патушы
Развагай горкай аб уласным лёсе.
Калі ў тваёй прасветленай душы,
Як на высокім сонечным уцёсе,
Арлы гняздзяцца, а не кажаны,—
Ні ланцугі не страшаць, ні пакуты.

Страшней, калі ў цяжкія кайданы
Не ты, а твой уласны дух закуты.

— За кратамі памёр ты ў кайданах,
У славу і свабоду закаханы.
Памёр на дзіва ціха, як манах,
Зняважаны і подла абылганы.

І хвалі часу твой жыццёвы след
Даўно б размылі, каб не летапісцы,
Якія гістарычны твой партрэт
Намалявалі па штрыху, па рысцы...

І, як у папярэднія разы,
Сказаў і знік у гушчары адразу.
Па дыванах — з імху і дзеразы —
Пайшоў, не дачакаўшыся адказу.



 

*Віктар Гардзей*



**АПАВЯДАННІ**

# ВЕРАБ'І НА ВІШНЯХ

Вуліцы, здавалася, не будзе канца: пясчаная, мала ўезджаная трактарамі і машынамі, яна віхляе міма белых выспаў і балотцаў, уторкнецца ў чыюсьці сялібу і, зрабіўшы паваротку, улукаткі бяжыць паўз старыя платы, над якімі і тут, і там звесіліся чырвоныя каснікі даспелых вішань. У Толі Кандратовіча, высокага белабрысага хлопца, ад хадзьбы не баляць ногі, не смыляць падэшвы — проста яму абрыдла доўгая малапрывабная вуліца, і толькі адзін усявышні, бадай, ведае, калі яна скончыцца. Трэба ў кагосьці спытаць, як прайсці на брыгадны двор, але ў пяску каля кожных варотцаў капаюцца, быццам куры, мурзатыя галапузікі, і Толя дзівіцца, што ў Разжалавічах дзятвы, як бобу. Каля скасабочанай брамкі, дзе гэтага плаксівага бобу ў пяску насыпана асабліва густа, раптам чуецца суровы камандзірскі голас:

— Стэфа, Стэфа! Шворабы вішню дзяўбуць!

За плотам, усунуўшы рукі ў кішэні, з начальніцкім выглядам стаіць саракагадовы віслагубы мужчына ў клятчастай кашулі, і Толя не вытрымаў — спытаў:

— Дзядзька, а што гэта за шворабы такія?

— Дак хіба ж ты не ведаеш? Вераб'і па-нашаму!

Стэфа, маленькая, сухая кабетка, пакорліва хапіла сукаваты ражон і стрымгалоў пабегла да бязладна рассыпаных па ўсім падворку вішань, на якіх кучамі ўселіся няўедныя «шворабы». Віслагубы збоку назірае, як спаўняецца яго каманда, і твар ажно цвіце ад задавальнення, што напалоханыя крыкам вераб'і шуснулі з вішняку на страху пахілага хлява.



 

— Кыш-ш адсюль, аблудныя!— крычыць разгарачаная Стэфа.— Хутка і ў Ганцавічы, на базар, нечага будзе занесці.

— Ты на вішні розных матузоў навешай. Вецер іх будзе целяпаць, дак шворабы і пабаяцца,— раіць мужчына, нават не скрануўшыся з месца.— А то пудзіла пастаў. Вучыць трэба!— Тут ён павярнуўся, убачыў, што Толя ўсё топчацца каля брамкі, і спытаў з цікавасцю:— Чый жа ты будзеш? Нешта не прыпамінаю.

— Я не тутэйшы. Сюды, у Разжалавічы, пасля тэхнікума мяне брыгадзірам прыслалі,— сказаў Толя і даверліва паглядзеў на незнаёмага.— Мо падказалі б, дзе тут знайсці нейкага Сцяпана Кавальчука? Брыгадныя справы трэба ад яго прыняць.

Нейкі момант віслагубы збянтэжана лыпаў вачыма, затым пачухаў пераноссе і як бы нехаця прызнаўся:

— Дак я ж і е Сцяпан Кавальчук. Божай літасцю ўчарашні брыгадзір. Ну што ж, — пайшлі ў кантору.

— Пустадомак, сцягач несусветны! — злосна кінула ціхая і пакорлівая Стэфа, якая збоку моўчкі прыслухоўвалася да іх размовы.— Зноў павалокся да вечара, хоць бы абярэмя дроў накалоў!

— Э, не слухай ты яе, шалапутную,— буркнуў незадаволена Сцяпан Кавальчук, адчыняючы нагою брамку.— Завялася! Тарахціць, як малатарня.

Канторка брыгады, што тулілася ў нейкім закутку пры ўездзе на жывёлагадоўчую ферму, нагадвала сабачую будку: цесна, брудна, на даўно не мытай падлозе папрысыхалі гугі гразі. Каля сцяны, з якой ашмоццем звісалі парваныя шпалеры, стаяла паламаная шафа, бліжэй да акна падсунуты раскірачаны стол з пашарпаным тэлефонам і старасвецкімі лічыльнікамі.

— Ну, во глядзі, якое тут у нас багацтва,— як бы вінавацячыся, развёў рукамі былы брыгадзір.— Увесь прастол — тэлефон ды стол.

— Але ж, не густа,— расчаравана сказаў новы брыгадзір.— Толькі царскага жазла не хапае.

Сцяпану Кавальчуку, адчувалася, было няёмка, мо нават і сорамна перад маладым хлопцам, сваім зменшчыкам, і ён нервова мітусіўся па цесным пакойчыку, падхіхікваў без дай прычыны, потым, відаць, нешта ўспомніўшы, падбег да шафы, рыпнуў абвіслымі дзверцамі.

— Ах, не галава — качан капусты! — паганіў ён сваю грэшную галаву.— Пра самае важнае, пра свой брыгадзірскі кает, забыў! — Пакорпаўся ў шафе, падаў Толю «кает»— звычайны вучнёўскі сшытак, згорнуты напалам, пакамечаны, пашарпаны, мабыць, ад таго, што не адзін дзень тырчаў у халяве брыгадзірскага бота.— То спісак брыгады.— Сцяпан Кавальчук бразнуў дзверцамі і хоць адным пахваліўся:— Што да бухгалтэрыі, то ў мяне тут поўны парадак! Камар носа не падточыць.

Сур'ёзна, не прымаючы жартаў свайго папярэдніка, Толя Кандратовіч пераглядаў спіс членаў брыгады, і крывыя, не дужа чытальныя літары з вучнёўскага сшытка нічога незвычайнага яму не сказалі б, калі б насупраць некаторых прозвішчаў не стаялі дзіўныя паметкі: то крыжык, то нулік, то нейкі магічны квадрацік. Незразумелымі значкамі былы



брыгадзір, відаць, зашыфраваў сваю, аднаму яму вядомую тайну, якая магла тычыць важных брыгадзірскіх спраў, а магла быць і звычайным чалавечым дзівацтвам.

— Спіс, канечне, добра, але што гэта за дзіўныя крыжыкі, нулікі, квадрацікі? — падняўшы вочы ад сшытка, спытаў Толя, заінтрыгаваны брыгадзірскімі паметкамі.— Нейкі тайнапіс як быццам?

Цераз Толева плячо Сцяпан Кавальчук цікаўна зазірнуў у сшытак, нібы ніколі не бачыў яго, сумеўся, запнуўся, але тут жа ўзяў сябе ў рукі і засмяяўся — гучна, на ўсю канторку.

— Дак то ж, браток, хітрая навука. Сам прыдумаў, мой вопыт! Каму б другому — дулю ў нос, а табе скажу, бо хлопец ты, бачу, талковы, змікітлівы.— Ён прыгнуўся над сталом і заскарузлым, пракураным пальцам пачаў вадзіць у сшытку.— Во глядзі — Ева Ральцэвіч. Крыжык стаіць. Значыць, у гэтую хату можна смела заходзіць раніцай і вечарам. На стале заўсёды будзе і чарка, і скварка. Далей. Хто ж далей? Ага — Марцін Амрэйчык. Ого, гэты табе не Ева. Хмельная вадзіца ў Марціна чыстая, як сляза, а на закуску цэлыя свіныя плечы кладзе. Ведай: дзе нулік, там багацей жыве.— Сцяпан Кавальчук увайшоў у азарт і, як строгі настаўнік няздаламу вучню, старанна тлумачыў Толю сваю навуку:— Ну, а цяпер пашукаем квадрацік. Во ён! Гануля Кісялевіч.— Голас яго знізіўся да шэпту:— Толькі табе, хлопец, толькі па сакрэту. Тут, у Ганулі, можна добра і выпіць, і налопацца ад пуза, і ноч не бязгрэшна пераспаць. Так што, каб не бегаць надгаладзь, запамінай, дзе крыжыкі, дзе нулікі, дзе квадрацікі.

Яшчэ калі па крывой пясчанай вуліцы яны блыталіся на брыгадны двор, Толю Кандратовічу карцела спытаць у Сцяпана Кавальчука, за што яго знялі з брыгадзірства, і тут, у цеснай канторцы, гэтае пытанне вісела на языку, але цяпер, калі ў рукі трапіў зашыфраваны вучнёўскі сшытак, яно, тое пытанне, здалося лішнім і недарэчным: і так жа ўсё ясна і зразумела. За вопыт, за добрую навуку трэба было падзякаваць — хоць дзеля прыстойнасці, хоць дзеля прыліку: былы брыгадзір, лопаючы ад гонару, відаць, і чакаў гэтай падзякі — стаяў каля стала потны, расчырванелы, і ён, дасціпны вясковы шыфравальшчык, у адно імгненне быў збянтэжаны і пакрыўджаны тым, што яго наступнік нават і не падумаў дзякаваць.

— Лухта нейкая — крыжыкі, квадрацікі,— сказаў з недаверам Толя.— Так і будуць людзі раскідвацца сваім дабром.

Сцяпан Кавальчук крыўдзіцца яшчэ больш — бровы здзіўлена паўзуць угору, ніжняя тоўстая губа адвісае, у куточках шырокага жабінага рота выступае пена.

— Смаркач! Блазнюк! І ты мне не верыш? Мне, Сцяпану Кавальчуку, якога ў Разжалавічах кожная сабака баіцца? Нездарма ж я, хлопец, тут пятнаццаць гадоў з брыгадзірскаю тэчкай бегаў. Бывала, яшчэ толькі дымок узаўецца, а мне і свежая чарачка, і гурок з градкі, бывала, кормнік яшчэ не перастане нагамі дрыгаць, а для мяне на прыпеку ўжо скаварада скvірчыць. Не верыш? Тады давай разам пройдземся па Раз-

жалавічах, і ты сам паглядзіш, якія гэта крыжыкі і квадрацікі. Іш ты, Хвама няверуючы!

Вольнага часу ў «Хвамы няверуючага» было багата: брыгадны сход, на якім яго будуць зацвярджаць брыгадзірам, збярэцца толькі вечарам, і, падумаўшы, Толя Кандратовіч згадзіўся:

— Давай пройдземся. Усё роўна з людзьмі трэба знаёміцца, заадно, можа, дзе кватэру напытаю.

Яны ішлі па выбоістай вясковай вуліцы, і збоку было дзіўна глядзець, як Сцяпан Кавальчук мяняецца проста на вачах: то быў злосны і надзьмуты, быццам сыч, а цяпер ідзе спакойны, лагодны, нават вясёлая ўсмешка блукае на губах. Ён безупынку балабоніць языком, і Толя Кандратовіч хутка ўжо ведае, што вёску Разжалавічы сярод лясоў і балот калісьці заснавалі разжалаваныя кацярынінскія салдаты — адсюль і назва вёскі; з таго далёкага часу яна амаль не змянілася: тыя ж старадаўнія смалістыя хаты з невялікімі акенцамі, тыя ж масіўныя, з круглых неакораных жэрдак, платы, тая ж доўгая і вузкая пясчаная вуліца. У жоўтым перасохлым на сонцы пяску купаюцца куры, паквікваюць парасяты, аб жэрдкі і электрычныя слупы шаруюцца старыя мацёры. Дзяцей, здаецца, стала яшчэ больш, чым зранку: гайдаюцца на скрыпучых брамках, галёкаюць на чырвоных вішнях, а нейкі мурзаты карапуз, відаць, будучы славуты біёлаг, заклапочана ловячы чорнага бліскучага жука, улёгся ўпоперак сцежкі, і ні пераступіць яго, ні абмінуць — злева плот, справа — калюжына.

— Прэч адсюль, нягоднік! Растапчу, як жабу,— злуецца Сцяпан Кавальчук. Бярэ малога за шкірку і скідвае са сцежкі.— Бачыш ты! Аніякай павагі да старэйшых.

— Асцярожна! Жука растопчаце,— папярэджвае Толя.

— Ліха яго бяры, погань гэтую,— бурчыць былы брыгадзір, і пад яго туфлем чуецца сухі хруст.

Яны ідуць далей, і ніхто — ні Сцяпан Кавальчук, ні Толя Кандратовіч — не бачаць, не здагадваюцца, якая небяспека павісае над імі. За сваімі крыўдзіцелямі, хапіўшы важкі камень, без плачу, моўчкі бяжыць сярдзіты жыхар Разжалавіч, той самы юны «біёлаг». Ён ужо замахнуўся, ён ужо гатовы шпурлянуць камень, але ў гэты момант, як бы адчуўшы бяду, Сцяпан Кавальчук павярнуўся, убачыў замах на сябе і паспеў злавіць «біёлага» за руку.

— Аддай камень, шалапут, а то вушы на чырвоны мак выраблю! Жука яму шкада.

Камень упаў з краю сцежкі, у запыленыя рамонкі і трыпутнік, а малы з плачам кінуўся ўздоўж плота, распуджваючы курэй.

— Чый жа гэта будзе? Марылін? Зонін? — задумаўся Сцяпан Кавальчук.— Ліха яго ведае. А можа, і мой, такі спраўны ды ўвішны?

— Чаму ў Разжалавічах дзяцей багата? — акінуўшы позіркам шумлівую вуліцу, спытаў Толя.— Ля кожнай хаты — цэлая куча.

Сцяпан Кавальчук зарагатаў, ажно затросся ад смеху, і па ім, па яго ажыўленню было відаць, што дзеці — яго любімая тэма.

— Яно і відаць — нетутэйшы. Сюды ж, у Разжалавічы, калі хочаш







ведаць, толькі нядаўна, гады тры назад, правялі электрычнасць. І дарогу новую праклалі. А так бездараж была — гразь, плюхота. Зімнік цераз балоты перамяце сумётамі, што нават на валах не праб'ешся ў Ганцавічы. Газу і тую рэдка завозілі. А што без газы? Кладзіся ды храпі да раніцы. А зімовыя ночы — доўгія, доўгія. Не дзіўна, што і дзяцей багата.

— Іх жа, такую плойму, і пракарміць нешта каштуе?

— Не бядуй вельмі — хапае пракорму. Ніхто асабліва не рве шлункі,— хітра пасміхаючыся, сказаў Сцяпан Кавальчук.— Мнагадзетныя бацькі так робяць. Народзіцца малое, дак за тыя грошы, што дае дзяржава, накупляюць мукі, а пакуль з'ядуць яе — яшчэ адно дзіця з'явіцца. І зноў — грошы. Купляй муку.

Нешырокая, звілістая вуліца паквіквае, рохкае, кудахча — столькі на ёй усялякай жыўнасці. Каля пахілага плота ў гразі качаецца вялізны рабы вяпрук, і так яму прыемна ляжаць у калатушы, што нават маленькія лянівыя вочкі прыплюшчыў. Сцяпан Кавальчук прыглядаецца да вепрука і нечакана сцішвае крок.

— А гэта ж кормнік Евы Ральцэвіч. Ну але, яе. На тым тыдні быў у Евы, дак бачыў. Зойдзем хіба? Вунь жа і хата Евіна.

— Зойдзем. Пагляджу, як спрацуе ваш крыжык.

Толя Кандратовіч, якога паўдня сноўдаючыся па Разжалавічах, паспеў заўважыць, што тутэйшыя кабеты і дзяўчаты любяць яркія, квяцістыя строі. Ад убору Евы Ральцэвіч таксама не адвесці вачэй. На ёй белая вышываная кофта, саржавая, з фальбонамі, спадніца, на нагах старыя, забрынданыя атопкі. Ева стаіць на парозе, шырока разводзіць рукамі, запрашаючы ў хату:

— Заходзьце, госцікі дарагія. Зараз кароўку падаю, то свежага малачка налью.

— Што нам тваё малачко,— незадаволена чмыхае ў ноздры Сцяпан Кавальчук.— Чаго-небудзь мацнейшага пашукай. Задарма хіба я табе новага брыгадзіра прывёў?

Ева Ральцэвіч кінула мімалётны позірк на Толю, адышлася да печы і, вымаючы адтуль нейкія гаршкі, ласкава сказала:

— Няма ж у мяне нічога, Сцяпанка.

— Як гэта няма? На мінулым тыдні, помню, быў у цябе, дак увесь стол ядою заставіла.

— Не крыўдуй, Сцяпанка, але на мінулым тыдні ты яшчэ брыгадзірам быў.

— Нешта ж, Ева, ты хутка маю дабрату забыла,— пачаў злавацца Сцяпан Кавальчук.— А хіба не табе без слова я і каня даваў, і лепшы сенакос выдзяляў?

— Правільна, і каня, і сенакос даваў. Але ж і я, здэцца, цябе не крыўдзіла. Бывала, забяжыш з ранічкі, дык адразу і на покуць. У адной ручаньцы — шкляначка, у другой — паляндвічка.

— Цьфу ты! Ручанька, паляндвічка. Пайшлі, хлопец, адсюль. Калі б ведаў, што такая скнара, то вясною на сабе соткі арала б.

Евіна маленькая, нізенькая хатка не хоча прымаць няпрошаных гасцей: з покуці на іх злосна касавурыцца нейкі святы барадаты старац, а

даўно не беленая печ шчэрыцца чорным глыбозным зевам. Сцяпан Кавальчук пачынае разумець, што тут нічога не перападзе на губу, і, плюючыся ад крыўды, нагою адчыняе скрыпучыя дзверы. Следам, чырвоны ад сораму, ціснецца ў сенцы Толя Кандратовіч. Ужо ля парога яго дагнала Ева, прытрымала за плячо і прашаптала на вуха:

— Калі ты і праўда наш новы брыгадзір, то забяжы вечарам. Для цябе што-небудзь знойдзецца. А гэты злыдзень і так усіх тут абапіў і аб'еў. Забяжы. Як згаворымся, то, можа, і на пастой вазьму, хочаш — нават і са сталаваннем. Хатка мая дарма што маленькая, але чысценькая. І бакоўка асобная е.

Сцяпан Кавальчук ужо топчацца на вуліцы, і выгляд у яго марны, збянтэжаны і разгублены: відаць, упершыню з ім такі нешанцунак. У смярдзючай лужыне рохкае рабы вяпрук, блізка дзесьці рыпіць калодзежны журавель, адзіную на Евіным двары вішаньку кучна абляпілі крыклівыя вераб'і. Чорных перасппелых вішань амаль не засталося — на галінках скрозь ружавеюць адны голыя костачкі. Гледзячы на вішаньку, Сцяпан Кавальчук прабурчаў:

— Выйшла б, халера, хоць бы шворабаў прагнала.

— Я так і ведаў! Не спрацаваў крыжык,— сказаў, падыходзячы, Толя.— Што цяпер? Будзем нулявы варыянт шукаць?

— Навошта шукаць? Вунь жа цераз тры двары, каля калодзежа, Марцін Амрэйчык жыве.— Учарашні брыгадзір, на здзіўленне, зноў гаваркі, зноў вясёлы, быццам і не было таго панталыку ў Евінай хаце.— О, Марцін — заможны гаспадар, і душа — наросхліст. Ведаеш, чым ён частуе? Ледзь толькі зайдзі, Амрэйчык адразу ў кубелец па свіны кумпяк лезе. Сядзіш за сталом і — ножычкам, ножычкам. Самыя смачныя кусочкі, самае любівае мяска выбіраеш. А кумпячок той на вясеннім сонейку падсушаны, у ядлоўцавым дыме падвэнджаны. Смаката!

Чараваты вясковы багацей і заможнік, які, аднак, гасціннасцю славіцца на ўсе Разжалавічы, завіхаецца на сваім падворку каля новага калодзежа: грыміць вочапам, чэрпае ваду і вядро за вядром вылівае ў прадаўгаватае зялёнае ад сырасці карыта. У такі спякотны дзень каровам і авечкам нельга даваць халодную, сцюдзёную ваду: трэба, каб прагрэлася на сонейку, злецілася — тады жыўнасць не захварэе. Руплівасць гаспадара спадабалася Толю Кандратовічу. Дзіўна толькі, што Марцін Амрэйчык, заняты пільным клопатам, нікога не бачыць, нічога не чуе. Сцяпан Кавальчук па-сапраўднаму абураны: раней жа яшчэ і як добра бачыў! Ніколі дасюль брыгадзір такім ганебным манерам не звяртаў на сябе ўвагу: раз-пораз кхекаў, шумна таптаўся каля плота. Вада ў карыце даўно пераліваецца цераз край, нарэшце і Марціну абрыдла прытварацца: павесіў вочап на крук у зрубе калодзежа, павярнуўся і здзіўлена падняў вочы, як быццам толькі што ўбачыў гасцей.

— А-а, ты, Сцяпан? І яшчэ нехта з табою?

— Гэта брыгадзір новы, замік мяне прыслалі. Так што матай на вус. А дзеля знаёмства не лішне было б і ў хату зайсці.

— Яно, канечне, не шкодзіла б. Але, павер, выгалела ў мяне. Надоечы ўчастковы, каб на яго немач, поўную кадушку брагі вывернуў.



— Няўжо нічога не засталося? — палохаецца Сцяпан Кавальчук.

— Нічога — ні каліўца, ні грама. Вунь у загарадцы два лычы вішчаць. Аднаго заўтра ў Ганцавічы патарабаню. Штраф усё адно прыйдзецца плаціць.— Сцяпан Кавальчук праўду казаў, што ў гэтага чараватага заможніка душа наросхліст. Марцін Амрэйчык стаіць каля старога карыта і ветліва, гасцінна запрашае:— Прыходзьце як-небудзь па часе. Пасядзім, пабалакаем.

— Балакай ужо са сваёй Аўдоццяй!

У зялёным карыце адбіваецца зіхоткае сонца, яно слепіць вочы, і Сцяпан Кавальчук, нават не развітаўшыся з заможнікам, адступаецца ад карыта, шырокім крокам сцібае ўздоўж пачарнелага плота. Толя Кандратовіч ледзь паспявае ўслед. Хлопцу хочацца пажартаваць, з'едліва, злосна хочацца пазбыткаваць са свайго папярэдніка, і калі яны ўжо далекавата адышліся ад Амрэйчыкавай хаты, ён усё ж не вытрымаў — з насмешкай папракнуў:

— Вось дык нуль! Сапраўды, круглы нуль!

— Бяда ж у чалавека. Раней ён такі не быў, заўсёды кумпяк з клуні выносіў.

Пачуваецца Сцяпан Кавальчук не лепшым чынам: апраўдваецца, вінавата выдыгаецца перад Толем, але мала-памалу весялее, выходзіць з утрапення. Да яго вяртаюцца ранейшая самаўпэўненасць і пыха, у голасе зноў чуецца ўладны камандзірскі голас:

— Што там у нас — квадрацік? Тады адразу чэшам да Ганулі Кісялевіч.

Толя Кандратовіч ужо шкадуе, што, раніцай едучы з Ганцавіч, не захапіў якіх-небудзь прыпасаў — хоць бы кусянятка хлеба, хоць бы лычык ліверкі. Боўдзіла, гультай — бегай цяпер, высалапіўшы язык. Сонца даўно перабралася на другую палову неба, у жываце бурчыць: не толькі да Ганулі — да самой бабы-ягі пабяжыш, калі галодны. На ўсялякі выпадак, чуючы слабасць у нагах, ён пытае:

— А ці не атрымаецца з квадрацікам яшчэ адзін круглы нуль?

— Ну што ты, хлопец? Ганулiна хата здаўна ў нас як пастаялы двор. Каго толькі не перавадзіў сюды. Яшчэ ад карэспандэнта пачалося. Быў такі — худзюшчы, доўгі, як цэп. Знарок, хітрун, пад вечар наязджаў і начаваў у Ганулі. Потым у яе дачка, Светка, знайшлася.— Сцяпан Кавальчук суцішыў крок, позіркам акінуў Толю з галавы да ног.— Акурат адных гадкоў з табою будзе. Ну, мо трохі маладзейшая. Пра Ганулю вершык пасля хадзіў. Усе даўно забылі, а я помню. Хочаш паслухаць?

— Хачу.

— Тады слухай. Вось толькі першую куплету забыў.— Толеў не вельмі сціплы спадарожнік задзёр брыль кепкі, пачухаў белую, як сыр, залысіну.— Ага, успомніў.— Пакашляў, прачысціў горла, пачаў:— Пі, Гануля, гэта ж кава! Я і выпіла, разява. Поўны кубачак глынула — не пачула, як заснула. Паднялася — цемнавата. Ні кашулі, ні халата. Мац за грудзі — голы грудзі. Ашукаў, напэўна, блудзень.

Стары сумазброд, перасмешнік і памаўзлівы кот, Сцяпан Кавальчук

гучна, на ўсю вуліцу, рагоча, а Толя Кандратовіч маўчыць, апускае вочы — саромеецца.

— Не журыся, хлопец. Добра нас пpыме Ганyля. Чакай. Вось жа і хата яе.

У Ганулі Кісялевіч, хоць і жыве адна, без гаспадара, хата не лепшая і не горшая, чым у суседзяў. Зрубленая ў просты вугал з неачэсаных смалістых круглякоў, пад белым шыферным дахам, яна ўзабралася на пясчаную выспу і сонечнымі, пафарбаванымі на чырвонае, вокнамі з вышыні ўсміхаецца людзям. Збоку, у лагчыне, стаіць невялічкі хляўчук з паветкай для дроў, з-за хлява выступае рог варыўні, за якой на доўгім вочапе мерна пачэкваецца драўляная бодня. З крутога пагорка ў лагчыну збягаюць уроссып чырванашчокія маладыя вішанькі, і над імі шустрымі чародкамі шмыгаюць усё тыя ж няўедныя вераб'і.

— Ганна! Дзе ты, Ганна? — уладна, па-камандзірску, як надоечы сваёй Стэфе, яшчэ з вуліцы крычыць Сцяпан Кавальчук.— Шворабы вішню дзяўбуць!

Яму, ласаму на дарэмшчыну, сёння хоць раз пашанцавала: не паспеў крыкнуць, а Ганyля Кісялевіч ужо выбегла з хаты. Стаіць на ганку, з выгляду яшчэ маладжавая, мілавідная, стаіць і жмурыцца на сонца — пазнае, ідаць, якое ж гэта ліха прыблыталася да двара.

— Ганyля, мяне, Кавальчука, хіба не пазнала? От новага брыгадзіра да цябе прывёў.

— Ідзі ж, Сцяпанка, бліжэй. I начальнічак малады хай ідзе,— запрашае кабета, і ўсмешка ў яе ветлівая, лагодная.— Я толькі ў хаце венікам махну. Ну, ідзіце ж, хлопчыкі.

Адчыняючы брамку, Сцяпан Кавальчук падміргвае Толю:

— Што я табе казаў?

Бразгае клямка, і ў другі раз на ганак Ганyля Кісялевіч чамусьці выходзіць з поўным вядром вады. Што за дзіва? Лагодная ўсмешка з твару прапала, голас як на жанчыну, то занадта грубы, злы, басавіты.

— Ідзі, мой Сцяпанка, ідзі, галубок! Гэта ж ты ўвесну нейкага начальніка прывёў начаваць? Ты, шэльма! Начальніка як май змаяваў, а мая Светка пухнуць пачала. Незадоўга ў раддом павязу. Ідзі ж, Сцяпанка! — Ганyля Кісялевіч неспадзявана махнула вядром і абліла Кавальчука з ног да галавы, махнула другі раз — і Толя Кандратовіч стаіць мокры, як курыца.— От так, начальнічак! От так! Бачыш, і яму да маёй Светкі захацелася.

— За што, дурніца? За што? — на ўвесь двор рыкнуў спалоханы, збянтэжаны Кавальчук.

— С-сыдзі з вачэй, зводнік, распуснік стары! — ужо змяёю шыпіць Ганyля.— С-сыдзі, а то пабягу ў хлеў, намяшаю чаго ды табе на пустую галамоўзу выверну.

Стары зводнік і распуснік нездарма столькі гадоў бегаў брыгадзірам: ногі вымуштраваныя, лёгкія, імклівыя. Адзін толькі момант — і ён ужо стаіць на тым баку брамкі. Мокрая клятчастая кашуля прыліпла да цела, з брыля пакамечанай кепкі вада цуркам сцякае на ніжнюю адвіслую губу. Сцяпан Кавальчук выціраецца, атрэпвае штаны, і нічога начальніцкага ў ім ужо няма.



— Хто ж ведаў, што той камандзіраваны не будзе спаць у шапку? — уздыхае бядак.— Гэта ж такую свінню падлажыў.

— А мне што казаць? Пры чым тут я?

Толя Кандратовіч гарує побач, спрабуе выкручваць мокрую кашулю, але тут жа махае рукою: сонца яшчэ гарачае, як бачыш высахне. Яму ўсё ж брыдка, пагана, нават страшна: не паспеў і дня ў брыгадзірах пахадзіць, а ўжо аблілі з галавы да ног. Хоць на аўтобус бяжы ды хутчэй у Ганцавічы ўцякай ад сораму.

— Прывыкнеш, хлопец. Яшчэ не такое будзе,— сказаў зусім дасведчана Сцяпан Кавальчук і задумаўся:— Быць не можа, каб усе разжалаўцы адвярнуліся ад мяне? Ёсць жа недзе добрая душа. Ану-ка, хлопец, даставай мой кает.

Толя Кандратовіч паслухмяна выцягнуў з кішэні пакамечаны, таксама мокры, вучнёўскі сшытак з ужо зусім нетаямнічымі крыжыкамі, нулікамі, квадрацікамі і марудна, каб даўжэй пазлаваць свайго нікчэмнага павадыра, на дробныя шматкі пачаў ірваць старонку за старонкай.

— Ты што, зусім з глузду з'ехаў? — ажно спалатнеў Сцяпан Кавальчук.— Як жа будзеш без каета?!

— Не патрэбен мне гэты паганскі кает. У чацвёртай хаце, напэўна ж, даўбешкай па чарапку агрэюць.

На другім баку вуліцы закруціў віхор, падняў угору рой пясчынак, дробныя сухія травінкі, дакружыўшыся да Ганулінага плота, падхапіў тут з трыпутніку і крапівы абрыўкі паперы, адным махам узнёс іх вышэй электрычных правадоў. Убачыўшы ў небе адразу столькі белых мітуслівых матылькоў, на вішнях за пахілым плотам затрывожыліся, бязладна зачырыкалі перапалоханыя прыблудныя вераб'і.

# ВЯРБА

На добры лад, тут, пры самай вуліцы, павінна стаяць нейкае больш прыстойнае дрэва — пушыстая бяроза ці векавы вяз, але на рагу двара паміж струхлелых платоў як на смех вырасла нягеглая, шурпатая, скасабочаная вярба, і сваім сумным выглядам яна, нават зялёная ўлетку, мала радавала старога Струкача. Што ўжо казаць пра нудны асеннi час, калі пад напорам вятроў вярба скрыпела, дрыжала, хадзіла хадуном і яе жаласлівы ці то стогн, ці то плач па начах далятаў у хату і не даваў спакойна заснуць. Гаспадар круціўся з боку на бок, дарэмна прымружваў вочы і, зусім замучаны бяссонніцай, кляўся заўтра ж, як толькі развеецца змрок, спапяліць, знішчыць, спусціць на зямлю нікчэмнае, надакучлівае дрэва.



Вецер аціх толькі пад раніцу, вярба перастала рыпець, але, прачнуўшыся ўжо досыць позна, Струкач не забыў пра свае начныя пакуты. Стаяў ля акна, змучаны, змардаваны, чухаўся, як стары гультаяваты кот, потым ускінуў на плечы куфайку, усунуў ногі ў цёплыя буркі і выйшаў на двор. Услед выбегла Мар'яна, расчырванелая, гарачая ад печы, далей не пайшла, стала ля парога і здзіўлена глядзела, што яе худы, ссутулены Антось выносіць з дрывотні пілу і сякеру.

— Ты куды? Ці не ў лес выбраўся? На ліха нам тыя дровы. Азапасіліся ж — на дзве зімы хопіць.

— Старая качалка! Дзве зімы яшчэ думае жыць,— буркнуў Струкач і паказаў на рог двара.— Вунь вярбу буду пляжыць.

— Зусім здурнеў чалавек! Ці ж яна есці просіць, ці ж за яе падаткі трэба плаціць? Хай стаіць, як і стаяла.

— Ішла б у хату, шкадобніца,— злосна зыркнуў чырвонымі вачыма гаспадар.— Я яе нарыплю! Я яе нашумлю!

Вярба як быццам адчула бяду: замахала тонкімі, гнуткімі галінкамі, зашумела, затрэслася ад жаху. Яна шмат чаго бачыла, яна нічога не забыла. Калі гэты змрочны, нелюдзімы чалавек выходзіў на двор з пілою і сякерай, дык у старым садзе за хатаю кожны раз з шумам і стогнам падала долу то высахлая груша, то пашчапаная маланкаю яблыня. Цяпер жа Струкач, трымаючы сякеру на вісу, драпежна кружыў вакол вярбы, прымерваючыся, з якога боку пачаць секчы дрэва. На момант у душы варухнулася шкадаванне, але ён успомніў бяссонную ноч, скрыпучы плач вярбы і яшчэ мацней сціснуў у руцэ тапарышча. Дрэва наогул лацвей спілаваць, каб пасля не збіраць трэскі, толькі ж аднаму з пілою цяжка будзе справіцца. Мар'яна наўрад ці паможа — бачыш ты, выйшла сярдзітая, злосная, нібы мегера. Яна і зараз стаіць ля парога і, як падалося, глядзіць ужо не на вярбу, а кудысьці ўдаль, паўзверх плота. Струкач зацікаўлена падняў вочы: па гразкай вуліцы, абмінаючы лужыны, прэцца заклапочаная Папіха з цэлым выводкам папішанят. На руках суседка нясе адну ўнучку, другая трымаецца за спадніцу, трэцяя, самая большая, тэпае самастойна, крыху адстаўшы ад бабулі, каб тая не бачыла, як новыя гумовыя боцікі вядуць дзяўчынку па самай гразі.

— І куды гэта яна спозарань? — уголас падумаў Струкач.— Напэўна, у краму прывезлі нечага смачнага.

Папіха ўжо зусім блізенька: вось яна ўжо завярнула з вуліцы на Струкачоў двор, вось ужо адчыніла скрыпучую брамку і, не заўважыўшы пад вярбою гаспадара, скіравала адразу да Мар'яны. Расчырванелая, растрывожаная, што было відаць па кожным яе руху, спусціла з рук меншую ўнучку, злосна тузанула сярэднюю, на хаду дала выспятка старэйшай і, забыўшыся нават прывітацца, пачала прасіць Мар'яну:

— Суседачка дарагая, ведаю, што ты работаю па самы пуп завязана, але не адмоў, уваж мяне, міленькая. То ж бягу на аўтобус Маню страчаць, а куды гэтую плойму падзець? — Яна азірнулася на ўнучак, як бы засведчыла, што не хлусіць, што праўду кажа.— Зяць мой, цюхцяй, таўкач несусветны Родзя, яшчэ ацёмначы ў Ганцавічы паехаў. А я сустрэ-

ну іх на шашы. Сама разумееш: маладыя, пустыя на галовы, дык могуць дзіця застудзіць.

— Пагляджу тваіх бялянак, канечне ж, пагляджу,— не стала адмаўляцца Мар'яна, цяпер ужо не злосная, памякчэлая.— Але чаму Родзя машыну не ўзяў? Цяпер жа гэтых «Жыгулёў»— поўнае сяло.

— Не пройдзе машына па нашым завулку. Бачыш, якія лужыны?

— Ага, ліло цэлы тыдзень — не вымесіць.

Папіха, узрадаваная, што так удала збыла сваю плойму на чужыя рукі, зашпіліла сінюю забрынданую куртку, паправіла пад хусткай валасы і, збіраючыся ісці, прыкрыкнула на старэйшую ўнучку:

— Галя, бяры за ручку Нінку, бяры Таню і — марш у хату! Не хапала мне, каб прастудзіліся, каб на поты кінула.

— Не турбуйся, Альзбетка. Дагледжу я іх. А ты ідзі сабе, ідзі. Яшчэ спознішся.

— Дзякуй, Мар'янка. Я не забаўлюся доўга.

Папіха павярнулася, моўчкі сунулася ў брамку — і на гэты раз не заўважыла пад вярбою Струкача, а мо і ўбачыла, ды не захацела размаўляць, бо вельмі спяшалася, не мела часу. Да шашы не блізкі свет — вярсты тры, дык, можа, тыя шалапуты, Маня і Родзя, ужо сышлі з аўтобуса і сунуцца, як чарапахі, у Малое Сяло, не разумеючы, што дзіця трэба цёпла ўхутаць, затуліць ад сырога ветру.

— Хоць што там у цябе? Даў бог унука на гэты раз? — наўздагон Папісе гукнуў Струкач, і гэта была яго не абы-якая хітрасць: будзе Папіха ісці назад, то, напэўна, у хату пакліча.— Чуеш, суседка,— што там у цябе?

— Ай, Антось! — пакрыўджана махнула рукою Папіха.— Ты лепей у таго няўдаліцы, у Родзі, спытай.

Струкач, чамусьці ўздыхнуўшы, глядзеў цераз плот на гразкую вясковую вуліцу, і на нейкі момант ён забыў пра скрыпучую вярбу, якую хацеў знішчыць, спляжыць, парэзаць на дровы. Нягеглая дрэвіна за яго спіною прыціхла, перастала шумець, баючыся лішні раз напомніць пра сябе. Струкача, аднак, цяпер турбавала іншае: хоць бы гэтая няўклюдная Папіха не апазнілася да аўтобуса, хоць бы паспела выхапіць немаўля з рук маладых бесклапотных бацькоў. То ж такая сырасць на дварэ, такая слота — нядоўга застудзіцца не толькі дзіцяці, але і сабе, старому, жылістаму чалавеку.

Струкач раптам адчуў, што пад куфайкай гуляе вецер, што цела праймаюць дрыжыкі, плюнуў з прыкрасці, нават зазлаваў на сябе: ат, знайшоў чым тлуміць галаву, хай Папіха сама і думае пра сваіх унукаў. Вярба над галавою ўлавіла перамены ў настроі гаспадара — заскрыпела ўсім нутром, зашумела трывожна і плаксіва. Але ў душы Струкача не варухнулася да яе ніякай спагады і жалю. Ён нарэшце адліп ад старога плота, апусціў долу вочы, шукаючы сякеру, якую выпусціў з рук у сухі пачарнелы быльнік. Сякера тапарышчам угору тырчала каля самага камля вярбы, Струкач працягнуў руку да яе, і тут неспадзявана да яго вушэй даляцеў дзіўны гук, як быццам дзесьці дрыжала, пэнкала шкло. Струкач не памыліўся. Ён выпрастаўся, перавёў позірк на сваю



хату і ўбачыў, што ў акне, як недаспелыя гарбузы, ківаюцца тры бялявыя галоўкі. Папішыны ўнучкі нечага турбаваліся, малацілі ручкамі па шыбках, і Струкач здагадаўся, што яго клічуць у хату. Заўсёды так: ад работы адрываюць у самы непатрэбны момант, калі ўжо гэтай работай гарыць душа і рукі ажно свярбяць ад уцехі. Стары незадаволена чмыхнуў у валасатыя ноздры, штосьці буркнуў, але пайшоў у хату, бачачы, што Папішыны гарбузы ўсміхаюцца яму насустрач, паказваюць праз акно язычкі.

— Ты куды глядзіш? — з парога накінуўся на Мар'яну.— Дзеці ж патаўкуць шкло, павыціскаюць шыбкі. Хто тады будзе акно шкліць?

— Калі паб'юць, то сам і ўставіш шкло,— зусім спакойна, без злосці сказала Мар'яна.— Сядай во ды еш. Картопля цепярся стыне на стале.

Снедаў Струкач неахвотна, з выглядам пакутніка браў рассыпчатую, сопкую бульбіну, разглядаў яе, як нейкую невядомую рэч, павольна, быццам нехаця, мачаў у тук, грэбліва адкідваючы скваркі, калупаўся відэльцам у месцы з шаткаванаю капустай і ўвесь час не зводзіў вачэй з Папішыных бялянак. Як толькі ў хату зайшоў гаспадар, яны адразу прыціхлі, перасталі сваволіць і, седзячы на шырокай лаве ля акна, насцярожана сачылі то за бабай Мар'янай, то за дзедам Антосем, разумеючы, відаць, што ў старэнькай, з пажаўцелымі сценамі хатцы даўно ўжо няма злагады і парадку. Бульба была нясмачная, скваркі падгарэлі, капуста яшчэ не скісла як след, і, хапіўшы на зуб нейкае кусянё, Струкач злаваўся, што з-за такой марнай яды не варта было яго клікаць у хату, адрываць ад важнай работы. Ён нехаця жаваў капусту, глядзеў спадылба на бялявых дзяўчынак і чым больш глядзеў на круглявыя маленькія тварыкі — паганы настрой лепшаў, цяплела на душы. Раптам яму стала сорамна, стала брыдка перад дзецьмі: гэта ж бачыш, які псюк — сам прэ як не ў сябе, а хай бы паклікаў за стол бялянак: спяшаючыся, Папіха, відаць, не паспела іх накарміць. Струкач зразумеў, што яму сорамна, і, каб лішне не дакараць сябе, напусціўся на Мар'яну:

— Дзеці ж галодныя. Стаў на стол талеркі, давай відэльцы. Душы ў цябе, мусіць, няма.

— Ёсць ці няма, табе якая трасца?— агрызнулася Мар'яна.— Сам жа воўкам глядзеў на дзетак, дык, думала, незалюбіш, калі пасаджу побач.

— Думала, думала! Відэльцы хутчэй падавай.

Мар'яна борздзенька заснавала па хаце — ад печы да шкапчыка, ад шкапчыка да стала, і ў момант вока на ім апынуліся чыстыя талеркі, бразнулі відэльцы. Папішанят не трэба і прасіць: гарбузамі скаціліся з лавы і чынна расселіся насупраць дзеда Антося — хто на табурэтцы, хто на скрыпучым зэдліку. Старэйшая Галя адразу палезла ў скавараду, Нінка набіла рот шаткаванаю капустай, а малодшая Таня заціснула ў кулачку вялізную, як падняць, бульбіну. Упрысядкі захадзілі кірпатыя насы, замільгалі відэльцы, за сталом усталяваўся той лад і парадак, калі нельга марудзіць, нельга азірацца на суседа. Цяпер гаспадар хаты з пашанай глядзеў на дзяцей, і самому яму падалося, што і бульба пасмачнела, і скваркі зусім не падгарэлыя.

— Гуртам і капусту добра есці,— сказаў задаволена Струкач і з да-

корам паглядзеў на Мар'яну:— Даўно б так. Нечага было дзяцей галадам марыць.

Ён, аказваецца, помніў, ведаў, не забыў, калі, у якую пару года, прыбаўлялася, расло Папішына сямейства, і было б дзіўна, каб ён што-небудзь забыў: усё-такі амаль кожны раз быў на хрэсьбінах, паважна сядзеў у куце, еў і піў, ціха падпяваў суседзям па стале. Вунь гэтую кірпатую, з тоненькімі коскамі Галю Папіха прынесла з шашы акурат на згоне зімы. Паміж кустоў на поплаве дзе-нідзе яшчэ ляжаў наздраваты снег, у лагчынах яшчэ журчалі ручайкі, але ўжо не дзьмуў халодны зімовы вецер і сонца на небе смяялася ва ўсю шчаку. У той цёплы і пагодлівы дзень Струкач якраз высунуўся з хаты пагрэць звярэджаныя раматусам ногі, толькі прысеў на прызбу, і тут з-за крывых платоў паказалася Папіха. Яна не шыбавала, як заўсёды, наўзгалоп — ішла роўна, акуратна абмінаючы камлюгі, рытвіны, і гэта было не дзіўна, таму што на руках Папіха несла беленькі паркалёвы скрутачак, а ў тым скрутачку ціхенька смактала соску яе першая радасць і ўцеха — унучка. Следам за Папіхай, сарамліва апусціўшы галаў, бралася паўз платы пухнаценькая, трохі зблажэлая ў раддоме Маня, а яе за локаць беражна падтрымліваў Родзя, высокі, сухарлявы хлопец. Ад гонару і пыхі ён высока задзёр булаваты, як бульбіна, нос, і пыху яго, аднак, можна было зразумець: не хто ж іншы, а ён, Родзя Заяц, стварыў такое вялікае дзіва прыроды, якое цешча пяшчотна і ласкава туліла да грудзей.

— Антось, сусед дарагі! — яшчэ здалёк, убачыўшы Струкача на прызбе, закрычала Папіха.— Ідзі глянь, каго я нясу. Унучку, Гальку, нясу! Толькі не суроч, зараза, сплюнь цераз плячо.

Крыўдзіць суседку нельга было, і Струкач, звыкла накульгваючы, высунуўся за брамку: глядзеў на ружовы тварык дзіцяці, хваліў, нават пакратаў пальцам пухнатую шчочку. Папіха як не цвіла ад радасці, засланяла сабою белы скрутачак, каб не прадзьмуў вясенні свяжак, і ўвесь час азіралася, быццам нехта збіраўся ўкрасці яе шчасце.

— Няхай расце здаровенькая,— ласкава сказаў Струкач.— Абы ціха, абы вайны не было.

— І не кажы, сусед дарагі,— ледзь не танцавала на гразкай вуліцы Папіха.— Гэта ж такая красуня, такая прынцэса! Ну, рыхтык я, усе кропелькі нават пабрала. І такая ж ружовенькая, і такія ж ямкі на шчочках, як у мяне.

— Шчасця б ёй, тваёй Гальцы.

— Ну, але — шчасця, жаніха добрага. Я ж пакуль не ўломак — выкідаецца ўнучка. Мо калі яшчэ і ўнучыка дождуся.— Папіха з удзячнасцю паглядзела на Маню і Родзю.— Хай адно маладыя не спяць у шапку.

— Ты скажаш, мама,— незадаволена пацепнула плячуком Маня.

— Мяне і прасіць не трэба,— засмяяўся на ўвесь шырокі рот Родзя.

— Дзела маладое, няхітрае,— уздыхнуў Струкач.

— Антось, ты ж не бауся дома,— раптам пасур'ёзнела Папіха.— Бяры сваю Мар'яну, ды прыходзьце ў адведкі.

— Прыйдзем, як жа гэта не прыйсці?



Вечарам у Папішынай цеснай хатцы было людна: і чаркі звінелі, і песні білі крыніцай. Струкач сядзеў на покуці, любоўна аглядаў застолле, і ў яго таксама цякло і па барадзе, і па вусах, а нейкае каліва і ў рот перапала. І так яму спадабаліся Галіны хрэсьбіны, так яму было добра і сугрэўна, што і на другое лета, ледзь толькі сагнала снег, ён з дня ў дзень, калі не было пільнага клопату, выходзіў з хаты, падоўгу праседжваў на сонейку, раз-пораз кідаючы позірк уздоўж вуліцы: а вось там, за канцавымі хатамі Малога Сяла, пакажацца гасцінная Папіха з новым скрутачкам на руках?

Але час ішоў, ужо і сады адцвілі, ужо і трактары з сеялкамі перасталі ракатаць на полі, ужо і на сенажаці трава ў пояс вымахала, а Папіхі ўсё не было. Струкач нават пачаў забываць, чаго ён, якога ліха кожны дзень тырчыць у двары, бясконца паглядваючы на пустую вуліцу, як тут, ля канцавых хат, нечакана паказалася Папіха, і на руках у яе сапраўды бялеў прадаўгаваты скрутачак. На гэты раз суседка несла з шашы сваю другую ўнучку — Нінку. Быў цёплы, сонечны дзянёк, павяваў лагодны ветрык — акурат у такія пяшчотныя дзянькі можна выносіць на двор малых дзяцей, не баючыся іх прастудзіць. Папіха, прытульваючы ўнучку да грудзей, ішла пасярод падсохлай, нават пыльнай ужо вуліцы, за ёю адно за адным сунуліся збянтэжаныя Маня і Родзя. Струкач са свайго панадворканазіраў за імі і нават пачаў ужо злавацца, што ідуць яны надта марудна, але што тут зробіш, калі то з адных, то з другіх весніц выбягаюць бабы, і кожнай Папіха вымушана адкрыць скрутачак, паказаць чырвоны, непрыгожы дзіцячы тварык. Было відаць, што Папіха радуецца, але Струкачу кінулася ў вочы, што радасць яе не такая вялікая, як у першы раз. Нарэшце суседка датэпала да Струкачовай брамкі, і не паспеў Струкач што-небудзь сказаць, як Папіха запярэдзіла яго:

— Здароў, Антось! Во яшчэ адну ўнучку нясу.— Яна, як ні дзіўна, не азірнулася, не паглядзела з удзячнасцю на сваіх Маню і Родзю.— Нінкай назвалі. А што — добрае імя?

— Ага, добрае! — сказаў засяроджана Струкач.— Дзе адна, там і другая, як зайчык, выкідаецца.

— Яно ж так. Людзі на хлеб цяпер не жадны. Сама не з'ем, а ўнучкам аддам.

— Не стой доўга, Альзбетка, застудзіш малую.

Струкач пажадаў Нінцы моцнага здароўя, па звычцы хацеў пажадаць суседцы яшчэ і ўнука, але, зірнуўшы на яе не вельмі вясёлы твар, чамусьці перадумаў, стрымаўся. І ўсё ж ён займеў тое, чаго чакаў усе гэтыя дні. Папіха стрымана, без лішніх слоў запрасіла яго ў адведкі, і вечарам ён зноў сядзеў на покуці, і ўся маленькая хатка плыла перад вачыма ў нейкім ружовым святле, а калі позна ноччу, спатыкаючыся на калдобінах, клыпаў дамоў, то ціхенька нешта мармытаў сабе пад нос.

Сваю трэцюю ўнучку, Таньку, Папіха прынесла з шашы роўна цераз лета, але трохі пазней, чым Нінку, таму што ўжо на аселіцы стаялі бухматыя стагі сена, у садах пачалі гнуцца галіны ад цяжару яблык і груш. Струкачу ў гэты дзень зноў балелі ногі, і ён вырашыў пагрэць свой раматус на сонейку — выпхнуўся з хаты і паціху тупаў па дварышчы. Ногі

нагамі, аднак была і другая прычына неспакою. Надоечы стары бачыў Папішыну Маню з вялікім пухнатым жыватом, а раніцай, адхінуўшы фіранку, каб вызірнуць на вуліцу, выпадкова заўважыў, што паўз прысады пабегла Папіха, і сівагаловы хітрун мігам расшалопаў, куды яна бяжыць гэтак шпарка і заклапочана.

Струкач, чакаючы суседку, доўга тупаў па сваім падворку, потым нецярпліва высунуўся за брамку, але тут жа, збянтэжаны, ступіў назад. Такой сумнай, невясёлай Папіхі ён яшчэ ніколі не бачыў. Чырвоная, мажная суседка зноў несла на руках белы паркалёвы скрутачак, але не было відаць, каб яна дужа радавалася — ішла замаркочаная, сутулая, і Струкач адразу здагадаўся, што Папіха дарма спадзявалася хоць калі-небудзь займець унука. Маня і Родзя, быццам адчуваючы сваю віну, цялепкалі зводдаль, бо ім не хацелася выслухоўваць нудныя, хоць і заслужаныя, папрокі. Час ад часу Папіха азіралася, пагардліва аглядала Родзю з галавы да ног, і гэтаму цыбатаму няўмеку тады было хоць праваліся скрозь зямлю. Збоку касавурачыся на Папішына сямейства, Струкач правільна падумаў, што сёння тут ён будзе лішні, да таго ж раптам перасталі ныць ногі, да таго ж і сонейка прапала за хмаркай, і ён, уздыхнуўшы, борздзенька падаўся ў хату. Міма брамкі, не звяртаючы на яго ўвагі, прашкандыбала Папіха, панылa звесіўшы насы, прасунуліся Маня і Родзя.

Не адзін раз пасля Струкач згадваў сумны, невясёлы твар суседкі і ў думках нават папікаў яе: ці варта было ёй злавацца на зяця і дачку? Якая розніца, каго лёс паслаў—унука ці ўнучку, абы раслі здаровенькія, абы ціха было на свеце. Так яно і сталася: бялянкі вакол клапатлівай бабулі выкідаліся, падраслі, а Папіха, напэўна, ужо і сама забыла пра сваю злосць, сваю крыўду. Во і сёння яна зноў паджгала на шашу, але знешне не вельмі было відаць, каб новае папаўненне ў сям'і моцна засмуціла яе, збіла з панталыку.

Папішыны бялянкі, сур'ёзныя, заклапочаныя, дружна распраўляліся з бульбай, капустай і скваркамі: гледзячы на іх, Струкач заўважыў, што ў яго палепшаў настрой, святлей стала на душы і, здаецца, зусім перасталі ныць ногі. Ён кончыў снеданне, падняўся з-за стала, нацягваючы на плеш старую зацухмоленую шапку з паламаным брылём, сказаў нязлосна Мар'яне:

— Я от пайду на двор, а ты глядзі, каб дзеці шыбы не патаўклі. Убытак невялікі, але колькі клопату, пакуль зашкліш акно.

— Ідзі ўжэ, не турбуйся. Дагляджу дзяцей,— ціха адказала Мар'яна, дзівячыся пераменам у настроі старога.— Ідзі, нявеч вярбу.

Струкач так і ведаў! Не паспеў ён зачыніць дзверы, як у хаце забразгалі табурэткі, пачуліся валтузня, смех, і, азірнуўшыся, ён убачыў, што Папішыны ўнучкі, расплюшчыўшы насы, зноў прыліплі да аконнага шкла і наводдаль цікуюць, што будзе рабіць дзед. Ён жа яшчэ нічога не рабіў — проста стаяў ля збуцвелага ганка і глядзеў на вярбу, якая пачэквалася ад ветру, махала гнуткім веццем, як бы спрабуючы засланіцца ад няўмольнай сякеры.

Струкач ужо і сам забыў, адкуль у яго двары ўзялася вярба, не памніў, як яна расла, не заўважыў, калі нягеглае, крывабокае дрэва паднялося ўпоравень з хатай. Калісьці, у маладыя гады, ён быў заядлым курцом, не выпускаў суслу з губ і кожнаю вясною ў закутку за мураванай варыўнёй садзіў тытунёвую градку, ад вуліцы абнесеную густым частаколам. У прасла, якое Струкач сплёў з рознай непатрэбшчыны, што валялася пад нагамі, відаць, выпадкова трапіў вярбовы калок і, падбухтораны неадольнай прагай жыцця, даў атожылкі, пусціў карані. І гэтая невытлумачальная ўпартасць вярбовага калка не здзівіла, не ўзрушыла гаспадара. Кешкаючыся на тытунёвай градцы, то паліваючы расаду, то абламваючы жоўтыя пасынкі, ён думаў пра вайну, з якой толькі што вярнуўся, думаў пра дзяцей, якіх трэба было карміць і адзяваць, дый наогул ці мала розных дум і клопатаў у чалавечым жыцці? Аднак тая яго стараннасць каля тытуню не прайшла марна: у грудзях усё больш гучна пачалі граць гармонікі, па начах горла дзёр моцны кашаль, і, на здзіўленне суседзяў, Струкач кінуў курыць. Градка, на якой, апрача самасаду, нічога людскага не расло, заняпала, узялася быльнікам, крапівою, асотам; гаспадар і думаць забыў пра яе, нават не заглядваў у той закутак, хіба адна Мар'яна, пачуўшы ў крапіве курыны гвалт, калі-нікалі забягала за варыўню і, знайшоўшы ў густым зеллі колькі зеленаватых брудных яек, незвычайна злавалася і на пеўня, і на яго чубатых распусніц, якія так неабачліва раскідваюцца сваім дабром дзе папала.

Варыўня, змудраваная з палявых камянёў невядома яшчэ калі, стаяла ўпрытык да хаты — бугрыстая ад няроўных валуноў, з увагнутай ад старасці зялёнай, замшэлай страхою. Стаяла б яна, відаць, і да гэтага часу, але не адно дзесяцігоддзе пасля вайны над ёю сыпаў снег, ліў дождж, жахалі маланкі, і калі ўжо і сам Струкач пасівеў і згорбіўся, а Мар'яна вырабілася на трэску, зусім неспадзявана высветлілася, што мураваная варыўня даўно ўсім замінае. Дзеці раз'ехаліся — Ваня ў горадзе, Сцёпа — на Поўначы, і цяпер ужо не было патрэбы засыпаць укоптур катухі бульбай, ставіць на зіму дзве бочкі-селядзёўкі з агуркамі і квашанай капустай. Варыўня, зрабіўшыся лішняй у гаспадарцы, не давала спакою Струкачу, і аднойчы ён, уздыхаючы па былым турботным жыцці, разабраў яе, камяні прадаў нейкай будаўнічай арганізацыі, а калі пляц, дзе яна стаяла, быў ужо прыбраны і расчышчаны, стары зірнуў на свой двор і не пазнаў яго. Двор як быццам пасвятлеў, рассунуўся ўшыркі, вачам адкрыліся вуліца, поплаў, зарослая алешнікам канава, за якой віднелася небагатая Папішына сяліба.

У закутку Струкач выкасіў крапіву і асот, занёс на дрывотню рэшткі даўно збуцвелага частаколу і толькі тут звярнуў увагу на маладую вярбу. Тонкі калок, які калісьці пусціў атожылкі, на здзіўленне, ператварыўся ў прыгожае дрэва, што паднялося ўпоравень з хатай. Але вярба здавалася прыгожай адно зводдаль: прыгледзеўшыся, зблізку можна было заўважыць усе яе хібы — скасабочаны ствол, вузлаватую, маршчыністую кару, і толькі круглы, як шар, шацёр прадаўгаватых зялёных лісцяў крыху скрадваў прыкрую няздаласць. Вярба сваім скрыпам так надакучвала за зіму, што кожную вясну, як толькі ўспучвалася вадою і шырока разлівалася канава, Струкач кідаўся ў сенцы па сякеру, тупаў з ёю па

двары і рука чамусьці не падымалася рушыць няшчаснае дрэва, якое адчайна, прагна цягнулася да сонца з цёмнага закутка.

Вайна з вярбою задоўжылася не на адзін год, і Струкач разумеў, што ў яго не хопіць духу калі-небудзь спляжыць яе, а гэтае яго вар'яцтва, калі выбягаў на двор з благім намерам, было хутчэй за ўсё ад суму, ад прыкрай адзіноты. Чырвонымі ад бяссонніцы вачыма ён і цяпер глядзеў перад сабою, бачыў у сухім быльніку сякеру з кляновым тапарышчам, якая ажно прасілася, каб яе ўзялі ў рукі і далі волю бліскучаму востраму лязу. Грозны, насуплены, непрыступны стаяў Струкач, трымцела, паскрыпвала, калацілася крывая вярба. Але ж заўсёды так: нешта не дасць, нешта перашкодзіць задуме. Струкач толькі нагнуўся па сякеру, як з вуліцы пачуўся шум, гоман, лямант, і сярод іншых галасоў выразна вылучаўся густы, моцны бас самой Папіхі. Не разбіраючы дарогі, аднак беражна прыціскаючы да грудзей традыцыйны белы скрутачак, яна цераз плячо, не паварочваючыся, сарамаціла, лаяла на чым свет стаіць сваіх няздалых Маню і Родзю.

— Дакуль мне насіць гэтых пустацветаў, гэтых шалахвостак? Не маўчы, Маня, кажы — дакуль? Думаеш, у мяне рукі не баляць, думаеш, пайшла на пенсію, дык і ўвесь свет, што ў вокнах. Ого, маўчыш! А ты, Родзя, чаго прыціх, як мармоль? Бачыце, выеўся, вылежаўся — хоць з ложка за ногі сцягвай. Не, зяцёк, пара на вузялок завязваць. Пара! Не глядзі, што цешча добрая і пры пенсіі. Як бачыш брытвай укарачу, трактарыст мурзаты. Скажы, ці багата ты зарабляеш, каб такую плойму пракарміць?

То тут, то там рыпяць брамкі і весніцы: на вуліцу выглядваюць цікаўныя кабеты, і Маня саромеецца іх — ідзе, спатыкаецца, баіцца падняць вочы. То тут, то там каля платоў стаяць хітраватыя мужчыны, і Родзю ад іх насмешлівых позіркаў не па сабе — ідзе чырвоны ад сораму, потны, прыгорблены. Не варухнуцца маўклівыя прысады ўздоўж платоў, прыціхлі, знямелі пачарнелыя хаты, і гэта не дзіўна — шум і лямант стаіць на ўсё Малое Сяло. Са свайго панадворка Струкач зірнуў на зблажэлую Маню, зірнуў на збянтэжанага Родзю, і ў душы старога, як і надоечы да вярбы, варухнулася шкадаванне да зніякавелай маладой пары.

— І чаго ты раскрычалася, Альзбета? — чамусьці са злосцю крыкнуў Струкач цераз плот.— Нябось, лямант твой і ў Ганцавічах чуваць.

— Дык бачыш, Антось, яшчэ адну шалахвостку тарабаню,— прыпынілася на момант Папіха.— Як жа тут будзеш маўчаць?

— Мусіць, пад такою звяздой ты нарадзілася, калі бог адных унучак пасылае.

— Звязда звяздою, але ж і зяць няўдаліца, завала.

— Мне б твой клопат, мне б тваю самоту,— зайздросцячы Папісе, уздыхнуў Струкач.— Мае ж Ваня і Сцёпа па пяць гадоў дадому вачэй не паказваюць. А недзе тэж бегаюць унучыкі. Мусіць, ужэ і не прыжду іх убачыць.

— Яно так, сусед. Кепска паміраць у адзіноце,— паспачувала Струкачу Папіха, павярнула галаў, зірнула на Родзю і пагразіла:— А ты не хмылься, блудзень! От папрашу старшыню, каб часцей у начную пасылаў.





Шырока расхлябесціліся дзверы Струкачовай хаты, з-пад ног у Мар'яны, якая таксама выглянула на шум, пырснулі ў двор Папішыны бялянкі і гамузам — расхрыстаныя, крыклівыя, радасныя — пакаціліся па дарожцы. Старэйшая Галя дагнала бабулю, цікаўна талопячыся на белы скрутак, сярэдняя Нінка ўшчаперылася маме за спадніцу, меншую Таньку Родзя ўзяў на рукі, і вялікая Папішына сям'я марудна, як цыганскі табар, пасунулася ўздоўж плота, па гразкай вясковай вуліцы. Мінаючы вярбу, Папіха азірнулася, пашукала вачыма Струкача і ўжо крыху весялейшым голасам сказала:

— Прыходзь, Антось, вечарам. Усё-такі жывога чалавека, не палена, нясу.

— Ды ўжо, канечне, завітаю. Мо, дасць бог, апошні раз пасяджу з людзьмі.

Струкач ажно спалохаўся свайго ж голасу — такі ён ласкавы, пяшчотны, журлівы. І на душы ўжо няма тае ранішняй прыкрасці, і ўсёй яго істотай раптам завалодалі супакой, любасць, замілаванасць. Ён яшчэ доўга глядзеў услед Папішынаму табару, потым схамянуўся, успомніўшы, што і сённяшняй ноччу вярба не дасць яму заснуць, калі ён вось зараз жа, вось цяпер, у гэтую мінуту, не спусціць крывабокае дрэва на зямлю. Вярба ўздрыгвала, спалохана трымцела лісцямі, махала галінкамі; яна баялася Струкача, баялася яго вострай сякеры, і Струкач, зірнуўшы на дрыготкае стварэнне, здзівіўся, што і ў дрэў, аказваецца, ёсць душа і што ім таксама не хочацца паміраць.

— Жыві сабе, калі так баішся,— сказаў Струкач і, уздыхнуўшы, апусціў руку з сякерай.— Жыві, нябога. Толькі, цур, не шумі начамі, бесталковая.

На пасінелых, патрэсканых губах старога блукала сумная, невясёлая ўсмешка.

На рагу двара прыціхла, перастала шумець маладая скасабочаная вярба, потым варухнулася ад ветру, пахілілася ўсёй каронай—быццам у пояс пакланілася старому Струкачу.

# ШАЛЯСЦЕННЕ КУКУРУЗЫ

Накрапваў цёплы майскі дожджык, але гэты несусветны лодар і абібок Мішка Рыжкоўскі, не баючыся прамокнуць, ужо добрага паўдня прасядзеў ускрай поля на мяшках з насеннем, хоць яму, маладому калгаснаму аграному, напэўна, хапіла б клопату і на Горскай, дзе кабеты садзілі бульбу, і ў брыгадным свірне, адкуль далятаў мерны гул арфы. На Кругляку, які яшчэ нядаўна быў густа ўстаўлены высокімі штабялямі кампостаў, тварылася штосьці незразумелае. Там каля шэрых мяшкоў чародкай віліся хлапчукі, на полі ракатаў колавы трактар, і калі ён

прыбліжаўся да мяжы, нейкія мужчыны — адсюль, з садку, не пазнаць, хто яны,— на крокаў дзесяць ад пасеянага пераносілі грувасткую шпулю з дротам. На кожным павароце да дроту жалезнай зашчапкай чаплялі сеялку, і чорны ад бруду і мазуты трактар весела бег па свежым ворыве, цягнучы за сабою, як на прывязі, цэлую плойму гракоў.

Мусіць, ці не ў гэтым дроце ўвесь сакрэт, што Мішка Рыжкоўскі мокне на дажджы, не ўцякае з поля — як бы пільнуе, сцеражэ мяшкі з золатам. Час ад часу ён ускокваў на ногі, нешта крычаў, махаў кулаком трактарысту Колю Струкачову і, здаволіўшыся, зноў садзіўся на прыгрэтае месца, затульваючы голаў у каўнер скураной тужуркі ад порсткіх дажджавых кропель. Строгасці, уладнай рукі, няйнакш, пасада вымагае: калі ёсць за што, то трэба і пакрычаць, тым болей у сеяльшчыкаў і справа не дужа клеіцца, а тыя віхрастыя хлапчукі так і цікуюць, каб запусціць рукі ў мяшкі з насеннем. У мяшках, мабыць, не абы-які ласунак: каноплі альбо нават гарох. Гарох? Але ж навошта тады дрот цераз усё поле, па якім, нібы дварняк на ланцугу, бегае сеялка? Не, тут штосьці не тое, штосьці незразумелае, і гэта трэба высветліць цяпер жа, неадкладна, таму што ўжо нельга перабароць сваю цікаўнасць і стаяць у садку пад яблыняй стала проста невыносна.

Тут і дождж пакрапаў, папырскаў ды і перастаў: у хмарцы, што шэрай аўчынкай накрыла Кругляк, на большае не хапіла сілы, нават маланка блiснула неяк вяла і квола, а гром абазваўся зусім ціха і слаба, як з-пад зямлі. На сотках за садком узыходзіла бульба, і чорны, як асмалак, Андрэй Зялёнка асцярожна пераступаў радкі, каб не паламаць, не пачавіць ботамі танюткія светлыя расткі. Худы, прыгорблены доўгім жыццём, ён вельмі спяшаўся, яго вялі на Кругляк цікаўнасць і дапытлівасць, і, праступаючы па неглыбокіх разорах, ён справядліва думаў, што і ў сталым веку цікаўнасць і дапытлівасць не самыя горшыя рысы чалавечага характару. На Кругляку акурат спыніўся трактар, сеяльшчыкі пачалі запраўляць сеялку. Мужчыны — гэта былі Юзік Падгайскі і Паўлюк Ломскі — ладкавалі на новым месцы цяжкую шпулю з дротам, а трактарыст стаяў побач з Мішкам Рыжкоўскім і, не крыўдуючы на яго за кулакі, мірна, па-свойску размаўляў.

— У маі і дождж, і гром, дык не трэба аграном! — падыходзячы да людзей, замест прывітання пажартаваў Зялёнка.

— Ані дожджыку ў маі, аграному па... па...— бадзёра падхапіў вясковую прымаўку Коля Струкачоў, спатыкнуўся, запнуўся на апошнім зарыфмаваным слове і, баючыся ўгнявіць Рыжкоўскага, тут жа перайначыў канцоўку: — па... па шапцы!

— Не плявузгай абы-чаго,— усё ж пакрыўдзіўся, зазлаваў аграном.— Перасмешнік знайшоўся.

— Гарох у зямельку кідаеце?

— Які гарох? Амерыку даганяем!

Колю Струкачову не варта было б так выскаляцца, прадаваць зубы, таму што Мішка Рыжкоўскі, дзяцюк з мухамі ў носе, зноў незалюбіў, паначальніцку сурова зыркнуў спадылба.



— Ты мне гэта кінь! Настроі абы-якія тут не разводзь! Уляціць, і ведаць не будзеш — адкуль.

— Ну во — ужо і слова не скажы,— пакрыўджана перасмыкнуў абветранымі губамі Коля Струкачоў.— Толку з ейнай кукурузы будзе, як з казла малака.

— Кукуруза? — чамусьці ўзрадаваўся Зялёнка.— Дык я ж яе, халеру, добра ведаю! Як фронт цераз Румынію ішоў, то бачыў. Нават мацілыгу еў.

— Мамалыгу,— паправіў адукаваны аграном.

— Адна трасца — мацілыгу, мамалыгу. Абы смачна было. Помню, як на пастоі быў, мой гаспадар яе ўсё нітачкай рэзаў.

На абмежку поля, свежаўзаранага, чорнага, быццам сажа, трасучыся, як у ліхаманцы, пастрэльваў у неба сінімі колцамі дыму трактар без кабіны. Не разумеючы, чаго ён спыніўся, зводдаль на пасеяным таўкліся ў разорах, тузаліся дзюбамі згаладалыя гракі. Сеяльшчыкі тым часам апаражнілі тару, запpавілі сеялку, Паўлюк Ломскі нясе да кучы пустыя закарэлыя мяшкі. Кінуў іх, не шкадуючы, на абмежак, проста ў сырую траву, аддыхаўся, выцер узмакрэлы лоб.

— Ліха на іх — цяжкія мяхі, не падняць. Зерне — як волава. Чуў я, нібыта гэтую кукурузу сам Мікітка з Амерыкі прывёз.

— Ты што, у капэзэ захацеў? — сінія, як валошкі, вочы ў Мішкі Рыжкоўскага ажно акругліліся ад страху.— Каму — Мікітка, а каму — правадыр, вождзь.

— Паехалі, Мікола, гатова!

— Але, чаго стаяць? Чорт лысы за нас работу не паробіць.— Коля Струкачоў насмешліва паглядзеў на агранома, павярнуўся і, відаць, каб падражніць баязліўца, ужо на хаду праспяваў свежую частушку: — Мы Амерыку дагонім па надоях малака, а па мясу не дагонім — штось зламалась у быка...

Вось і добра, што дождж перастаў: шэрая хмарка мінула Кругляк, і ўжо дзесьці далёка, за Горскай, пачуўся слабы ўсплёск грому. На ўсю шчаку засвяціла сонца, сырая ўспучаная зямля адразу запаравала, засачылася ачмурэлым пахам перагною. Як толькі пачало прыпякаць, Мішка Рыжкоўскі зняў з сябе бліскучую тужурку і, не шкадуючы добрай шмоткі, шпурлянуў цераз плячо ў мокрую касцярогу на абмежку. Андрэй Зялёнка, не адабраючы агранома, прасачыў за палётам тужуркі і тут нечакана прыкмеціў, што самы крайні ў кучы мяшок развязаны, а ў ім жаўцеюць пляскатыя, буйныя, рыхтык конскія зубы, зерні кукурузы, чамусьці перасыпаныя нечым ружовым. Ад кукурузы віўся востры, кіславаты пах, «конскія зубы» свяціліся бурштынам, ажно гарэлі на сонцы.

Зялёнка нават і не заўважыў, як левая рука акунулася ў жоўты бурштын, зачарапіла поўную жменю зярнят і высыпала ў кішэню крамнага пінжака. Ліха ведае, што раптам зрабілася з гэтай заграбушчай свавольнай рукою — і не ўтаймаваць, і не спыніць яе: яшчэ адна жменя, яшчэ і яшчэ. Безуважны да ўсяго, Мішка Рыжкоўскі сядзіць на мяшках спіною да Зялёнкі, штосьці думае, загледзеўшыся ў другі канец поля, дзе на развароце прыпыніўся трактар з сеялкай. Але тое, чаго не бачыць аг-



раном, добра ззорылі падшыванцы-хлапчукі, якія купкай стаяць наводдаль. Высокі худы злодзей бярэ колькі хочаш кукурузы, а іх, усеядных, нават блізка не падпускаюць да мяшкоў, і гэта такая несправядлівасць, што самы адметны ў купцы хлапчук, бадай, ці не сын Паўлюка Ломскага — такі ж белагаловы, як і бацька, не стрываў — выгукнуў абурана:

— А дзядзька Андрэй кукурузу крадзе!

— Бачу, што крадзе,— нават не павярнуўшы галаў, раўнадушна сказаў Мішка Рыжкоўскі.— У мяне вочы і на патыліцы свецяць.

— Якое там крадзе,— збянтэжыўся Зялёнка і, заліваючыся сорамам, неўпрыкмет памахаў кулаком белавалосаму гіцлю.— Ну, узяў нейкае каліва. Хачу сваёй Настулі паказаць, што гэта за дзіва заморскае.

— Вы ж там не ўздумайце кукурузу есці. Варыць, парыць. Граназанам яна ад шкоднікаў перасыпана. Таму і сяджу ад раніцы, дзяцей пільную, каб не патруціліся.

— Хто ж ведаў, што гранaзанам? Магу і высыпаць.

— Ды бяры ўжо,— не пазначыцца, не ўбудзе,— злітаваўся аграном.— Пасадзі ў сябе дома, то карова пад восень малаком зальe.

— Але, уваткну дзе-небудзь на градцы. Во мая Настуля здзівіцца! Ніколі ж не бачыла цуду заморскага.

— Кукуруза цяпло, сонца любіць. І садзіць яе трэба рэдка, бо не вырасце. Капрызлівая дужа.

За добрую навуку, безумоўна, трэба было б падзякаваць, але, стаўшы ўладальнікам кукурузных зерняў, Зялёнка ажно забыў, што ёсць на свеце ласкавыя, прыязныя словы. Цяпер у яго была адна думка: хутчэй дабегчы ў свой агарод і хутчэй уваткнуць гэтыя дзіўныя «конскія зубы» ў зямлю, тым болей і пагода паднаравіла. Пяшчотна свеціць майскае сонейка, зямля пасля дажджу мяккая, сырая — самы раз займацца сяўбой. Градку пад кукурузу Зялёнка аблюбаваў каля хлява, дзе раней стаяў свінушнік і была загарадзь для мацёры з парасятамі. Тут і зямля тлустая, бо ўгнойвалася не адным пакаленнем падсвінкаў, тут і сонечна, зацішна, бо градка ад поля, дзе гуляе скавыш, заслонена яблынямі і слівамі.

— Ну што ж, памагай бог!

Зялёнка папляваў на далоні і, націснуўшы на рыдлёўку ботам, загнаў лязо ў спрасаваную зямлю на ўвесь штык. Работа пайшла як па масле. Рыдлёўка вострая, цаўё лёгкае, ды і ў руках, як той казаў, ёсць яшчэ і сіла, і спрыт. І ўсё ж Зялёнка ўвапрэў, змарыўся, пакуль узадраў цвёрдую копань, пасля разбіў камлыгі і грэбні, разраўнаваў градку і граблямі правёў па ёй роўныя радкі. Па-старэчы крэкчучы, ён пасадзіў ужо амаль усе «конскія зубы», калі з хаты выйшла заспаная Настуля. Працерла на ганку вочы, з хвіліну паўзіралася ўдалеч і, здзіўленая незвычайным заняткам свайго старога, подбегам пашыбавала да хлява.

— Андрэй, няўжо ты зноў курыць пачаў? Табаку, бачу садзіш.

— Не, не табаку,— выпрастаў спіну Зялёнка.— Каралеву палёў саджаю.

— Адкуль жа, з якога каралеўства, яна прыблыталася да нашага двара?

— З Амерыкі,—зусім сур'ёзна пачаў тлумачыць Зялёнка.—Сам аграном казаў.— Выцягнуў з кішэні жменьку залацістых зярнят, паказаў жонцы.— Кукуруза гэта. У Румыніі калісь бачыў яе і нават еў. От пасаджу на санцапёку, то пад восень будзе цэлы лес шумець.

Дзівячыся з кукурузных зярнят, Настуля засумнявалася:

— А ці вырасце што з ейнай халеры?

— Вырасце! Падласка як наесца кукурузы, дык малака па вядру будзе даваць.

— Ну-ну! Наемся я ўжо тваім малаком.

Настуля пайшла ў хату, не паверыўшы ніводнаму слову старога, і гэта было крыўдна, яшчэ і як крыўдна, бо хіба ж ён, Зялёнка, думаў пра сябе, калі, чырванеючы ад сораму, запускаў руку ў калгасны мяшок? Найперш ён клапаціўся пра ўнучкаў — Ваську і Нінку, якія вельмі любяць і малачко, і смятанку, і масла з булкай. Калі казаць па шчырасці, то толькі дзеля іх, унучкаў, Зялёнка трымаў кароўку, хоць пад старасць цяжка стала рабіць сена, здабываць які іншы корм. А з кукурузай і таго сена небагата спатрэбіцца. Сіласу можна ўкінуць у яму, катахоў насушыць, ды і зялёная падкормка ўсю восень будзе свая. Хай ужо Васька і Нінка смятанку і масла лопаюць ад пуза.

З хаты Настуля больш не паказвала вачэй — чарговае дзівацтва гаспадара, мусіць, яе мала зацікавіла, а Зялёнка, забыўшы крыўду, старанна калупаўся на градцы. Рабіў неглыбокую ямку, кідаў адно, а то і два зярняці і заграбаў ямку зямлёю. Потны, расчырванелы, ён супакоіўся толькі тады, калі апусцелі кішэні пінжака і ўся градка была ўжо занята кукурузай. Пакуль Зялёнка калупаўся на сваім засеўку, ціха стала і на Кругляку: адсеяўшыся, кудысьці паехаў трактар, зніклі з абмежка мяшкі і разам з імі як пад зямлю праваліўся Мішка Рыжкоўскі. На пасеяным яшчэ таўкліся чорныя гракі, але і яны неўзабаве паляцелі ў бярозавы гай за Горскай. Зялёнка правёў іх уважлівым позіркам, памыў чыста рукі, каб не патыхалі гранaзанам, і, задаволены ў душы, пачаў чакаць восені, нейкага незвычайнага скутку сваёй працы.

Пачатак лета, што салаўінымі світанкамі нахапілася ўслед за майскімі дажджамі, быў у меру цёплы і мокры, спрыяў і людзям, і кожнай травінцы. Увесь чэрвень наплывалі імклівыя ліўні з грымотамі, пасля доўга стаялі сухія сонечныя дні, і Зялёнку не выпадала непакоіцца за свой засевак каля хлява. Кукуруза ўзышла дружна, спорна, а калі ўвабралася ў сілу, дык паперла так, што хутка засланіла сабою і садок і шэрую сцяну хлява. Радуючыся шанцунку, гаспадар выпалаў касцярогу і жычку, павырываў асот і аднойчы ў спякоту нават падсыпаў расліны салетрай — выпрасіў вядро ў брыгадзіра Косці Русакевіча, калі на Кругляку жанкі падкормлівалі заморскую каралеву. На сотках за садком ужо даўно адцвіла і пабурэла бульба, у садку зачырванелі яблыкі і слівы, а кукуруза ўсё расла і расла — шумлівая, шыракалістая. Высокія сцябліны белымі мяцёлкамі на вяршках падняліся ўпоравень са страхою хлява, па баках сцяблін звесіліся цяжкія пукатыя катахі, выпусціўшы карычнева-чырвоныя чубчыкі. Падласка, вяртаючыся з пашы, цяпер стрымгалоў ляцела ў хлеў, бо кукурузныя лісцікі ёй вельмі падабаліся, а да дзеда раптам



зачасцілі ўнучкі, і той, расшчодрыўшыся, абломваў колькі катахоў і частаваў малых недаспелымі яшчэ, малочнымі зернямі.

— Ой, як смачна! — пішчала беленькая, нібы лянок, Нінка.

— Салодкая кукуруза, бо з цукрам,— па праву старэйшага важна ўдакладняў Васька.

— Самі ў кукурузу, жэўжыкі, не лезьце,— павучаў унукаў дзед.— Нaробіце шкоды, глуму. Не будзе і чым Падласку пакарміць.

Цераз соткі, пасмачыўшыся дзедавымі ласункамі, Васька і Нінка беглі на Кругляк, дзе таксама расла такая ж густая кукуруза, з такімі ж пукатымі сакавітымі катахамі. Але тут трэба асцерагацца, пільнаваць вушы, каб выпадкам за іх не ўшчаперыўся Косця Русакевіч, а то і сам Мішка Рыжкоўскі. Падшыванцы, калі кукуруза добра паднялася над полем, адразу ацанілі яе вартасці. З тоўстых сцяблін, аказваецца, выходзяць зручныя стрэльбы, а важкімі катахамі можна папускацца, як гранатамі. За смаркатым воінствам, якое рабіла нямала шкоды, ганялася калгаснае начальства, ды і Андрэй Зялёнка, шкадуючы засевак, не адзін раз праганяў з поля дураслівых блазнюкоў. З крыкам і смехам свавольнікі разбягаліся хто куды, а ён, Зялёнка, доўга стаяў на абмежку, услухоўваючыся ў сухое шалясценне кукурузы, і бачыў, што на Кругляку яна ўсё ж горшая, чым у яго двары: і ростам ніжэйшая, і катахі намнога драбнейшыя. Толькі там, дзе былі кучы кампостаў, сцябліны стаялі высокія, цёмна-зялёныя.

Улетку кукурузу на Кругляку не адзін раз драпалі коннымі спружыноўкамі, жанкі да каліўца выполвалі пустазелле, сыпалі на пасевы суперфасфат, кармілі выдвару салетрай, а глядзі ты — не ўдалася, стаіць марная, дачасна пажоўклая. Праўда, у Зялёнкі каля хлява заўсёды зацішна, а тут, што ні кажы, голая прастрань, адкрытае ўсім вятрам і прыхаладкам поле. Кукуруза на Кругляку, пэўна, была б цікавейшая, але ў сярэдзіне лета, у самы разгар жніва, штосьці задоўжылася спёка, вось і падсушыла калгасны засевак. Дажджы пайшлі — частыя і спорныя — на зыходзе жніўня, аднак яны ўжо не маглі паправіць кукурузу. Неўпрыкмет пачаліся стылыя ночы, увачавідкі пахаладала, а замежная госця не надта любіць перадасеннюю пагоду.

З надыходам восені на Кругляк бадай ці кожны дзень у брыгадзірскай брычцы пачалі наязджаць Мішка Рыжкоўскі, Косця Русакевіч, часам з імі завітваў на поле Каралёў, упаўнаважаны з раёна. Начальства доўга праходжвалася ўздоўж кукурузнай сцяны: то залазіла ў гушчар, то зноў тапталася на абмежку. Каралёву кукуруза, мусіць, не падабалася: ён сярдзіта махаў кулачком, ледзь не загрудкі браў агранома і брыгадзіра. Тыя не пярэчылі, стаялі перад упаўнаважаным, як дзеці, вінавата апусціўшы галовы. Потым усе трое садзіліся ў брычку, брыгадзіраў выязны слухмяна кіраваўся на знаёмы хутар, і там заможны дзядзька частаваў начальства да таго часу, пакуль брыгадная кукуруза не пачынала падабацца ўпаўнаважанаму з раёна.

З садку, дзе з-за сваіх старэчых немачаў бавіў час, Зялёнка бачыў усё, што робіцца на Кругляку, і шчыра шкадаваў маладога, нявопытнага агранома, які не мог адбіцца ад настырнага Каралёва. Было проста

дзіўна: упаўнаважаны малы, шчуплы, як здрок, а такую ўладу трымае, што не запярэч яму, слова насуперак не скажы. Ды, дзякуй богу, хутар, куды накіроўвалася брычка, меў чым уняць гонар і пыху Каралёва. Супакоены Зялёнка здалёк праводзіў вачыма начальства і аднаго разу быў вельмі здзіўлены, што брыгадзіраў выязны павярнуў не на Горскую, а прыпыніўся акурат насупраць яго сялібы. Госці, якіх гаспадар сустрэў пачціва і са страхам, адразу паджгалі да хлява. Яшчэ з Кругляка, мусіць, ззорылі, што кукуруза тут не раўня калгаснай — сцябло ў сцябло, высокая, лапушыстая.

— Хоць на выстаўку вязі,— зацмокаў языком Каралёў і адразу напусціўся на гаспадара:— Дзе насенне браў? Украў, мабыць? Наколькі я ведаю, кукурузу на працадні не выдаюць.

— Якое там украў? — чуючы сваю віну, закалаціўся ад страху Зялёнка.— На абмежку, калі сеялі вясною, сабраў жменьку.

— Але, на абмежку,— чамусьці не выдаў старога Мішка Рыжкоўскі.— Акурат мяшок парваўся, дык і рассыпалася трохі.

Няпрошаныя госці, не зважаючы ўжо на гаспадара, ледзь не нюхалі кукурузу: разгортвалі сцябліны, мералі ў вышыню, мацалі зялёнае абвіслае лісце. Каралёў дык той зусім набраўся нахабства: каб палюбавацца залацістым зернем, пачаў раздзіраць катахі — адзін, другі, трэці, і, як на ліха, катахі яму траплялся самыя тоўстыя і спелыя. Нават ад унукаў Зялёнка бярог гэтыя дужа хвацкія катахі, спадзеючыся налушчыць увосень добрую торбачку насення. Цяпер гаспадар двара стаяў збянтэжаны і здзіўлены: то ж такія сталыя людзі, а глуму робяць, як неразумныя дзеці.

— Няйнакш шэсцьсот цэнтнераў зялёнай масы выйшла б на круг,— пра штосьці думаючы, сказаў Мішка Рыжкоўскі.— Шэсцьсот, не меней.

— Дзіва што! Больш як на тры метры паднялася,— уголас дзіваваўся Косця Русакевіч.— І адкуль у ёй такая сіла?

— Бо на свіным гнаі расла,— супакойваючыся, растлумачыў Зялёнка.— Свінушнік тут у мяне калісь стаяў.

— Мабыць, і салетру ў калгасе краў? — вылазячы з кукурузы, грозна насупіў бровы Каралёў і паківаў беленькім пальчыкам:— Ты глядзі ў мяне, дзед!

Халера б на яго, гэтага раённага ўпаўнаважанага: усё бачыць, усё ведае. Зялёнка не знайшоўся, што адказаць, адно часта-часта заплюскаў вейкамі, замыляў збялелымі губамі. Але, здаецца, усё ж дагадзіў хітраму і зіркатаму Каралёву: нізка пакланіўся, пачціва правёў да самых весніц. Зялёнка так і не дапетрыў, чаго прыязджала высокае начальства. Падумаў, паразважаў ды хутка і забыў пра нечаканы візіт. Потым і наогул яму стала не да Каралёва. Пасля нядаўніх спорных дажджоў на параслях і ў верасовых нерушах дружна пракінуліся вераснёўскія баравікі. Усе, каго яшчэ прутка трымалі ногі, пабеглі ў лес, і Зялёнка не адстаў ад суседзяў, помнячы, што сушаныя грыбы — дужа хвацкі прывапак да квашанай капусты. Настуля ледзь паспявала сушыць баравікі, нізаць на нітку; хата спрэс прапахла грыбамі, зайдзі — дык ажно нос зрывае ад вострага ляснога водару.







Але Зялёнку, самаму зацятаму грыбніку ў Малым Сяле, усё было мала: ледзь уднее, ён ужо на нагах. Не паспее Настуля ў печы прапрышчыць, а ён ужо дома з пудовым кашом, укоптур, да самай дужкі, наладаваным крамянымі баравікамі. Кош, сплецены з дубовай дранкі, і так як падняць, а з грыбамі і яшчэ горш — рукі ўрывае. Вяртаючыся з лесу, Зялёнка кожны раз прыпыняўся адпачыць на масціку цераз гнілую канаву. Ставіў грыбы каля ног, а сам, распрамляючы знямелыя плечы, колькі хвілін стаяў на памосце, любуючыся вёскай, што пачыналася адразу за аселіцай. Ён і ў гэты раз глядзеў з мастка на сваю сялібу, і нешта там, пад кучаравымі вязамі, яму не падабалася. Спачатку ён не зразумеў, што гэта такое, чаму двор мае такі нязвыклы выгляд, а калі прыгледзеўся пільней, то ажно ўздрыгнуў ад прыкрасці. Рэштку дарогі, не верачы сваім вачам, бег бегма, хоць грыбы ў кашы моцна трэсліся і выпадалі за спіною на тупкую сцежку.

Каля хлява было пуста і гола, кукурузу — высокую і лапушыстую кукурузу — быццам карова языком злізала. На градцы бялелі свежыя пеньчукі, вецер ганяў па зямлі абломкі сухіх лісцяў — вось і ўсё, што асталося ад засеўка. Зялёнка спыніўся, у роспачы агледзеўся вакол. Настуля не выходзіла на ганак, за соткамі на Кругляку чуўся гул сіласаўборачнага камбайна. Там было людна і шумна, тут было ціха і пуста. Зялёнка стаяў разгублены і зніякавелы, не разумеючы, куды гэта падзелася такая цудоўная, рослая кукуруза. Вінаватага паблізу не было, і ён, натапыраны, калючы, як вожык, накінуўся на бедную Настулю, ледзь тая паказалася з хаты:

— Гэта ты расправілася з кукурузай? А ці я ж цябе прасіў? А ці ж табе іншага занятку не было?

— Не чапала я тваёй градкі — адчапіся, адхрысціся. Тут начальства поўны двор завапіла. Самі ж і высеклі кукурузу, самі ж і ў машыну пагрузілі.

— Начальства? Што ты вярзеш, старая?

— Ну, брыгадзір наш, Русакевіч, адале аграном, Рыжкоўскі. І яшчэ нейкі кусліВы здрок у ботах і дыяганалевых портках.

— Каралёў, мусіць,— здагадаўся Зялёнка.— З Ганцавіч, прыезджы.

— Але, з раёна. Сярдзіты ж вельмі. Усё камандаваў тут ды цябе ў астрог хацеў пасадзіць. Бытта ты ўвесь калгас агаліў — і насенне кукурузнае пакраў, і салетру дадому валачыў.

— Не слухай ты яго. Калі я што і ўкраў, то не так сабе, а з дазволу.

Зялёнка змяніўся з твару — то чырванеў, то бялеў, ён ужо не слухаў Настулю — крута павярнуўся і нацяцькі цераз соткі паджгаў на Кругляк: хоць бы ўбачыць таго Каралёва, хоць бы вылаяць брыдка! У гэты канец поля з краю кукурузнай сцяны прыбліжаўся трактар у счэпе з сіласаўборачным камбайнам. Збоку камбайна, прымаючы ў кузаў здробненую зялёную масу, марудна сунулася грузавая машына. Убачыўшы на абмежку раз'ятранага Зялёнку, трактарыст Коля Струкачоў прыпыніў трактар і, хітра пасміхаючыся, спрытна саскочыў на зямлю:

— Здароў, дзядзька Андрэй! Ну, як там твая кукуруза? Кажуць, вышэй хлява вымахала.

— Ат, не збыткуй, чалавеча. Няма кукурузы. Ні каліўца, ні зярнятка.

— Ведаю, што няма,— зарагатаў малады мурзаты перасмешнік.— У Ганцавічы на выстаўку паехала твая кукуруза.

— Скуль табе вядома, што ў Ганцавічы?

— Дык тут жа, на Кругляку, пасля абеду начальнікі былі. Лазілі па ўсім полі, выбіралі самыя высокія сцяблiны, а потым на тваім падворку кукурузу ўбачылі. I паехалі туды.

— Я акурат у лесе быў. А так не даў бы распараджацца на сваім котлішчы.

— Паслухаў бы цябе Каралёў! Цяпер твая кукуруза на базары ў калгасным павільёне стаіць. Кожны, хто ўбачыць, падумае: от працавітыя людзі жывуць у Малым Сяле! Рыжкоўскаму і Русакевічу, напэўна, прэмію дадуць, а то і вордзены.— Коля Струкачоў зноў зарагатаў і нечакана праспяваў:— Мы Амерыку дагонім па надоях малака...

Ён яшчэ не дакончыў частушку, як у нос яму тыцнулася фіга.

— На табе Амерыку! На табе вордзены! — Зялёнка кіпеў ад гневу і абурэння.— Іш ты, дагонім! З кім? З такімі злыднямі, з такімі ашуканцамі! Даганяючы, ведаеш, куды цалуюць?

На здзіўленне, Коля Струкачоў сустрэў абразу з годнасцю, мужна, хоць ён, вядома, тут быў не вінаваты. Зялёнка ўжо і сам зразумеў, што перахапіў лішку, але тым не менш прасіць прабачэння ў трактарыста не захацеў — павярнуўся і моўчкі патэпаў цераз соткі на сваю сялібу. На душы было горка, сумна і прыкра. Слабая ўсмешка кранула губы старога толькі тады, калі з-пад яблыні, перакульваючыся ў разорах, насустрач яму выпстрыкнулі ўнукі.

— Дзед, ты не бядуй,— падбягаючы, паведаміў Васька.— Я пад паветкай кукурузных сцяблоў нахаваў.

— I я памагала,— круцячыся пад рукамі, шчабятала Нінка.— Там і спелых катахоў багата.

— Добра, унучкі,— падладзіўся да малых Андрэй Зялёнка.— Вылушчым насенне, а на весну зноў градку пасадзім.

За спіною неяк здзекліва, на поўныя абароты, магутна заракатаў трактар, з Кругляка даляцела шалясценне кукурузы, якая з сакавітым хрустам падала на вострыя нажы сіласаўборачнага камбайна. Нават не азірнуўшыся, Зялёнка вёў за ручкі ўнукаў і яшчэ не разумеў — гэта добра ці дрэнна, што Васька і Нінка схавалі ад начальства колькі катахоў кукурузы і ў яго цяпер будзе сваё насенне.

Мал. **А. Карповіч**

# Публіцыстыка



# ЛЯ МЯЖЫ БЕСПРАЦОЎЯ

Да апошняга часу замоўчвалася ў нас, што ў краіне ёсць лішнія працоўныя сілы. Лічылася так: калі ў нас існуе планавая сацыялістычная эканоміка, то яна надзейна гарантуе чалавеку працу. Але перабудова раптам абвергла гэта. Яшчэ ў 1987 годзе М. С. Гарбачоў заявіў амерыканскаму журналісту Т. Брокау, што мы ўжо цяпер распрацоўваем планы стварэння рабочых месцаў і на новых тэрыторыях і ў другіх сферах...

Выказваючы гэта, Міхаіл Сяргеевіч, відаць, ужо тады прадбачыў магчымасць масавага беспрацоўя. Дарэчы, прадбачыць гэта было не цяжка. Напрыклад, у рэспубліках Сярэдняй Азіі, як паведамлялася на II з'ездзе народных дэпутатаў СССР, беспрацоўнымі з'яўляюцца больш мільёна чалавек... Вось такая лічба.

Давайце падумаем, а чым, напрыклад, выклікана такая з'ява, як «рух шабашнікаў», калі людзі кожную зіму, скажам, з асобных раёнаў Украіны і Беларусі накіроўваюцца на заробкі ў іншыя рэгіёны краіны?

Наогул, калі пайсці ад агульнага да прыватнага, ад праблемы на ўзроўні краіны да праблемы на ўзроўні нашай рэспублікі, то становішча, здаецца, пакуль не вельмі вострае. Але гэта на першы погляд. Спецыялісты сцвярджаюць, што беспрацоўе — гэта ўжо надзённая тэма для размовы.

Сёння стала відавочным, што скарачэнне колькасці працуючых у некаторых галінах народнай гаспадаркі, перавод спецыялістаў з адной сферы ў другую — з'ява непазбежная. Радыкальная эканамічная рэформа апрача ўсяго іншага прымушае дзяржаву ўдасканальваць кіраванне вытворчасцю, навукова-тэхнічным прагрэсам і г. д. Ды і масавае перасяленне людзей у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС трэба мець на ўвазе. Людзям трэба не толькі даць жыццё, але і працаўладкаваць іх.

Эксперты падлічылі, што да канца бягучай пяцігодкі перабудова ў нашай рэспубліцы вызваліць з вытворчага працэсу прыкладна 5—6 працэнтаў працуючых. Праўда, ужо сёння будоўля і сфера абслугоўвання насельніцтва, напрыклад, можа забяспечыць работай 180 тысяч чалавек. Аднак многіх з іх прыйдзецца перападрыхтоўваць па іншых спецыяльнасцях, а выпускнікоў школ навучаць прафесіям. А гэта патрабуе значных матэрыяльных затрат.

Можа здарыцца, што ў Мінску, напрыклад, будзе лішак працоўных рэсурсаў, а ў іншай мясцовасці, скажам, у Крычаве, не будзе каму вырабляць цэмент і г. д.

Адзін з вядучых спецыялістаў рэспублікі Мікалай Сідаравіч Шаванда сказаў мне: «Калі мы гаворым аб працаўладкаванні чалавека, то маем на ўвазе перш за ўсё забеспячэнне яго работай на родным або суседнім прадпрыемстве. Тым не менш некаторая частка рабочых пасля перападрыхтоўкі будзе накіравана ў іншую мясцовасць, на буйныя заводы і фабрыкі, новабудоўлі рэспублікі. У гэтым выпадку заканадаўствам прадугледжана для работнікаў некаторае пашырэнне льгот у забеспячэнні жыллём».

Не ведаю, як чытача, а мяне гэта асабіста насцярожвае. І вось чаму. Як вядома, нават нежанатых юнакоў і незамужніх дзяўчат вельмі цяжка зрушыць з абжытага месца, з буйных гарадоў, не кажучы ўжо аб сталых сем'ях, якія маюць кватэры і г. д. Мне здаецца, што ўсё гэта падобна на мёртвую схему, народжаную ў міністэрскіх кабінетах. Тым не менш размовы аб тым, пра што гаварылася вышэй, вядуцца з усёй сур'ёзнасцю на розных кіраўнічых узроўнях. А ў Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцях спрабуюць зрабіць пераразмеркаванне рабочай сілы. Але пакуль гэта не дае жаданага эфекту.

Вось, скажам, з Оршы ў апошні час у гаспадаркі раёна перасялілася некалькі дзесяткаў сем'яў. Навасёлам выдзелілі дамы сядзібнага тыпу, гаспадару выплацілі аднаразовую дапамогу ў 200 рублёў і яшчэ па 75 на кожнага члена сям'і. Не, гэта праблему не вырашае. Няпроста чалавеку, сям'і змяніць месца жыхарства, гэта нараджае шмат праблем і матэрыяльных і маральных. Не кожны ж гараджанін можа поўнасцю адапціравацца ў вёсцы, знайсці сябе ў вясковым жыцці, у сельскай працы. І хіба мы маем права папракаць чалавека, які, не знайшоўшы сябе ў вёсцы, паехаў назад у горад? Гэта было б вялікім глупствам і несправядлівасцю. Але падумайце, што зноў чакае таго чалавека ў горадзе, дзе ліквідавана яго рабочае месца?

«Іншага выйсця няма,— сцвярджае мой субяседнік.— Змены, якія адбываюцца, прадыктаваны самім жыццём. Сацыялістычнае грамадства не адварочваецца ад сваіх грамадзян, ідзе ім насустрач, забяспечвае ім сацыяльныя правы, абарону...»

Дазволю зазначыць, што ў апошняе не вельмі верыцца... А наконт «іншага выйсця» — крыху ніжэй. Хочацца спыніцца на пытанні скарачэння кіруючага апарату.

Кіруючы апарат у нашай рэспубліцы, дарэчы, як і ўсюды, вельмі вялікі. Я спрабаваў прасачыць, як ідуць справы, напрыклад, у Дзяржаграпраме БССР. Пераканаўся, што змены не кранулі па-сапраўднаму гэту арганізацыю. Апарат пазбаўляецца работнікаў ніжэйшага рангу. За кошт гэтага стабільна павышае зарплату тым, каму пашчасціла застацца на месцы (людзей скарачаюць, а фонд заработнай платы не мяняецца). Мяняюцца структуры, але іх камандная сутнасць застаецца ранейшая. Па-ранейшаму канкрэтна апарат не нясе адказнасці за поспехі або няўдачы ў той або іншай галіне.

Эканамісты АН БССР, як мне здаецца, справядліва адзначаюць, што працягваюцца кулуарныя размовы аб скарачэнні цэнтральных міністэрстваў і ведамстваў вось ужо некалькі гадоў, а на справе адбываецца ўпарадкаванне апарату.

Тым не менш частка чыноўнікаў ніжэйшага рангу аказваецца ў сувязі са скарачэннем штатаў без работы... Як усё суха гучыць у справаздачах, дакументах, дакладах: «скарачэнне штату». «працоўныя рэсурсы», «чыноўнік» і г. д. А гэта ж усё жывыя людзі, мы з вамі. Хіба мы вінаваты, што сістэма «спатыкнулася», мы справядліва ў данай сітуацыі патрабуем забеспячэння нашага канстытуцыйнага права на працу.

Так званыя чыноўнікі, ва ўсякім выпадку многія з тых, каго звольнілі па скарачэнню штатаў, пакуль не маюць магчымасці працаваць па спецыяльнасцях. І нельга спадзявацца, што спецыяльна для іх адкрыюць недзе адпаведныя рабочыя месцы або ім вызваляць месцы тыя, хто на пенсіі, але працягвае працаваць. Відаць, настаў час ствараць спецыяльныя курсы, на якіх гэтыя людзі маглі б набыць найбольш патрэбныя для сябе і грамадства ў данай сітуацыі прафесіі. Але трэба думаць і пра будучае...

Нельга забываць, што рост беспрацоўя (асабліва сярод моладзі) выклікае рост злачыннасці. Аб гэтым сведчыць наш уласны вопыт і вопыт іншых краін.

Трэба прызнаць, што сёння мы яшчэ не маем вопыту рэгулявання лішку працоўных рэсурсаў, тым не менш хутчэй збіраемся замацаваць рыначныя адносіны. Але рынак «выштурхне» з вытворчасці тысячы, дзесяткі тысяч людзей. Успомнім у сувязі з гэтым нядаўнія змены ва Усходняй Германіі, Венгрыі, Польшчы. Нехта з даследчыкаў параўнаў эфект ад гэтага, які там меў месца, з шокам... Па ўсёй верагоднасці, нам трэба будзе ствараць біржы працы. Бюро па працаўладкаванню насельніцтва, якія ёсць сёння, працуюць з перагрузкамі.

Шмат складанасцей уносяць у вытворчы працэс «шабашнікі», пра якіх гаварылася раней. Яны працуюць на прадпрыемстве, потым звальняюцца, некуды едуць, праз час вяртаюцца, просяцца назад...

Біржы... Мне асабіста слова «біржа» рэжа слых. Дык вось, як сказалі мне ў Савеце Міністраў БССР, біржы будуць. Больш таго, у рэспубліцы паскоранымі тэмпамі ствараецца аўтаматызаваная сістэма па працаўладкаванню насельніцтва. Яна ўжо дзейнічае ў Наваполацку, часткова — у Мінску. Электроніка павінна дапамагчы кожнаму, хто жадае атрымаць інфармацыю аб наяўнасці вакансій, аплаце, умовах працы, адпачынку, перспектывах развіцця таго або іншага прадпрыемства.

Адначасова пры дапамозе электронікі работнікі бюро атрымаюць інфармацыю такога плану: хто да іх звярнуўся за дапамогай, што ён умее рабіць і г. д. Пакуль жа нам застаецца канстатаваць, што нашы службы па працаўладкаванню насельніцтва ні ў якім разе нельга параўноўваць са службамі капіталістычных краін: мы вельмі і вельмі адстаём ад іх.

Многія спецыялісты сцвярджаюць, што

ўжо сёння Беларусь павінна мець адзіную сістэму працаўладкавання насельніцтва, тую сістэму, якая вырашала б пытанні перапрафіліравання работнікаў, а таксама вырашала б праблемы прафарыентацыі моладзі. Несумненна, менавіта моладзь, якая не мае пэўнай працоўнай кваліфікацыі, пасля таго, як будуць уведзены рыначныя адносіны, страціць больш, чым іншыя катэгорыі насельніцтва.

Вяртаюся да слоў М. С. Шаванды, да яго «іншага выйсця няма»... Памятаеце, масавая міграцыя насельніцтва? Думаю, што словы Мікалая Сідаравіча азначаюць гэта... Але вучоны чамусьці не звярнуў пры гэтым увагі на такі рух, як шэфства гараджан над вёскай. Менавіта на шэфства сёння многія кіраўнікі глядзяць як на выратаванне ад усіх бед у сельскагаспадарчым сектары нашай народнай гаспадаркі. Звярніце ўвагу, які парадаксальны малюнак атрымліваецца: НТП выцясняе з заводскіх цэхаў, кантор, устаноў, НДІ «лішніх» працаўнікоў самых розных прафесій. Менавіта гэтыя калектывы штогод вымушаны накіроўваць на сельгасработы да 150 тысяч чалавек. Атрымліваецца, што прадпрыемствы і ўстановы ўтрымліваюць такую колькасць людзей у штаце звыш нормы спецыяльна для гэтай мэты...

Высокакваліфікаваныя і яшчэ нявопытныя слесары і канструктары, бухгалтары і тэхнолагі, вынаходнікі і праграмісты... дружна і не, з энтузіязмам і без энтузіязму нарыхтоўваюць у вёсцы кармы для жывёлы, убіраюць бульбу, цукровыя буракі, будуюць жыллёвыя аб'екты, пракладваюць дарогі і робяць шмат іншага, у чым яны не спецыялісты. Трацяць на гэта час, які адведзены ім на прадпрыемстве або ва ўстанове для выканання свайго прамога абавязку. Думаю, што гэта вельмі дрэнна, і нічога не было б дрэннага, калі б, скажам, гэтыя спецыялісты дапамагалі калгасам і саўгасам у свой вольны час, дапамагалі, каб зарабіць, каб палепшыць свой сямейны бюджэт, матэрыяльнае становішча. Хай бы людзі мелі магчымасць працаваць па ўласным жаданню, а не пад прымусам ды пагрозамі, маўляў, не паедзеш — пашкадуеш.

Адзін міністр сказаў мне: «Гэта вымушаная мера — шэфства. У вёсцы зусім мала людзей, а карміць народ трэба. Мы можам абысціся без камп'ютэра, без хлеба ж нам не абысціся...»

Яно зразумела, што вымушаная. Але колькі ў нас гэтага «вымушанага»? Як яно зацягнулася, як мы стаміліся ад усяго гэтага. Дзе ж выйсце?..

Сёння быццам бы распрацаваны Дзяржаграпрамам БССР і дзейнічаюць мэтавыя праграмы «Інтэнсіфікацыя» і «Праца», але пакуль грамадства карысці ад іх не адчувае. А спецыялісты БелНДІ эканомікі АПК рэспублікі тым часам сцвярджаюць: ручной працай у калгасах і саўгасах занята 70 працэнтаў працуючых... Вось вам і сістэма.

Спецыялісты спрачаюцца, абараняюць дысертацыі, якія не даюць нікому карысці, апрача як іх аўтарам. Сельская гаспадарка топчацца на месцы. На заводах, фабрыках і ва ўстановах з'яўляюцца «лішнія» людзі... І зноў чуецца: і сёння, і ў будучым нашу сельскую гаспадарку не падняць без выкарыстання ў ёй працоўных рэсурсаў іншых галін вытворчасці... «Так, але, несумненна, на новым арганізацыйным узроўні,—пераконвае мяне мой чарговы субяседнік, намеснік генеральнага дырэктара Мінскага вытворчага скуранога аб'яднання «Бальшавік» Валерый Панкратаў.— Дрэнна ці добра, але ўжо дзейнічае Закон аб дзяржпрадпрыемстве. Рэспубліка працуе ва ўмовах самафінансавання і самаакупнасці. Украініўшы гаспразлік,— кажа Валерый,— ні адна паважаючая сябе фірма непатрэбныя кадры трымаць не будзе. Так што, відаць, час ствараць, дакладней, фарміраваць у гарадах армію сезонных рабочых...»

Думка, як я думаю, слушная. «Сусветныя эканамічныя законы не абыдзеш,— сцвярджае Валерый,— з імі трэба лічыцца...» Сапраўды, шэфства над вёскай у нас замяніла тое, што ва ўсім цывілізаваным свеце называецца сезоннымі сельскагаспадарчымі работамі. А шэфы — сезонныя рабочыя. У ЗША, напрыклад, усяго 5 працэнтаў насельніцтва поўнасцю забяспечвае краіну прадуктамі харчавання, ды яшчэ яго экспартныя пастаўкі ў многія рэгіёны свету. Але што гэта за паказчык — 5 працэнтаў?

Адразу скажам, што фермы там без падтрымкі збоку абысціся не могуць. Так, клубніцы на плантацыях у Каліфорніі збіраюць сотні тысяч мексіканцаў, сезонных рабочых. Іншаземцы там не маюць юрыдычных праў, але гэта маюць свае рабочыя.

У нас жа, калі ёсць рэальная пагроза з'яўлення ў гарадах значнай колькасці «лішняй» рабочай сілы, думаю, без асаблівых намаганняў можна ўвесці статус сезоннага сельскагаспадарчага рабочага. Вядома, справа адпаведных органаў — вызначыць іх правы і абавязкі, прадугледзець такія пытанні, як прыналежнасць да прафсаюзных арганізацый, забеспячэнне пенсіі ў будучым і г. д.

Ідэя некаму можа здацца незвычайнай і шкоднай. Аднак успомнім, хто такія «шабашнікі». Гэта тыя ж сезонныя рабочыя, з той толькі розніцай, што гэта з'ява стыхійная, юрыдычна не падмацаваная. Тут людзі самі ствараюць брыгады, самі шукаюць сабе работу. Практыка сведчыць, што ствараюць у асноўным будаўнічыя брыгады і брыгады па мантажу сельскагаспадарчага абсталявання, бо гэтыя работы даволі высока аплочваюцца. Думаю, калі б стабільныя добрыя заробкі гарантавала работа, напрыклад, па цярабленню льну, на сушцы зерня, зборы пладоў у садах і г. д., то «шабашнікі» і іх ахвотна выконвалі б.

Сезоннік ад кадравага рабочага адрозніваецца тым, што ён працуе больш эфектыўна, працуе па 10—12, а то і больш гадзін у суткі. І адміністрацыя не кантралюе яго, не падганяе, ён сам зацікаўлены зрабіць якасна і як мага больш, бо ведае, ад гэтага залежыць яго заробак.

Вядома, праблем з сезоннымі рабочымі шмат, тут: і хто дасць такому чалавеку пасведчанне, каб органы міліцыі яго не лічылі бадзягам, хто будзе абараняць яго канстытуцыйныя, іншыя правы, калі ўжо дзяржава не можа прадаставіць яму пастаянную работу па месцы жыхарства, і г. д.

«Біржа працы, бюро па працаўладкаванню,— кажуць мне спецыялісты.— Там ён атрымае неабходную інфармацыю аб тым, дзе ёсць работа, якая, колькі ён зможа зарабіць...»

Як добра ўсё выходзіць, калі мы проста разважаем, і як цяжка ўсё ажыццяўляецца на практыцы!...

Ужо сёння ў друку праходзіць інфармацыя пра тое, што ў нас існуюць беспрацоўныя, выказваюцца думкі, што колькасць іх будзе павялічвацца. Беспрацоўе, як бы ні закрывалі на гэта вочы асобныя кіраўнікі розных рангаў,— справа рэальная. Вядома, ёсць катэгорыя людзей, якім гэта не страшна. Але ёсць і тая, што не застрахавана ад гэтага. Ці гатовы мы да вырашэння праблемы? Калі не, дык трэба шукаць, аналізаваць, думаць, каб гэтая сацыяльная з'ява не прыйшла нечаканай для грамадства і для кожнага асобнага чалавека.

**Васіль СЛАВЯНАЎ**

*Крымінальная сітуацыя*

# ПРАПАЎ БЕЗ ВЕСТАК...

Пераацэнка каштоўнасцяў, здараецца, падштурхне чалавека да высновы, што жыць так, як ён жыў раней, немагчыма. Тады ён нечакана кідае работу, сям'ю, сяброў. Адны ідуць... у «бомжы», другія... упрочкі, трэція ўвогуле адыходзяць з жыцця. Ёсць яшчэ ахвяры злачынстваў. Працэнт людзей, якія знікаюць без вестак, вялікі за мяжой, немалы ён у краіне, павялічваецца і ў нашай рэспубліцы.

На людным месцы калі-нікалі прыцягне ўвагу фотаздымак і некалькі радкоў паведамлення, як быў апрануты чалавек, калі яго бачылі апошні раз. Кожны бачыў тыя сціплыя заклікі на міліцэйскіх стэндах, чуў па радыё, па тэлебачанні. Але псіхіка чалавека мае асаблівасць адхіляць тое, што яму замінае, што яго трывожыць, да таго ж час прыспешвае — не да тых, каго ўжо няма з намі. Вось толькі сваякі пакутуюць.

У адным з невялікіх правінцыяльных гарадоў часта можна ўбачыць ля ракі на адным і тым жа месцы жанчыну ў чорнай хустцы. Яна моўчкі сядзіць на беразе, глядзіць, як цячэ вада; людзі праходзяць побач, бегаюць з вудамі хлопчыкі, стукаюць па мячы валейбалісты — недалёка гарадскі пляж, часам асцярожна прыцягнецца бадзячы сабака — напіцца, чайкі з крыкамі носяцца над вадой — жанчына нічога не бачыць і не чуе.

У яе колькі гадоў таму прапаў сын. Хлопчык знік, быццам яго і не было,— на гэтым месцы ля ракі яго бачылі ў апошні раз. Не знайшлі потым ні цела, ні вопраткі, колькі ні шукалі і ў рацэ і ў наваколлі.

У такіх выпадках для бацькоў самае жахлівае — невядомасць. Гора іх і пакуты бязмерныя... Не ведае ніхто? Але нехта ж нешта павінен ведаць, хоць тая вада, што цячэ і цячэ, адмерваючы час і хісткасць нашага жыцця...

«...На звычайнай вечарынцы высокая, стройная Рэгіна шмат выпіла: кідала фужэрамі ў сцяну, цалавалася з кошкай, падыходзіла да мужчын, якія аб нечым спрачаліся, хіхікала і абрывала гузікі з пінжака то ў аднаго, то ў другога. Яе многія хацелі праводзіць у той вечар, дакладней, у тую ноч, але шчаслівая, стройная і п'яненькая Рэгіна пайшла адна. Яна ўдала і ў патрэбным напрамку выбралася дварамі і памкнулася трапіць у метрапалітэн, які ўжо закрыўся, стукала кулачком, выкрыквала глупствы, а потым яе след згубіўся. Яна знікла, быццам пайшла на Месяц сваёй лёгкай, п'яненькай хадой. Потым яе нейкі час шукалі, і доўга яшчэ на міліцэйскім шчыце каля гэтай станцыі метро побач з будкай «Саюздрук» вісеў яе фотаздымак з тэкстам: «Знікла дзяўчына... 26 гадоў, высокая, прываблівая, у футравай шапцы, на руцэ гадзіннік жоўтага металу...»

Так заканчвае адзін з раздзелаў сваёй аповесці «Галасы» майстра сучаснай псіхалагічнай прозы рускі пісьменнік Уладзімір Маканін.

Магчыма, у кожным горадзе, пачынаючы з самага маленькага, знойдзецца жанчына ў жалобным і жанчына, якая «быццам пайшла на Месяц» — а колькі ў нас гарадоў, малых і вялікіх, колькі такіх жанчын будзем мецць у выніку? Бо жыццё, на жаль, мае зваротныя, не вельмі прываблівыя бакі.



Дык вось, чалавек знікае... Як правіла, пошукавую работу ў большасці ўпраўленняў унутраных спраў і ў нізавых падраздзяленнях вядзе толькі адзін супрацоўнік, між тым неабходна два-тры. Ці можа ён адзін справіцца з перапіскай, шматлікімі запытаннямі, з патокам арыенціровак, іншай інфармацыі? Вядома, не.

У рэспубліцы створана спецыяльнае аддзяленне для пошукаў згінулых людзей. Яно займаецца таксама і пошукамі злачынцаў. Праўда, у апошні час гэтыя функцыі падзелены. У ім чатыры чалавекі, але мяркуйце самі — няхай яны самыя працавітыя і свядомыя ў сваёй справе — ці не мала іх на ўсю рэспубліку?

Усё-такі чаму знікаюць людзі? Прычын некалькі. Забойствы і ўтойванне іх ахвяраў — гэта значыць трупаў, суіцыд, бадзяжніцтва, кіднэпінг, сексуальныя злачынствы, няшчасныя выпадкі. Яшчэ адна, самая неверагодная, бадай, з галіны фантастыкі — выкраданне людзей іншапланецянамі (!). Да яе супрацоўнікі аддзялення аднесліся больш чым скептычна, але ж паспрабуем разгледзець усё, нават самае неверагоднае. З яго варта і пачаць.

Друк у апошні час трасе «іншапланетная» ліхаманка. Вось што паведаміла, напрыклад, нядаўна «Праўда Украіны». Дзве жанчыны ў гарадскім наваколлі сустрэлі некалькі гуманоідаў, якія плылі на лодцы па мясцовым вадаёме... «Бледныя, аднолькавыя, як у блізнят, твары. Даўгія хвалістыя валасы руса-залацістага колеру. Вялікія, прамяністыя вочы...

— Вы турысты? — зацікавіліся жанчыны.

— Мы прыляцелі з іншай планеты. Дзе яна, гэта вашаму розуму недаступна. Мы кожны дзень бяром з Зямлі аднаго чалавека да сябе. Тут побач наш карабель... Хочаце, і вас забяром?..»

Жанчыны, вядома, з жахам адмовіліся.

У каментарыі супрацоўнік аддзела фізікі зорак і галактык абсерваторыі АН УССР А. Пугач піша:

«З тым, што НЛА забіраюць людзей, звязана гіпотэза аб пансперміі, па якой жыццё на Зямлю было занесена звонку... Дык чаму ж тым, хто «асемяніў» Зямлю, не браць людзей дзеля падтрымання свайго генафонду?»

Неяк кіраўнік створанага пры Акадэміі навук СССР аддзела па вывучэнню анамальных з'яў недвухсэнсава заявіў па тэлебачанні ў праграме «120 мінут», што па падліках уфолагаў невядомымі энланаўтамі з Зямлі выкрадзена каля пяці тысяч чалавек.

Бадай, тэорыя гэта вельмі даспадобы толькі крымінагенным элементам. Знік чалавек, і не трэба яго шукаць — віны іншапланецяне. Хаця асобныя факты, як, напрыклад, у артыкуле І. Мосіна, сапраўды ставяць у тупік. Ён прыводзіць такі выпадак: бацька з сынам, вучоныя, накіраваліся зімой у горы. Бацька на хвіліну адышоў ад стаянкі, а калі вярнуўся, сына не было. У той жа час ніякіх слядоў на снезе ні да яго, ні ад яго — той нібы ўзнёсся ў паветра ці... сапраўды «пайшоў на Месяц».

Але ж, думаецца, няўжо іншапланецяне, калі яны і ёсць і больш развітыя за нас, з такой жорсткасцю будуць траўмаваць «чалавека разумнага»?

Некалькі гадоў таму, у канцы ліпеня, у Першамайскі райаддзел унутраных спраў Віцебска, прыйшоў Пётр У. жыхар гэтага ж раёна, рабочы, і паведаміў дзяжурнаму афіцэру, а потым давёў і следчаму, што яго жонка пайшла з кватэры і з таго часу, ужо трэція суткі, ён яе не бачыў. Хвалюецца малалетняя дачка і ён таксама — як бы не здарылася бяды.

Жонка Пятра У. не вярнулася ні назаўтра, ні пасля. Пачаліся, вядома, пошукі, але пошукі ў такіх выпадках міліцыя вядзе не вельмі ахвотна. Спрацоўвае яшчэ старая завядзёнка: няма трупа — няма справы, няма чалавека — няма праблемы. Але Пётр У. працягваў пісаць заявы, патрабаваў ад міліцыі прымаць больш рашучыя захады. Былі адпрацаваны некалькі версій, і ўсе безвынікова. Праз нейкі час крыміналісты на ўсялякі выпадак узялі пробы рэчыва з кватэры У.: з пакояў, кухні, туалета, ванны. У ванне ля сцёкавай адтуліны былі знойдзены мікрачасцінкі чалавечага цела, крыві.

Пётр У. дакладна распрацаваў і здзейсніў свой план. Перад забойствам даў дачцы снатворнае, і тая спала амаль двое сутак. За гэты час ён расчляніў труп жонкі на дробныя часткі. Тое-сёе спусціў ва ўнітаз, тое-сёе занёс і выкінуў у Дзвіну, а вось ад мышцаў і тканак пазбавіцца не выпадала. Тады ён... перакруціў іх праз мясарубку і змыў у вадасцёк у ванне. Забойца быў прызнаны псіхічна здаровым.

У лютым 1988 года ў райаддзел Заводскага раёна Мінска звярнулася маці 25-гадовай Марыны Н. Яна заявіла аб знікненні дачкі. Год па гэтай справе не было аніякіх

зрухаў, і толькі летась, у лютым, у вентыляцыйнай шахце дома па вуліцы Несцерава знайшлі непазнавальна высахлы труп на капронавай вяроўцы. Вядома, што паветра ў шахце выцягваецца і паху практычна няма. Труп высыхае, нібы мумія.

Як высветлілася ў ходзе следства, Марыну забілі... дзве яе «сяброўкі». Матыў злачынства — не падзялілі палюбоўніка.

17 красавіка мінулага года ў Маскоўскім раёне Мінска з дома па вуліцы Голубева прапала Ірына Л., 1958 года нараджэння. Яна была замужам, мела дзіця. Праз два дні аб'явілі пошук, і 4 мая ў тым жа доме ў вентыляцыйнай шахце, толькі суседняга пад'езда, быў знойдзены яе высахлы труп. Але злачынца не выкрыты да гэтага часу і справа, як паведаміў оперупаўнаважаны ўпраўлення Мінскага крымінальнага вышуку Аляксандр Палзуноў, знаходзіцца на даследаванні.

І такія бываюць «шляхі на Месяц»...

Злачынцы ўсяляк імкнуцца пазбавіцца ад трупа—асноўнай улікі. Няма трупа—няма злачынства. А тое, што знікаюць іншым разам людзі — дык, пэўна, гэта справа саміх людзей,— менавіта так лічылі ў праваахоўных органах зусім нядаўна, у гады так званага застою. Былы міністр МУС СССР Федарчук калісьці выказаўся недвухсэнсава: маўляў, гэта не наша справа — пошукі тых, хто знікнуў, няхай іх шукаюць сваякі. Мо таму найбольшая колькасць зніклых людзей і прыпала якраз на пачатак васьмідзесятых гадоў — час росквіту застою. Памятаеце ў салаўёўскай «Асе»: няшчаснага Бананана, нібы авечку, абыякава заколваюць упэўненыя ў сваёй беспакаранасці мафіёзі, вывозяць у мора, прывязваюць груз, і, так сказаць, канцы ў ваду: чалавек знікае назаўсёды.

У лістападзе паўтара года таму старшы ўпаўнаважаны Слонімскага раёна Н. Сакмаркін мусіў тэрмінова выслухаць інфарматара. Так іншы раз называюць пазаштатных супрацоўнікаў міліцыі. Інфарматар паведаміў, што выпадкова чуў п'яную размову двух мужчын і зрабіў выснову, што яны ў полі закапалі труп. Пошукі, якія былі без прамаруджвання арганізаваны міліцыяй, неўзабаве далі вынік. На тым месцы, дзе закапана цела, глеба з часам звычайна прасядае. Так быў знойдзены труп 33-гадовага кааператара, таксіста з Віцебска Уладзіміра К., якога лічылі прапаўшым. Яго, як высветлілася, забілі за машыну, якую потым здолелі прадаць праз магазін (!) у Маскоўскай вобласці. Забойцы Віктар П. і Уладзімір К. арыштаваны.

У пачатку лета некалькі гадоў таму невядомы злачынца звёў з сабой з парку Горкага малалетнюю дзяўчынку. Праз два месяцы яе труп знайшлі ў полі, у прыгарадзе Мінска. Цела маленькай ахвяры настолькі разлажылася, што па яго стану нават невядома было, што менавіта зрабілі з дзіцём.

У 1984 годзе з радзільнага дома па вуліцы Бельскага ў Мінску дзве невядомыя і дагэтуль жанчыны, пераапранутыя ў белыя халаты, выкралі нованароджанае немаўля. Персаналу ўсіх радзільных дамоў рэспублікі трэба не забывацца пра гэты выпадак, бо такое можа паўтарыцца зноў. Тых жанчын шукаюць і дасюль (дакладней, не шукаюць), бо ў дзіцяці ж ні імя, ні якіх прыкмет, што аблегчыла б пошук...

Знікаюць малалетнія дзеці, падлеткі, дарослыя і старыя людзі. І хаця некаторых знаходзяць потым жывымі, іншых з іх шукаюць і да гэтага часу. Усяго ў росшуку па рэспубліцы зараз каля пяці тысяч чалавек. Шукаць кожнага з іх (як «настойліва і ўмела» з нашымі абмежаванымі сіламі, можна толькі здагадвацца) будуць каля 15 гадоў. Потым, пасля таго, як справа ляжыць пяць гадоў у архіве, чалавек лічыцца памершым. Усяго па рэспубліцы за пятнаццаць гадоў да гэтага часу не знойдзены 337 чалавек.

Колькасць згінулых людзей павялічваецца. У 1987 годзе ў пошуку з завядзеннем спраў былі 1747 чалавек, у 1988—1902, знайшлі адпаведна 1437 і 1591. У мінулым годзе шукалі 2107 чалавек. Знайшлі 1770. Больш за ўсё знікае людзей у Мінску, сярод абласцей — у Віцебскай.

Нядаўна ў рускім друку прамільгнула паведамленне аб затрыманні пяцідзесяцігадовага бадзягі — «бомжа». На допытах ён расказаў, што за некалькі гадоў забіў 58 жанчын і двух мужчын. У большасці выпадкаў злачынствы рабіліся на сексуальнай глебе. У шэрагу гарадоў (а злачынца вандраваў па краіне) з-за несумленнасці праваахоўных органаў увогуле немагчыма было ўстанавіць нават месцы захаванняў забітых, і яны лічыліся прапаўшымі без вестак.

— Восень надыходзіць — чакай самазабойстваў,— заўважыў неяк знаёмы следчы.— Летам яшчэ трымаюцца, а як дажджы, халады, цiск заскача — так і цягне таго-іншага ў пятлю.

Так званы суіцыд у шэрагу выпадкаў спадарожнічае знікненню людзей. Кожны чалавек сустракае смерць па-свойму. Аднаму не так жахліва памерці ў акружэнні родных, сваякоў, а другі, наадварот, прагне ў гэты час адзіноты. Часта старыя па ўзросту людзі знікаюць без вестак, бо, адчуваючы свае апошнія хвіліны, сыходзяць куды падалей. Успомнім хаця б прыклад Льва Талстога. Геніяльны пісьменнік, знаўца псіхалогіі людзей, сам не вытрымаў жаху перад наступаючай смерцю і проста ўцёк з дому. Што датычыцца так званага суіцыду, то ў нас ён, на жаль, вельмі і вельмі распаўсюджаны. Колькасць самазабойстваў пакуль не змяншаецца, і садзейнічае гэтаму няўстойлівасць нашага грамадства. У мінулым годзе толькі ў Мінскай вобласці пакончылі з сабой болей як 400 чалавек. Псіхіка падлеткаў часта не вытрымлівае сутыкнення з негатыўнымі бакамі жыцця. Якія прычыны, напрыклад, прымусілі вучня Бабініцкай школы Віцебскага раёна Сашу К. знікнуць з дому — невядома. А праз месяц у лесе знайшлі яго труп з развітальным пісьмом да маці. Дарэчы, выпадкі самазабойстваў, ці, як кажуць крыміналісты, суіцыду, увогуле нярэдкія сярод падлеткаў, псіхіка якіх паслаблена альбо атрымала стрэсавае ўздзеянне. Ужо ў час напісання гэтага артыкула ўспомнілася, што двое аднакласнікаў — дзяўчына С. і хлопец Б. — таксама неспадзявана пайшлі з жыцця. Дзяўчына палічыла сябе непрыгожай і атруцілася, а хлопец, быццам з-за таго, што маці не купіла яму касцюм, павесіўся на клёне каля сваіх вокнаў. Клён гэты і зараз, здаецца, стаіць на вуліцы.

Бадзяжніцтва, бадай, дае самую важкую статыстыку знікнення людзей. Што і казаць, самы просты спосаб вырашыць усе праблемы. Сабраўся, сеў у цягнік і — пачалося новае жыццё.

...У кабінеце старшага оперупаўнаважанага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Мінгарвыканкома Аляксандра Палзунова даволі цесна. Цесната дасягае пагражальных памераў, калі дзверы адчыняюцца і ў кабінет нясмела ўваходзіць жанчына ў гадах, а за ёй і дзяўчына — апошняя трымаецца больш незалежна. «Менавіта яе,— расказвае Аляксандр,— суткі таму знайшлі ў адным з прытонаў Мінска. Яна прапала з дому 25 лістапада 1989 года, а адшукалася 22 студзеня 1990 года».

Наталлі В., камсамолцы (!) (дзяўчына пераканаўча папрасіла не называць яе прозвішча ў друку), каля дзевятнаццаці. Калісьці кінула школу, паступіла ў вячэрнюю, працавала, але доўга не вытрымала — пазбавілася працы і вучобы. Пайшла, як кажуць, упрочкі і не з'яўлялася дамоў аж трое сутак. А потым аднойчы ўвогуле знікла.

Расла Наталля быццам у нармальнай сям'і. Маці працуе ў Аэрапорце-2, бацька — на заробках у Ніжнявартаўску, брат вучыцца ў вучылішчы. У сям'і — трохпакаёвая кватэра.

Оперупаўнаважаны Аляксандр Палзуноў, малады з энергічным тварам мужчына ў цывільным, не хавае свайго раздражнення.

— Яшчэ крыху, і ўсесаюзны пошук давялося б аб'яўляць,— злуе ён.

Віноўніца перапалоху быццам не рэагуе, зацята маўчыць, але да гутаркі прыслухоўваецца насцярожана. Гэта звычайна апранутая дзяўчына, са звычайным тварам, толькі ў кутках рота прыхаваная ўпартая ўсмешка.

— Як знайшлі ўцякачку?

— Асаблівага сакрэту няма,— гаворыць оперупаўнаважаны.— Раздалі фотаздымкі таксістам. Адзін з іх і паведаміў, што падвозіў яе з нейкімі хлопцамі.

Цікаўлюся ў Наталлі, чаму яна пайшла з дому.

— Пасварылася і пайшла.

— Пасварылася, бачыце! — не вытрымлівае і ўзрываецца гаспадар кабінета.— А ты ведаеш, чым гэта ўсё магло скончыцца? Вось паглядзі, пацікаўся! — ён дастае важкі альбом і прапануе:— Паглядзіце і вы.

Ад выгляду знявечаных трупаў становіцца вусцішна.

Псіхіятры сцвярджаюць, што чалавек у сваім жыцці перажывае некалькі часовых перыядаў псіхіятрычнай «аслабленасці». Першы раз — у тры-чатыры гады. У гэтым узросце дзіця, да слова, не варта ні ў якім разе біць, крыўдзіць, пакідаць аднаго. Нават у дзіцячых садах зафіксаваны выпадкі самазабойстваў. У гэтым узросце дзецям яшчэ ўласціва вера ў бессмяротнасць, што тоіць і небяспеку, бо дзіця, якое налажыла на сябе рукі, верыць, што паляжыць крыху ў труне, а потым устане са словамі «я пажартаваў!» і дакажа ўсім, як дарэмна яго крыўдзілі.

Другі крытычны перыяд — дзесяць-дванаццаць год. У падлетка з'яўляюцца комплекс неабароненасці перад светам дарослых, першы страх перад смерцю. Менавіта ў такім узросце ў яго часты дэпрэсіўны стан і ён схільны да ўцёкаў. І галоўны крытычны

ўзрост — пятнаццаць-семнаццаць гадоў. Падлетак шукае сябе, хоча зацвердзіцца і, як правіла, уступае ў канфліктныя сітуацыі, сутыкаецца з самымі рознымі людзьмі. Але ж «...з ростам колькасці кантактаў памяншаецца іх сардэчнасць»,— сцвярджае Рольф Эдберг, шведскі пісьменнік і вучоны, адзін з буйнейшых сусветных спецыялістаў па праблемах глабальнага выжывання.

Не спрыяе псіхалагічнай устойлівасці дзяцей і радыеактыўная забруджанасць у рэспубліцы, паслабленне імунітэту нервовай сістэмы ад уздзеяння радыенуклідаў і нітратаў.

У студзені мінулага года васьмікласніца з Талачына Алена Р. пайшла з дому. Бадзялася каля года па гарадах, была затрымана міліцыяй на вакзале ў Оршы.

15-гадовая Сняжана П. з Віцебска знікла аднойчы з дому. Усхваляваная маці (яна працавала настаўніцай) пасяшалася ў міліцыю. У пошук уключыліся радыё, тэлебачанне. Пасля гэтага з адной суседняй вёскі паведамілі: прыязджайце, падобная дзяўчына жыве ў іх. Высветлілася, што Сняжана знайшла сабе «сябра» армянскай нацыянальнасці, пайшла з дому, пажыла з ім колькі часу, але потым ёй спадабаўся іншы «сябар», ужо свой, беларускі хлопец, які велікадушна завёз яе ў родную вёску.

У Мінскі дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік летась трапіла каля 700 непаўналетніх. Шэсцьдзесят працэнтаў з іх—уцекачы. Ёсць і трохгадовыя. Што чакае тут дзяцей, можна ўявіць, бо начуюць у прыёмніку і зладзеі, і гвалтаўнікі, і сексуальныя маньякі. Збіць, згвалціць — з'явы нярэдкія. Прыводзяць іх сюды з вакзалаў, рынкаў, падвалаў, гарышчаў. Амаль палавіна — з Мінска і Мінскай вобласці.

Некалькіх уцекачоў, малалетніх хлопчыкаў з Мінска, знайшлі пасля працяглых пошукаў аж... у Польшчы. Колькі часу таму яны на таварным цягніку перасеклі мяжу. Нейкі прадпрымальны мясцовы кааператар узяў іх да сябе на працу і — маўчаў: справа ж выгадная, толькі што збольшага карміў вандроўнікаў.

Але не ўсе гісторыі заканчваюцца так бясклапотна.

Памятаеце пра альбом?

Каля сарака дзяцей лічыліся прапаўшымі ў рэспубліцы на працягу мінулага года. Дзіму Бандарца і Дзіму Пташынскага з Мінска (прапаў у Светлагорску), Аксану Кісель са Століна і Сяргея Анішчука з Брэста (узрост ад 7 да 12 гадоў) шукаюць і дагэтуль. Іх прозвішчы, фатаграфіі і кароткія радкі пра тое, як і калі яны прапалі, змешчаны зараз у вельмі сумнай кніжцы для службовага карыстання, якую чытаюць супрацоўнікі міліцыі,— інфармацыйным бюлетэні па пошуку прапаўшых без вестак.

У апошні час некаторыя супрацоўнікі праваахоўных органаў выказваюцца супраць адмены артыкула 121 Крымінальнага кодэкса, які карае за мужаложства. На іх думку, гэта адмена пакідае безабароннымі дзяцей і падлеткаў. Магчыма, яны маюць рацыю. У апошні час у нашым беларускім друку, на тэлебачанні кідаюцца ў іншую крайнасць: дадзім, маўляў, свабоду гомасексуалістам, а там і лесбіянкам заадно. Унь якія яны бедныя, прыгнечаныя законам. Але ж ці так гэта? Па словах супрацоўніка Маскоўскага крымінальнага вышуку В. Качанава («АіФ» № 9), «гомасексуалісты разбэшчваюць дзяцей, непапраўча траўміруюць іх псіхіку. У гэтым самая вялікая небяспека». Сапраўды, варта ўспомніць нашы працоўна-папраўчыя калоніі з іх «апушчанымі», ці на жаргоне — «петухамі», «казламі» і г. д. І пасля вызвалення яны ж зноў бяруцца за сваё, тым больш што спачуваючых столькі. Адну згвалцяць, іншага «апятушаць», а ў газетах крык: «Не чапайце «блакітных»! І на волі ў часы застою і зараз гомасексуалісты і педафілы адчуваюць сябе няблага ў сэнсе беспакаранасці.

Вось, напрыклад, некалькі гадоў таму ў Барысаве быў асуджаны маньяк-гомасексуаліст, які згвалціў малалетняга хлопчыка і потым зарэзаў яго ў школьным туалеце. Колькі падобных гісторый. Колькі самазабойстваў на гэтай глебе. Думаю, трэба заўсёды памятаць салжаніцынскае «блатныя — не людзі». Гвалт над безабаронным дзіцём, магчыма, адно з самых цяжкіх і страшных злачынстваў, якія нельга дараваць.

«Уся наша шчаслівая будучыня,— заўважыў некалі Ф. Дастаеўскі,— не варта і адной слязы бязвіннага дзіцяці». А колькі такіх слёз праліта, і не толькі слёз! Мільёны дзяцей пасля рэвалюцыі, калектывізацыі сталі ў краіне беспрытульнікамі і бадзягамі. А вайна? У апошнія гады беспрытульныя дзеці з'явіліся зноў, праўда, пакуль у невялікай колькасці, але што з таго?

Рольф Эдберг у сваёй кнізе «Лісты да Калумба» прыводзіць характэрны прыклад з невялікім афрыканскім племем ік. Пасля таго, як племя сагналі з яго тэрыторыі, у ім пачаліся працэсы распаду. Жанчыны кідалі сваіх дзяцей на волю лёсу, а маладыя ад-



бíралі ў старых іх мізэрную ежу. Смяяліся ік толькі тады, калі хто-небудзь з іх... «падаў у вогнішча».

Скажам сабе горкую праўду: рысы падобнага распаду назіраюцца ў нашай краіне, а значыць, і ў нашай рэспубліцы.

Неабвержна даказана, што дзяцей выкрадаюць і маньякі-злачынцы. З якой мэтай? Магчымы сексуальныя матывы, магчымы і іншыя. Крызіс, які перажывае зараз і наша праваахоўная сфера, ім толькі спрыяе. Калектыўныя скаргі звар'яцелых ад гора бацькоў у апошні час прывялі ўрэшце да таго, што ўсе справы па знікненню дзяцей былі зведзены ў адну вытворчасць, і толькі тады ім было нададзена «выключнае» значэнне. Але зрухаў мала, нават ніякіх. І ніякіх улік, ніякай зачэпкі. Толькі нешматлікія сведкі часам скупа расказваюць, як невядомыя злачынцы імкнуліся заманіць і выкрасці дзіцё.

Каб адшукаць прапаўшых, бацькі наймаюць нават экстрасенсаў, але занадта многа часу праходзіць пасля выкрадання і тыя, вядома, не могуць ім дапамагчы.

У пачатку дваццатых гадоў Фелікс Дзяржынскі ўзяў разам са сваімі супрацоўнікамі, так бы мовіць, эфектыўнае шэфства над беспрытульнымі дзецьмі. У якой ступені гэта міф, а ў якой праўда — няхай будзе на сумленні нашых летапісцаў гісторыі. Тым не менш, чаму зараз такой магутнай арганізацыі, як КДБ, не аднавіць традыцыі ды не падключыцца да абароны дзяцей, да пошуку злачынцаў, якія палюючь дзесьці за сваімі ахвярамі? Чым не ганаровая задача? Тым больш, што ў органах дзяржбяспекі і самыя таленавітыя аператыўнікі і, магчыма, самая сучасная тэхніка. Праявілі ж яны сябе з самага выдатнага боку ў барацьбе з буйным рэкетам і мафіяй. А мо нашым органам усё засланілі нефармалы? Але ж нефармалы дзяцей не крадуць.

У аддзяленні па пошуку прапаўшых без вестак рашуча сцвярджаюць, што выпадкаў так званага кіднэпінгу — крадзяжу дзяцей з мэтай выкупу — у рэспубліцы няма. З'явілася аднойчы падазрэнне: прапаў на вакзале ў Гомелі хлопчык. Але знайшлі яго ў той жа дзень у... Жытоміры ў суправаджэнні... цыганоў. А чатырнаццацігадовую Н., якая пайшла з цыганамі, знайшлі аж праз год. «Дарэчы, няхай вас не здзіўляе,— адзначыў супрацоўнік аддзялення Віталь Судзілоўскі,— чаму сярод цыганоў трапляюцца іншы раз і русавалосыя і светлавокія...»

Тым не менш, хаця кіднэпінгу ў рэспубліцы пакуль не адзначалася, трэба быць напагатове, бо, напрыклад, адно толькі павелічэнне колькасці даходаў кааператараў будзе непазбежна павялічваць апетыты злачынцаў. Руская прэса паведамляла ўжо аб жудасных выпадках. Так, у дырэктара аднаго маскоўскага пладова-агароднiннага прадпрыемства ўкралі сына і запатрабавалі за яго галаву... 60 тысяч рублёў. З цяжкасцю той сабраў 57 тысяч, але «...галава хлопчыка была абвязана акрываўленымі бінтамі», а ў запісцы паведамлялася, што... «вушы адрэзалі за кошт нявыплачаных трох тысяч».

Дзеці часцей за ўсё становяцца і ахвярамі няшчасных выпадкаў: знікаюць у вадаёмах, каналізацыі, у розных кар'ерах і рэштках недаробак будаўнікоў.

— Брэсцкі хлопчык Сяргей Анішчук, якога дасюль не могуць знайсці, — лічыць супрацоўнік спецаддзела Віталь Судзілоўскі,— гуляў каля дома. А побач вялікі катлаван. Дзеці часта з'язджалі па пяску ўніз. Магчыма, яго засыпала. Тым не менш, гэта толькі адна з версій. Побач цячэ Мухавец, але і там нічога не знайшлі.

Многіх уразіў выпадак у Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці, дзе знік сямігадовы хлопчык. Маці была на рабоце, айчым — у бальніцы. Ужо раніцай пошукавая група прыбыла на месца. Неўзабаве знайшлі закінуты паграб, запоўнены вадой, а ў ім хлопчыка, які праваліўся туды і захлынуўся.

Да слова, толькі вялікае абурэнне выклікаюць паведамленні ў друку аб колькасці дзяцей, якія згарэлі на пажарах. І гэта ў краіне, якая абвясціла, што дзеці ў ёй — адзіны прывілеяваны клас...

Створанае пры ўпраўленні крымінальнага вышуку МУС Беларусі аддзяленне па пошуку знікнуўшых людзей, а таксама злачынцаў у апошні час падзяліла свае функцыі. Адны з супрацоўнікаў шукаюць злачынцаў, другія — прапаўшых без вестак. Кіруе аддзяленнем падпалкоўнік міліцыі Сямён Хінкевіч.

Як і ўсялякая наша службовая адзінка, аддзяленне мае свае праблемы. Хоць у зарплаце ў апошні час прыбавілася, яна невялікая. А тое, што пошукам займаюцца толькі двое, трое? А па 200—250 сутак у год у камандзіроўках, у адрыве ад сям'і — ці ж гэта лёгка? Трэба ж, між іншым, спецыяльная тэхніка, камп'ютэры, машыны, падрыхтаваныя сабакі, трэба падрыхтаваная група людзей.

Цяпер, калі рэспубліка ўступае ў новую для сябе складаную гістарычную сітуацыю,

у ходзе якой, як і заўсёды ў самы цяжкі для людзей час, актывізуюцца крымінагенныя элементы і калі аддзяленню, аб якім гаварылася вышэй, магчыма (хаця і не дай бог), давядзецца працаваць з максімальнай нагрузкай — трэба быць напагатове ўсім сумленным сілам грамадства, бо адны праваахоўныя органы, бадай, не здолеюць даць рады злачынцам.

Пэўна, ужо зараз мэтазгодна ствараць добраахвотныя атрады самадапамогі на выпадак экстрэмальных сітуацый. Члены тых атрадаў змогуць быць памочнікамі міліцыі ў барацьбе менавіта з крымінальнікамі і карумпіраванай мафіяй, а таксама «залётнымі» злачынцамі, якім даюць адпор у іншых, у прыватнасці балцкіх, рэспубліках і якія па звычцы накідваюцца на слабейшага. А хто слабейшы ў гэтым сэнсе — няцяжка здагадацца. У нас жа галоўны вораг па-ранейшаму так званыя нефармалы.

Нядаўна я зноў зайшоў на Урыцкага, 5. На месцы быў Віталь Судзілоўскі, а насупраць сядзеў і Аляксандр Палзуноў, які зайшоў, як растлумачыў, па справе.

Мы павіталіся, і я папрасіў расказаць апошнія навіны.

— Знайшлі яшчэ два трупы. Абодва немагчыма ідэнтыфікаваць,— уздыхнуў Аляксандр.— Адзін быў закапаны на дачы, другі ў склепе.

— А чацвёра дзяцей, якія прапалі?

Віталь Судзілоўскі развёў рукамі.

— Шукаем.

Ужо калі адыходзіў, пацікавіўся між іншым у Аляксандра, ці ўладкавалася на работу ўцякачка Наталля В.

— Пакуль не,— сказаў той.— Не да таго ёй, бо ніяк не можа вылечыцца пасля сваёй вандроўкі. У другі раз паклалі ў стацыянар скурвендыспансера.

Вось такія справы.

Юры СТАНКЕВІЧ

*Родная мова*

# «Каб любіць Беларусь нашу мілую...»

Нарэшце!

Такі ўздых палёгкі вырваўся, мабыць, з грудзей не адной тысячы грамадзян Беларусі, якія 26 студзеня глядзелі трансляцыю сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе быў прыняты закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Гэтаму без перабольшання гістарычнаму і вызначальнаму для лёсу нацыі рашэнню папярэднічала больш чым двухгадовая дыскусія ў друку, на радыё і тэлебачанні, на працы і дома. На такі ўсплёск патрыятычнай свядомасці, бадай, мала хто і спадзяваўся. Бо зусім нядаўна дружныя касякі драпежных тэарэтыкаў і практыкаў поўнага зліцця народаў і іх культур нападалі на любога, каму ўдавалася падаць свой голас супраць асноўнай «заваёвы» сацыялізму. Складвалася ўражанне, што з гэтым амаль усе змірыліся і прыціхлі. Але вецер перамен раскатурхаў сонных, абудзіў надзею ў зняверaных, даў права сказаць сваё слова няскораным...

Дыскусія выявіла, што лёс мовы, а значыць, і лёс народа хвалюе не толькі, як гэта дасюль лічылася, пісьменнікаў ды некаторых іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, а самыя шырокія пласты грамадства: рабочых і сялян, інжынераў і вайскоўцаў, медыкаў і настаўнікаў, ветэранаў і школьнікаў. Менавіта дзякуючы іх разбуджаным галасам і былі створаны перадумовы для распрацоўкі і прыняцця закона, які гарантуе карэннай нацыі на тэрыторыі Беларускай ССР правы для забеспячэння паўнакроўнага і годнага развіцця яе мовы. Разам з гэтым даюцца гарантаваныя правы і нацыянальным меншасцям, культура якіх таксама аказалася ў заняпадзе.

Закон прыняты! Прыняты абсалютнай большасцю галасоў. Але праблемы, якія трывожылі грамадства, засталіся. З'явіліся рэальныя шансы для іх пераадолення, хоць наперадзе нялёгкі і няпросты шлях. Для паспяховага ажыццяўлення, як мне здаецца, важна забяспечыць два моманты: рэсурсы і псіхалагічную, маральную атмасферу, у якой павінна адбывацца духоўнае адраджэнне народа. Менавіта спалучэнне гэтых двух фактараў і забяспечыла плённае правядзенне беларусізацыі ў 20-я гады, з 1923 па 1928 год, у выніку чаго дзяржаўны і партыйны, камсамольскі і партыйны апарат, адукацыя і абслугоўванне, а таксама тэрытарыяльныя вайсковыя фарміраванні перайшлі на беларускую мову. Але, мяркую, часамі адбывалася гэта фармальна, без глыбокага засвойвання духоўных традыцый роднага народа, яго гістарычнага шляху, без павышэння агульнага культурнага ўзроўню, што і з'явілася адной з прычын даволі хуткага задушэння ў наступныя дзесяцігоддзі ўсяго беларускага, нацыянальнага. І сёння адраджаць яго, не дбаючы пра агульны культурны ўзровень, не арыентуючыся на дасягнутае іншымі народамі, у першую чаргу еўрапейскімі, справа даволі нецікавая і ў канечным выніку бесперспектыўная. Але ў першую чаргу трэба вывучыць тое, што мы мелі ў сваёй багатай гісторыі і даўно забыліся, што яшчэ датрывала як духоўны, маральны вопыт народа. А дзе наша прававаая, філасофская, кніжная культура і адукацыя, на якую так багата было, скажам, Вялікае княства Літоўскае?..

Тут мы змяшчаем лісты беларусаў, якія па розных прычынах апынуліся за межамі роднага краю, але не страцілі духоўнай повязі з ім. Як даведаецца чытач, гэтыя галасы здалёку ў абарону роднай мовы, культуры, гістарычнай памяці маглі б з'явіцца на старонках друку і значна раней. Але дармо: тое, пра што нашы карэспандэнты пішуць, працягвае існаваць, а значыць, не можа само сабой знікнуць. Часамі ж тое, з чым мы звыкліся, адтуль, здалёку, убачанае з асяроддзя іншага народа, успрымаецца вастрэй і трывожней. А таму да іх галасоў варта прыслухацца. Сёння, калі мы

маем закон аб дзяржаўнасці роднай мовы, нялішне будзе сказаць шчырае слова ўдзячнасці ўсім, хто актыўна спрыяў гэтаму, незалежна нават ад таго, стаў ці не яго голас набыткам грамадскасці...

У загаловак нашай публікацыі пастаўлены радок папулярнай на Беларусі і за яе межамі песні. На яе спасылаецца і адзін з нашых карэспандэнтаў:

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць...

Прыведзеныя радкі, зразумела, не трэба ўспрымаць літаральна ў якасці універсальнай парады кожнаму, хто пажадае стаць шчырым патрыётам свайго краю, вырушваць у вандроўку і ўдалечыні ад Беларусі распальваць у сэрцы шчырае замілаванне да яе. Такое разуменне песні можа выклікаць толькі ўсмешку. А між тым і некаторыя сур'ёзныя паэты і крытыкі ў свой час, калі песня толькі загучала ў эфіры, на поўным сур'ёзе даказвалі памылковасць радкоў Алеся Ставера, забываючыся пры гэтым, што паэзія — не інструкцыя, народжаная ў чэраве камандна-адміністрацыйнай сістэмы, а споведзь сэрца. І тут аўтар песні намацаў, а кампазітар мелодыяй узмацніў і пацвердзіў тое шчымлівае, кранальнае, што абуджаецца ў душы кожнага не сапсутага, не вымаражанага чалавека і ад ростані, і ад сустрэчы са сваёй Бацькаўшчынай, той зямлёй, на якой здаўна жылі твае дзяды і прадзеды.

Што датычыць Беларусі апошніх дзесяцігоддзяў, то, як вядома, яна была амаль цалкам здэнацыяналізавана, і тут рабілася ўсё, каб чалавек, пачынаючы ад першых крокаў свайго грамадзянскага станаўлення, не ведаў, у чым заключаецца яго нацыянальная прыналежнасць, які шлях праз вякі прайшоў яго родны народ, не задумваўся, чаму ў суверэннай рэспубліцы, якая з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, нідзе афіцыйна не гучыць родная мова, а тых, хто ёю яшчэ прыватна паслугоўваецца, называюць нацыяналістамі. Такая палітыка заахвочвалася зверху, Беларусь у гэтым плане лічылася перадавой і ўзорнай, годнай ушанавання і пераймання такога вопыту. На цэлы свет вядомы крылатыя словы шаноўнага Мікіты Сяргеевіча, сказаныя на прыступках Беларускага дзяржаўнага універсітэта наконт таго, што беларусы першыя ўступяць у камунізм, бо яны найбольш ахвотна адракаюцца ад роднай мовы...

Вось у такой сітуацыі, калі людзі жылі ў духоўнай адлучанасці ад сваіх нацыянальных каранёў, калі сама сутнасць патрыятызму ганьбавалася і шальмавалася, і ў людзей пачало складвацца перавернутае з ног на галаву ўяўленне пра сваю Радзіму, яе духоўныя вартасці, свой грамадзянскі абавязак перад народам і часам — у такой сітуацыі, як гэта ні парадаксальна, каб захаваць сваю сутнасць, лепш было з'ехаць з Беларусі, каб там, сярод іншага народу, які шанаваў сваё імя, задумацца: а хто ты сам і чаму цябе, найчасцей прыкрываючыся высакароднымі мэтамі, абкрадвалі на працягу дзесяцігоддзяў, а калі глядзець у глыбіню гісторыі, дык і стагоддзяў? Але пра гэта, спадзяюся, усім добра вядомыя словы славутай Багдановічавай «Пагоні»...

У жыцці кожнай краіны і яе грамадзян велізарную сілу маюць традыцыі, разбурыць якія звычайна бывае нашмат лягчэй, чым аднавіць. Таму высокаразвітыя ў духоўным і матэрыяльным сэнсе нацыі, як, скажам, японская ці англійская, з педантычнай ашчаднасцю захоўваюць усё, што складалася ў народзе на працягу стагоддзяў. У нас жа адбылося інакш: рэвалюцыя была ўспрынята многімі яе апантанымі ўвасабляльнікамі як суцэльнае рушэнне ўсяго старога, якое нібыта толькі засціць велічнае святло камунізму і замінае будаваць новы лад жыцця. І таму з велізарным імпэтам, а з канца 20-х гадоў і пад страхам масавага тэрору ўзяліся ў краіне разбураць усё, на чым стаяла пячатка гістарычнага мінулага. Узрывалі не толькі панскія палацы, касцёлы і цэрквы, але і патрыятычную свядомасць, традыцыі, мову, звычаі. Калі і заставалася што ад гэтага, дык толькі фармальна, у знешняй абалонцы, якую было лёгка раструшчыць, як гэта і было зроблена з нашай мовай у наступныя дзесяцігоддзі. Цяпер, як вядома, ёсць пэўныя спробы і захады па аднаўленню знішчанага, але вельмі нясмелыя, кволыя і непаслядоўныя. Мінула пяць гадоў перабудовы, а што зроблена на Беларусі ў кірунку аднаўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі? У гарадах, пераважна ў Мінску, адкрыта некалькі дзесяткаў беларускіх класаў, пачалі чытацца, пераважна на філфаках, па-беларуску некалькі гуманітарных



дысцыплін, аб'яўляць, паралельна з рускай, прыпынкі метро на беларускай мове, ды ў дадатак яшчэ ў некалькіх аўтобусах і тралейбусах гарадскога транспарту, сям-там памянялі шыльды... І гэта ўсё? Ды такая перабудова, такія тэмпы смеху варты! Звернемся да гадоў дваццатых і ўбачым, што за пяць гадоў, пачынаючы з 1923, беларусізацыя, па сутнасці, была праведзена ва ўсіх сферах жыцця, на роднай мове працаваў суд, партыйны і дзяржаўны апарат, сярэдняя і вышэйшая школа, установы бытавога абслугоўвання і культуры...

Ды не будзем занадта паддавацца адчаю. Няхай пакуль што зроблена мала, але зломлена ідэалогія манкуртызму, раней узведзеная ў ранг дзяржаўнай палітыкі. На таго, хто сёння займаецца самаапляўваннем, бэсціць родную мову і культуру,— на такіх ужо глядзяць, як на выкапняў.

Працэс агульнага для ўсіх народаў Савецкага Саюза нацыянальнага абуджэння, які, на жаль, часамі адбываецца і з прыкрымі перакосамі, паўплываў і на беларусаў, як на тых, што засталіся жыць на зямлі продкаў, так і за яе межамі. Паказчыкам гэтага з'явілася і стварэнне беларускіх зямляцтваў, суполак і таварыстваў у такіх мясцінах Саюза, як Масква і наваколле, Вільнюс, Рыга, Талін, Сібір...

Пра сваю далучанасць да Беларусі, да яе культуры і мовы пішуць нам карэспандэнты з усіх куткоў неабсяжнай Айчыны.

Геаграфія допісаў шырокая, цікавыя біяграфіі людзей, што па розных прычынах апынуліся за межамі Беларусі. Адны з іх пакінулі свой край часова, выехаўшы на вучобу ці адбыццё вайсковай службы, іншыя ж удалечыні ад родных мясцін пражылі большую частку свайго жыцця. Менавіта яны і складаюць актыў.

Апынуўшыся ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, адчуўшы тугу па краі белых буслоў і блакітных азёраў, людзі неяк па-новаму глядзяць на сябе, на свой абавязак перад Радзімай. Бачачы, як прадстаўнікі іншых народаў любяць і шануюць свае духоўныя набыткі, і ў нашых беларусаў пачынае спакваля праклёўвацца ў душы сорам за сябе, за сваё няведанне. Паступова чалавек прыходзіць да ўсведамлення, што ён — не бязродная істота, а сын свайго роду-племені, свайго народу. І нараджаецца высакароднае жаданне — тут, удалечыні ад дому, дабраць тое, чаго яму недадалі, што ад яго забралі ці чаго ён сам не захацеў атрымаць на роднай зямлі. Аддаляючыся ў прасторы, людзі духоўна набліжаюцца да сваёй Бацькаўшчыны.

Вось па такой кладачцы пайшлі на свой бераг тры беларускія дзяўчыны (Таня, Анжэла і Жанна), якія пасля заканчэння вучылішча апынуліся ў заходніх абласцях Украіны. Менавіта тут, дзе ўкраінская мова ацалела ў сваёй першароднасці і багацці і гучыць на поўную сілу не толькі ў горадзе, абудзілася ў іх цяга да свайго, роднага. Хочацца верыць, што агеньчык любові да слязы дарагога і блізкага, які зацепліўся ў іх чыстых юначых душах, не згасне, а будзе разгарацца ярчэй і ярчэй.

Ды ці павінна сваё быць перашкодай на шляху да спасціжэння створанага іншым народам? Пытанне рытарычнае. Таму апраўданні дзяўчат — «мы і сваёй мовы не ведаем, каб вучыць іншую» — гучаць досыць наіўна, бо ні ўкраінцы, ні прадстаўнікі іншых народаў не вінаваты ў тым, што мы паддаліся націску і сталі духоўнымі жабракамі. Дык чаму ж нашае невуцтва павінна адбівацца на развіцці іхняй культуры, на статусе той ці іншай мовы ў сваёй рэспубліцы. Як бачым, няведанне свайго не толькі не спрыяе далучэнню да скарбаў іншай культуры, а наадварот, перашкаджае гэтаму. І нашым дзяўчатам куды б лягчэй было паразумецца з украінцамі, каб яны дасканала ведалі сваю родную мову, якая мае столькі агульнага з украінскай. Зрэшты, ёсць агульнае для ўсяго цывілізаванага свету правіла: паважай і ведай здабыткі народа, сярод якога жывеш. Да спасціжэння гэтага правіла праз уласны вопыт прыйшоў Алег Кавалёнак, некаторыя іншыя карэспандэнты.

У нечым падобны, як у дзяўчат, шлях да роднага ў курсанта Кемераўскага ваеннага вучылішча Чарнова С. С., у якога патрыятычнае пачуццё да Беларусі абудзілася пад час ростані з ёй. Аднак перад намі, як сведчыць ліст, па-грамадзянску ўжо сталы чалавек, які не толькі прызнаецца ў любові да Радзімы, але і разумее прычыны многіх негатыўных з'яў, выказвае шмат слушных прапаноў, як можна вярнуць нашай мове, нашай культуры годнае становішча.

Пэўна, нялёгка было ашчадзіць у сваёй душы парасткі роднай мовы Дзмітрыю Дайлюдзёнку, які, будучы ў чацвёртым класе, пераехаў з бацькамі ў Кузбас і вось ужо дванаццаць гадоў жыве там. «У новай школе,— піша ён пра сябе,— мне скідку не

рабілі, атрымліваў двойкі па рускай мове. Маці мяне лаяла, нават кніжкі на беларускай мове схавала, каб не адхіляўся на непатрэбнае».

Але, як бачым, і ў такіх умовах чалавек здолеў захаваць тое, чым даражыў. «Пабеларуску чытаю свабодна! Размаўляю, напэўна, таксама (звярніце, шаноўныя чытачы, увагу на такую асаблівасць: не маючы з кім перакінуцца словам на роднай мове, чалавек нават не ведае, валодае ёю ў размове ці не. Зрэшты, у падобным становішчы знаходзіўся калісь і Максім Багдановіч, свята шануючы ў думках і сэрцы вернасць сваім нацыянальным караням.— Я. Л.), толькі з междурэчанскім акцэнтам». Патлумачу, што Дзмітрый жыве ў Междурэчанску Кемераўскай вобласці.

Аказваецца, і ва ўмовах нацыянальнай ізаляцыі можна захаваць родную мову. А між тым сярод карэспандэнтаў нямала такіх, якія жывуць у Беларусі і ў сваіх лістах наракаюць на ўмовы, якія не дапамаглі ім ведаць сваё роднае, гневаюцца і абвінавачваюць, але самі мала рупяцца, каб вярнуць страчанае. Але ж нічога само сабою не даецца, а тут тым больш ніхто не разжуе і ў рот не пакладзе. Праца ж па далучэнню да родных каранёў — не марная, не Сізіфава — яна аплочваецца набыткам душы, тым, што чалавек ачалавечваецца і адухаўляецца...

Зрэшты, сваю этнічную прыналежнасць, сваю мову здолелі захаваць і тыя беларусы, якія, пачынаючы з даўніх часоў, апынаміся ў эміграцыі. На вялікі жаль, у нас няма лістоў з замежжа, хоць было б цікава прачытаць, як, скажам, жывучы ў ЗША і Канадзе, Англіі і Аўстраліі, Іспаніі і Бразіліі, іншых краінах свету, нашы землякі ўмудраліся не растварацца ў іншанацыянальных стыхіях і захоўваць сваё нацыянальнае аблічча. Як вядома, афіцыйнае навучанне на беларускай мове існуе толькі ў Польскай народнай рэспубліцы, дзе беларусаў некалькі соцень тысяч. І жывуць яны на сваёй спрадвечнай тэрыторыі. У іншых жа месцах, па звестках, існуюць для дзяцей беларускія школы пры цэрквах.

Але пра тое, што і ў межах Саюза беларусы не пагаджаюцца з роляй бязродных Іванаў, сведчаць дасланыя з'адусюль лісты, частку з якіх мы тут друкуем.

*Уважаемая редакция!*

*Пишут вам три белорусские девушки, которые вот уже почти три месяца находятся за пределами родной Белоруссии. Дело в том, что мы поступили учиться в г. Ровно и только здесь почувствовали, что значит родной язык, родная культура. Так что вы являетесь «свидетелями пробуждения интереса к своим историческим духовным истокам».*

*Оказывается, что очень мало нужно (а именно: расстояние), чтобы почувствовать белорусскую землю родной, белорусский язык своим, белорусскую культуру необходимой.*

*Живя на Украине, вернее, в западных ее областях, мы только здесь ясно поняли и ощутили, что мы белорусы. Когда вокруг люди говорят на украинском языке, поневоле вспомнишь, что у тебя есть свой родной язык и что, к сожалению, мы не владеем им свободно. Это обидно. И еще обидней, когда мы, говоря о ситуации языка и культуры в Белоруссии украинцам, слышим: «Нам вас жалко». Такая жалость унижает. Да, мы поумнели, вернее, нас заставили поумнеть обстоятельства, и мы покупаем словари белорусского языка, стараясь таким образом ликвидировать незнание языка и инерцию мышления. Это трудно, так как в свое время — детский садик, школа, жизнь,— мы не получали необходимых знаний по родному языку. И так хочется воскликнуть: «Мы не виноваты! Нас так учили!..» Но это легче всего. Поэтому мы сейчас интересуемся всем белорусским: культурой, песнями, языком, поэзией.*

*Часто мы встречаемся с мелочным проявлением национализма: «Если вы приехали учиться на Украину, то должны говорить только по-украински». Это неприятно слушать, тем более нам. Потому что мы и своего-то родного языка не знаем, не то чтобы учить другой. Поэтому мы считаем, что человек, безразличный к языку народа, на земле которого живет, не может быть настоящим интернационалистом. Просто наше счастье, что мы учимся на славянской земле и кое-как понимаем украинский. А если бы мы учились на территории Закавказья... Мы уважаем все народы без исключения, но позвольте нам сначала разобраться со своим языком. Мы любим свою Белоруссию и очень отчетливо поняли это сейчас. Наше настроение полностью передают строки из песни:*



Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць...

*P. S. Хочется добавить, что мы, как большинство молодых людей в республике, насмехались над теми людьми у себя на Родине, называя их «крестами», «плугами»...*

НАРЧИЛО Татьяна (17 лет), НАРЧИЛО Анжелика (17 лет), ЦЫНГЕЛЬ Жанна (17 лет)
**г. Ровно**



*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!*

*Маё імя і прозвішча — Алег Кавалёнак. Па-за межамі Беларусі жыву болей за 8-м гадоў.*

*Інтэрнацыяналізм, на маю думку, гэта шанаванне чалавекам традыцый, звычаяў, культуры, мовы іншых народаў. І зразумела, што асоба, якая жыве на тэрыторыі, дзе пражывае іншы народ, павінна з увагай і шанаваннем адносіцца да яго культуры, мовы і г. д.*

*Магу прывесці ўласны прыклад. Калі ў свой час я жыў у Эстоніі, то вывучаў эстонскую мову, і хаця поспехі былі не вялікія, але ў магазіне ці на вуліцы мне гэтага хапала, каб размаўляць з эстонцамі. І хаця яны па майму вымаўленню здагадваліся, што я не эстонец, але адносіны былі ўсё роўна зусім іншыя, чым да людзей, якія па-эстонску не размаўлялі. Таму я лічу, што, калі чалавек жыве, напрыклад, на тэрыторыі Эстоніі і не цікавіцца яе здабыткамі ў галіне культуры, моваі, ён не можа лічыцца сапраўдным інтэрнацыяналістам.*

*Я лічу, што, калі чалавек мае пэўную нацыянальнасць, ён абавязаны поўнасцю несці адказнасць за стан духоўнага развіцця гэтай нацыі. Ці, дакладней, павінен ведаць яе мову, звычаі, традыцыі, культуру і г. д.*

*Беларускую мову я ведаю, але, на жаль, не вельмі добра. Справа, напэўна, у тым, што бракавала беларускамоўнага асяроддзя. І зараз, калі нават пішу гэты ліст, не зусёды ўпэўнены ў правільнасці напісання ўсіх выразаў па-беларуску.*

*Дзеля выпраўлення гэтай крытычнай і нават у пэўнай ступені трагічнай моўнай сітуацыі ў рэспубліцы неабходна (я лічу) зрабіць наступнае:*

*Перавесці ўсе навучальныя ўстановы на беларускую мову выкладання, пачынаючы ад дзіцячых садкоў і заканчваючы ВНУ. Пашырыць падрыхтоўку выкладчыкаў беларускай мовы, пашырыць ужыванне роднай мовы на ўсе ўстановы, прадпрыемствы і г. д. Арганізаваць шматлікія курсы па яе вывучэнню.*

*Поўнасцю перагледзець курс гісторыі Беларусі. Усе сродкі масавай інфармацыі, асабліва радыё, тэлебачанне, перавесці поўнасцю на беларускую мову, 100 % усіх перадач. Перавесці абласныя газеты на беларускую мову. А то нават сорамна пісаць, як знаёмыя палякі кпілі з мяне. Маўляў, з часоў санацыйнай Польшчы і ў Брэсце, і ў Гародне выдаваліся газеты па-беларуску, а зараз дзе яны падзеліся?*

*Потым наладзіць сувязі з усімі беларусамі, якія жывуць на суседніх тэрыторыях з Беларуссю, так і ў ЗША, Канадзе і г. д.*

*Абмежаваць прыбыццё працоўнай сілы з іншых рэгіёнаў краіны, увесці рэспубліканскі гасразлік, выйсці на міжнародную арэну па наладжванню сувязей з рознымі краінамі.*

*І яшчэ невялічкая просьба. Апошнім часам Мінскае метро перайшло на беларускую мову. Іншыя сродкі транспарту: аўтобусы, тралейбусы, трамваі,— на жаль, яшчэ не. Але зусім нядаўна, знаходзячыся ў Мінску на чыгуначным вакзале, я пачуў, як абвяшчалі пасадку на цягнік Мінск — Масква спачатку па-беларуску, а потым парускy. Гэта добра, хаця ў Лідзе гэтая справа даўно ўжо вырашана.*

*Таксама трэба пашыраць сувязі з маладзёжнымі часопісамі Прыбалтыкі, Украіны, Польшчы, ГДР, ЧССР і г. д.*

*Вось і ўсё.*

*Жадаю творчых поспехаў!*

*З гарачым прывітаннем Алег з Валагодскай вобласці!*

*P. S. Калі пажадаеце напісаць ці што-небудзь паведаміць, вось мой адрас:*

**Вологодская обл., п/о Старое.**



*Здравствуйте, уважаемая редакция!*

*Зовут меня Чернов Станислав, по национальности я белорус. Практически всю свою жизнь до настоящего момента прожил в городе. Белорусскую речь слышал не так сказать уж часто, но и не редко: на ней говорит моя бабушка в деревне. Впервые осознанно, если можно так сказать, я его начал изучать в 3 классе. И хотя стремился как можно больше и глубже его изучать, однако условия жизни в городе дают о себе знать. Это — постоянная русская речь, белорусского языка практически слышно мало было. И результат всего этого — книги, журналы, газеты на белорусском языке читать не любил. Но вот в августе 1985 года поступил в военное училище и вот уже 4-й год нахожусь вдали от Белоруссии. И скажу честно, буквально через какие-то полгода соскучился (даже не то слово), истосковался по родному языку. Теперь стараюсь достать книги на белорусском (которые здесь в магазинах никогда не бывают), журналы и т. д. И вот удалось с января этого года подписаться на белорусские журналы и газеты. Теперь буду надеяться, что, несмотря на недостатки в работе почтовой связи, я буду получать их. Я выписал журналы на белорусском языке по многим причинам, в основном они были изложены выше. Я лично считаю, что каждый, будь то белорус или украинец, таджик или узбек, якут или литовец, должен в совершенстве владеть своим языком, знать свою родную культуру, историю своего народа, если же он ко всему этому безразличен, то не имеет права иметь национальность этого народа. В настоящее время в нашей республике русский язык, по-моему, настолько вытеснил родной белорусский, что даже старики стали его забывать. Даже я по старой привычке пишу письма на русском, хотя в последнее время стараюсь чаще писать по-белорусски, но все осложняет то, что рядом со мною всего 3 белоруса, литературы на белорусском практически достать невозможно и по ряду многих других причин. Сам же я белорусский язык знаю более или менее хорошо, однако считаю, что надо постоянно заниматься чтением на белорусском языке, чаще писать, вот тогда и будешь лучше его знать...*

*Чтобы нормализовать сложившуюся в нашей республике языковую ситуацию, чтобы люди не отрекались, а берегли свой родной язык, я считаю, необходимо провести следующие мероприятия:*

*1. Увеличить тираж художественной и научно-популярной литературы на белорусском языке.*

*2. Добиться того, чтобы белорусы, проживающие во всех республиках Советского Союза, могли читать литературу на своем языке.*

*3. Создать школы с обучением на белорусском языке.*

*4. Афиши, надписи на магазинах, вокзалах и т. д. оформлять на белорусском языке.*

*5. Шире пропагандировать историю Белоруссии, начиная с самых древних времен.*

*6. Добиться того, чтобы эстрадные певцы, музыканты, ВИА, рок-группы и т. д. исполняли свои произведения на белорусском языке. И чтобы их концерты можно было слушать не только на территории республики, но и на территории всего Советского Союза, а то вот, например, у нас здесь в Западной Сибири, а именно в Кузбассе, редко-редко когда услышишь выступления белорусских артистов. Ну вот пока на первом этапе, я так считаю, необходимо провести эти мероприятия, а дальше жизнь покажет, что нам еще нужно будет сделать, в чем необходима доработка. Причем особое усилие необходимо приложить в отношении детей — ведь они наше будущее, и в конечном итоге ведь им придется до конца доводить решение этой проблемы, которая, как я считаю, стала сейчас «острее бритвы».*

*До свидания!*

*С уважением — курсант Кемеровского ВОКУС Чернов.*



*Беларус. 30 гадоў жыву за межамі Беларусі.*

*Інтэрнацыяналізм — гэта паважанне другіх нацый. Каб паважаць тое, што годнае павагі, трэба ведаць іншую культуру.*

*Мову ведаю дрэнна — няма моўнай практыкі. А калі вучыўся ў школе, вывучэнне беларускай мовы было «нямодным», гэтую сітуацыю стварылі ў школе (рускай) і дзеці — «прадстаўнікі» «дзяржаўнай» рускай мовы, якія насміхаліся над нашым цвёрдым вымаўленнем (жартавалі: «Як дам мокрай трапкай па бруху!» — і рагаталі), казалі, што беларуская мова — гэта сапсаваная руская. Настаўніца рускай мовы зняважліва ўсміхалася, калі мы замест «через леса, через моря колдун несет богатыря» казалі «цераз леса, цераз мара, калдун нясёт багатыра». А нам так не хацелася выглядаць смешнымі... І вось сачыненне за 10 кл. па рускай мове і літаратуры — 5, уступнае сачыненне ў ВНУ — 5, а беларуская мова ў атэстаце — 3! І цяпер у мяне, немаладога чалавека, усё гэта выходзіць комплексам віны перад маімі продкамі і перад Бацькаўшчынай. Мо таму, што здалёк ад яе ўсё адчуваецца значна вастрэй? Але мне ад гэтага не лягчэй. Голас сумлення...*

*Моўную сітуацыю адарвана ад другіх праблем не паправіш, патрэбен комплексны падыход па ўсіх напрамках адраджэння беларускасці на айчыннай зямлі. А ў падвалінах усяго — ачышчэнне ад заразы сталінізму ўсюды. Трэба падтрымаць эстонскую ідэю гаспадарчага рахунку рэспублікі, дзяржаўнае справаводства весці на роднай мове. А потым і астатняе — фільмы на беларускай мове (дзе яны, з беларускай гісторыі?), грампліты з беларускай музыкай, сучаснай і старажытнай, партрэты і бюсты вялікіх і вядомых беларусаў, геаграфічныя мапы (карты) старажытнай Беларусі, і помнік бітве ля Крутагор'я з манголамі, і беларуская вышыўка на сучаснай сарочцы, і падрабязныя маршруты для самадзейнага турызму па Беларусі і г. д. Трэба, каб аўтарытэтныя людзі — пісьменнікі, артысты, спартсмены — падавалі прыклад, выступаючы па тэлебачанні ці радыё на беларускай мове. Як называюцца галоўныя вуліцы — Жданава, Калініна і мо другіх «выдатных» беларусаў, а дзе — Скарыны, Цяпінскага, Буднага, Лышчынскага і іншых? На задворках ці зусім няма?*

*Раз знявага да спадчыны — з'ява масавая, то корань зла трэба шукаць у аб'ектыўных умовах жыцця. Эканамічная незалежнасць рэспублікі павінна пацягнуць і другое: вызваленне з-пад апекі «вялікага брата».*

*Дык што я вам усё гэта пішу, вы ведаеце лепш за мяне.*

**г. Новасібірск**



*Добры дзень!*

*Доўгі час збіраўся напісаць, але ўсё адкладваў. Наконт мовы, на якой выпісваць часопіс, ваганняў не было: канечне ж, на сваёй роднай, беларускай. Беларускую мову люблю і паважаю, ахвотней чытаю і размаўляю на ёй. І хаця парадкам жыву ў горадзе і працэнтаў на 95 прыходзіцца размаўляць па-руску, любоў не толькі не памяншаецца, а нават узмацняецца. Але чаму 95 %? А таму, што і ў Рызе некаторая частка беларусаў не цураецца сваёй мовы. Пры патрэбе размаўляю па-латышску, часта па-польску, якую ведаю не горш рускай. Дома язык не павbooарочваецца, дый яй-богу мне сорамна размаўляць з бацькамі па-руску, з землякамі. Ніводнага ліста ім не напісаў па-руску. На роднай мове вядзём размовы па тэлефоне. Дык што ж, мяне за гэта трэба лічыць нацыяналістам?.. Лічу, што паступаю так, як патрабуецца кожнаму прадстаўніку сваёй нацыі. Акрамя пералічаных моў, не хвалячыся, скажу, што разумею і чытаю па-ўкраінску, чэшску, славацку, па-балгарску.*

*Да глыбіні душы абурае выраканне беларусамі сваёй мовы, культуры. Праўда, радуе, што ў апошні час пачалі адбывацца зрухі. Усе больш цікавяцца сваёй гісторыяй і мовай. Ёсць падставы лічыць, што мова наша зойме сваё пачэснае месца сярод моў свету.*

*Чалавек, які абыякава адносіцца да мовы, культуры, гісторыі рэспублікі, дзе ён жыве, увогуле не можа быць інтэрнацыяналістам. Наадварот, такога можна аднесці да нацыяналіста, а калі яшчэ як толькі можа і зневажае мову, насміхаецца над ёй, выстаўляючы сваю вышэйшым гатункам, у прыватнасці, часцей за ўсё гэта адносіцца да рускай мовы, то ўжо такога чалавека аднесці да шавініста трэба. Часцей за ўсё ў Беларусі прыходзіцца сутыкацца з рускімі шавіністамі, якія, акрамя сваёй мовы, больш нічога і ведаць не хочуць. Мову ведаю добра, бо не ведаць яе для мяне было б недаравальна.*

*Трэба зрабіць вельмі многае, пачынаючы амаль з нуля, асабліва ў гарадах. Першнаперш, каб беларускае друкаванае слова заняло пачэснае месца на вуліцах гарадоў і другіх населеных пунктаў, вітрынах магазінаў, вывесках, шыльдачках названняў вуліц, населеных пунктаў і г. д. Тавары народнага спажывання забяспечваць этыкеткамі і ўпакоўкамі на беларускай мове. Дайшлі да таго, што карабок запалак і то распі-*

*саны па-руску. Поўнасцю перавесці радыё і тэлебачанне на родную мову. Паступова ўводзіць выкладанне на беларускай мове ва ўсіх навучальных установах, выхаванне ў садках і яслях. Гвалтоўны пераход нічога не дасць, ды і немагчыма гэта зрабіць: вельмі слабая матэрыяльная база, дэфіцыт кадраў. І немалаважную ролю адыгрывае прыклад, асабісты прыклад работнікаў дзяржаўнага апарату, партыйных і камсамольскіх работнікаў. І ніякіх эксперыментаў наконт беларускамоўных класаў у школах. Адзін клас у школе выглядае белай воранай, таму так неахвотна аддаюць сваіх дзетак. У «ЛіМе» было надрукавана выказванне адной маці, што не аддасць сваё «чада» ў такі клас. Калі будзе ўся школа беларуская, то — калі ласка.*

*Прабачце за ліст, можа, і не вельмі складна, бо напісана на адным, як кажуць, дыханні.*

*З павагай ваш уважлівы чытач.*
**г. Рыга**



*Хмялеўскі Валеры. Беларус. 24 гады пражыў у Беларусі, 4 гады, як працую за яе межамі.*

*Пра такіх «інтэрнацыяналістаў» добра сказаў удзельнік адной з перадач Літоўскага тэлебачання, паказанай у верасні: «Мы, «нацыяналісты», ведаем дзве-тры мовы, а «інтэрнацыяналісты» валодаюць адной і не жадаюць ведаць другія. Дык хто ёсць хто?»*

*Беларускую мову ведаю недастаткова добра (гэта можна зразумець, прачытаўшы мой ліст). На гэта ёсць многа падстаў, і думаю, большая частка з іх аб'ектыўныя. І не толькі таму, што зараз жыву ў Літве. Беларусы ў Літве, як мне здаецца, з большай павагай адносяцца да сваёй мовы, чым у самой Беларусі, я неаднаразова чуў беларускую мову на вуліцах літоўскіх гарадоў. Дарэчы, і палякі тут гавораць па-польску, у Вільнюсе нават выходзіць газета на польскай мове. У Беларусі ж і палякі, і беларусы больш ужываюць рускую мову. Хутчэй за ўсё, гэта вынік шматгадовай палітыкі ўлад рэспублікі ў адносінах да роднай мовы.*

*Для нармалізацыі моўнай сітуацыі не трэба выдумваць нешта звышмудрае і арыгінальнае. Паглядзіце вакол сябе: Прыбалтыка, Заходняя Украіна, Закаўказзе, Сярэдняя Азія... У пераважнай большасці дзіцячых садоў, школ, у вышэйшых навучальных установах, на прадпрыемствах і вуліцах гучыць родная мова. Нам толькі трэба зрабіць тое, ад чаго нас доўгі час утрымлівалі, чаму перашкаджалі і што зрабілі ўсе другія народы.*

*Акрамя таго патрэбна папулярызацыя твораў нацыянальна свядомых пісьменнікаў і паэтаў, і ў першую чаргу У. Караткевіча. «Каласы пад сярпом тваім», на маю думку, неабходна ўключыць у школьную праграму. Падручнікі па гісторыі Беларусі, навучанне ў сярэдніх і вышэйшых установах, у дзіцячых садах і многае другое — усё гэта неадкладна патрабуе перамен. І чым больш мы будзем разважаць і сумнявацца, узважваць усе «за» і «супраць», тым больш цяжкім будзе вяртанне да сваёй мовы, бо калі доўгі час карыстацца чужым, яно пачынае здавацца «сваім». Руская мова з'яўляецца для нас братняй моваій, але ўсё ж такі не роднай!*

*Некаторыя людзі адмаўляюцца ад беларускай мовы па той прычыне, што яны — не беларусы, прыехалі з іншых рэспублік і таму ім і іх дзецям не патрэбна наша мова. У Літве і на Украіне мне даводзілася чуць такія словы: «Вы жывяце сярод нас, едзіце наш хлеб, будзьце добрымі, ведайце нашу мову і звычаі. Трэба паважаць людзей, сярод каторых жывеш». Магчыма, трохі рэзка, але справядліва сказана.*

*Як паветра, патрэбны новыя цікавыя, прыгожыя, каляровыя часопісы, кнігі для моладзі і дзяцей, пераклады на беларускую мову найбольш папулярных і дэфіцытных твораў літаратуры, фантастыкі, лепшых кінастужак. Вялікай папулярнасцю карыстаўся б часопіс аб рок-музыцы (беларускай, савецкай, замежнай).*

**г. Іонава Літоўскай ССР.**

**Яўген ЛЕЦКА**



*Старонкі гісторыі*

# ЗЛАТАВУСТ З ТУРАВА

Славуты папярэднік Францыска Скарыны XII стагоддзя выдатны дзеяч старажытнарускай культуры Кірыла Тураўскі будзе працягваць сваё жыццё помнікам на сваёй Радзіме — у Тураве.

У адпаведнасці з праграмай «Спадчына» ЦК КПБ прыняў пастанову аб збудаванні помніка К. Тураўскаму ў Тураве. Гэта вялікая падзея ў справе адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, вялікая даніна беларускага народа выдатнай постаці нашай нацыянальнай гісторыі.

Памяць зямлі тураўскай данесла да нас слаўнае імя выдатнага дзеяча нашай зямлі, а цяпер і зберажэ яго для наступных пакаленняў.

Нарадзіўся Кірыла Тураўскі каля 1130 г. У рукапісных «Прологах», а потым і ў друкаваных (XII—XVII стст.) аб Кірылу Тураўскім гаворыцца так: «Сей блаженный Кирилл рожден и воспитан в городе Турове. Сын богатых родителей, он не любил однако же богатства и тленной славы мира сего; но наче прилежал учению божественных книг и хорошо навык в божественных писаниях».

Творчая дзейнасць яго праходзіла ў той час, калі Тураўскае княства займала выключнае месца ў палітычным і эканамічным жыцці Старажытнай Русі.

Кірыла Тураўскі быў не толькі сведкам гістарычных падзей, працэсу далейшага развіцця новых феадальных адносін, узмацнення і распаўсюджання хрысціянства на Русі, але і сам актыўна ўдзельнічаў у гэтым працэсе.

Новая хрысціянская рэлігія разам з пашырэннем і ўзмацненнем феадальных адносін заваёўвае ўсё новыя і новыя пазіцыі носьбіта пануючай ідэалогіі, становіцца надзейным інструментам княскай улады. Язычніцкая рэлігія, узнікшая ў родавым ладзе, ужо не магла адпавядаць інтарэсам класавага грамадства, інтарэсам пануючай дзяржаўнай рэлігіі. Старая язычніцкая вера доўга яшчэ захоўвалася ў народзе, супраціўляючыся «чужой» веры, не зусім зразумелай простаму люду. Часта народ аддаваў перавагу старым язычніцкім абрадам: пакланяўся сваім ідалам, сваім продкам. У сваім «Слове на пятую неделю по пасх» Кірыла Тураўскі неаднаразова скардзіцца на дрэннае наведванне царквы, звяртаючыся да сваіх прыхаджан з мальбой «да приучать неприходящих, и увещайте а приходити в церькови».

У юнацкія гады Кірыла Тураўскі многа чытае і грэчаскую і візантыйскую літаратуру, сам піша пропаведзі, а затым прымае манаскі сан, каб поўнасцю прынесці сябе ў ахвяру служэння хрысціянству. У манастыры ён яшчэ больш паглыбляецца ў царкоўную літаратуру, пашырае свой кругагляд, замацоўвае свае ідэйныя пазіцыі. Безумоўна, ён ведаў аб падзвіжніках, якія жылі ў пячорах і вежах (стаўпах), прыносячы сябе ў ахвяру вышэйшай мэце — служэнню хрысціянскім ідэалам.

Праз некаторы час Кірыла Тураўскі пакідае манастыр і асуджае сябе на адзіноту ў стаўпе. З'ява ахвяравання на адзіноту ў стаўпе была незвычайнай для тагачаснага

Турава і, безумоўна, выклікала найжывейшы інтарэс да яго асобы ў гараджан. Напэўна ж, тураўцы хадзілі да яго, як кіяўляне хадзілі ў пячору Антонія ці да Сіміёна-стоўпніка, якія навучалі паломнікаў сваімі пропаведзямі. Аўтарытэт і слава такога выключнага падзвіжніка бязмежна ўзрастае і выклікае павагу ў князя і ў гараджан за яго апантанасць у служэнні хрысціянскай веры.

З «Пролога» пазнейшых выданняў аб Кірылу Тураўскім чытаем: «И славен бысть по всей стране той, умолённый от князя и людей града того, он возведен был на стол епископский и поставлен митрополитом града Турову, что близь Киева».

Цяпер кафедра сабора стала яго трыбунай для прапаганды новых ідэй, для барацьбы са старой язычніцкай верай. Старым абрадам, старым «игрищам» ён супрацьпастаўляе прамоўніцкае майстэрства, урачыстае красамоўства, напытлівы і рытарычны лад сваіх пропаведзяў. У сваіх творах Кірыла Тураўскі ўмела выкарыстоўвае і грэчаскую мову, і лепшыя ўзоры візантыйскай царкоўнай літаратуры, але для асновы іх ён бярэ жыццё тагачаснага грамадства, малюнкі прыроды, духоўны свет чалавека, здзіўляючы сваіх слухачоў алегарычнасцю, узнёсласцю, паэтыкай.

У выданнях аб Кірылу Тураўскім можна знайсці, што «писал он также слова на господские праздники, читаемые и теперь на эти праздники и многие иные душеполезные словеса». Ухваляючы падзеі ці ўрачыстасці, ён хораша і з велічнай вобразнасцю стараўся больш яскрава данесці слухачам успрыманне царкоўных догмаў. Трэба было неяк прыблізіць, неяк ужыцца старым язычніцкім вераванням з новымі хрысціянскімі.

Параўнанне як мастацкі прыём вельмі часта выкарыстоўваецца ім у «словах». Свята, у гонар якога было складзена «слова», параўноўваецца з брыльянтамі, а сустрэчу свята вялікадня ён параўноўвае з радасцю сустрэчы дзяцей з іх бацькам пасля нечаканага вяртання яго з далёкага падарожжа. З вялікім пачуццём і прыгажосцю напісаны «словы», прысвечаныя вясеннім святам. Малюнкі прыроды падаюцца прыгожымі, светлымі, абноўленымі пасля зімы. Гэта давала магчымасць параўноўваць у іншасказальнай форме прыроду і евангельскія падзеі, абнаўленне старой веры новай хрысціянскай.

Палітычнае жыццё, міжусобіца, барацьба ідэй — усё гэта хвалявала Кірылу Тураўскага, хвалявала і стымулявала яго да роздуму і дзеяння. Карамзін у «Истории государства Российского» (т. III, заўвага 29) адзначае: «Св. Кирилл епископ туровский муж знаменитый ученостью по тогдашнему времени, имел переписку с Андреем Боголюбским и сочинил несколько рассуждений богословских. Мне известно одно из его творений: «Кирилла епископа туровского сказание о черно-ризском чине», найденное мною в харатейной кормчей книге».

Андрэй Багалюбскі быў вядомы ў Тураве і мог бываць там, як князь у сваім уладанні, хоць і на кароткі час у 1151 годзе. Цяпер ён быў славуты і грозны ўладар на ўсёй Русі.

У час яго княжання епіскапам растоўскім, суздальскім і ўладзімірскім становіцца Фёдар (Фёдарэц). Ён, як і Багалюбскі, хацеў дыктаваць сваю волю і ўладу свяшчэнную над Вялікім Кіевам і іншымі княствамі, ігнаруючы ўладу кіеўскага мітрапаліта. Жорстка караліся тыя, хто не хацеў скарыцца: адных распіналі на дошках, другім адсякалі рукі і ногі, высмальвалі вочы, варылі ў катлах, палілі цэрквы і манастыры.

У свой час Андрэй Багалюбскі пісаў сваму бацьку — князю суздальскаму Юрыю Уладзіміравічу (пазней — Юрый Далгарукі): «Не слушай Ярославича (першы незалежны тураўскі князь Юрый Яраслáвіч, які падбухторваў суздальскага князя да паходу на Кіеў), помирись с Изяславом (кіеўскі князь Ізяслаў Мсціслáвіч), не губи отчины: мир стоит до рати, рать до мира... Отец, господин мой! Помяни слово написанное: «се коль добро и красно, еже жити братии вкупе!»

А ў 1169 годзе Андрэй Багалюбскі сам сабраў рaць адзінаццаці князёў і рушыў на Кіеў, захапіў яго, разрабаваў, спаліў цэрквы і манастыры.

І вось у абарону ад такой чорнай і грознай навалы падняў свой гнеўны голас Кірыла Тураўскі. Вялікі майстар у алегарычнай форме ў «Притчи о человечестей душе и о телеси (о слепце и хромце)» хоча звярнуць увагу слухачоў на здагадку не толькі пра епіскапа Фёдарца, але і Андрэя Багалюбскага. Апрача гэтага ён непасрэдна звяртаецца да Багалюбскага, заклікаючы князя адмовіцца ад раскольніцкай ідэі епіскапа Фёдара і патрабуе аддаць яго пад суд.

У «Прологе» пазнейшых часоў можна сустрэць такі запіс: «Андрею Боголюбскому князю писал он много посланий от евангельских и пророческих писаний».

Князь Багалюбскі з вялікай павагай і пашанай, відаць, адносіўся да такога ўплывовага і славутага служыцеля царквы, як Кірыла Тураўскі, узвышаючыся сваёй асобай над іншымі царкоўнікамі. У летапісных кры-



**І. ПРАТАСЕНЯ. Кірыла Тураўскі** (акварэль, каляровы алоўак, 1989).

ніцах таксама сустракаецца ўпамінанне аб просьбе Андрэя Багалюбскага да Кірылы Тураўскага прысылаць і надалей свае пасланні. На жаль, ні адно з гэтых пасланняў не дайшло да нас.

Пазней, як вядома, епіскап Фёдарэц, не без дапамогі Багалюбскага, быў асуджаны царквою на пакутлівую смерць.

Тыя творы Кірылы Тураўскага, якія захаваліся ў больш позніх спісах (XIII—XVII стст.), уяўляюць сабой каштоўнейшы помнік старажытнарускай літаратуры. Стагоддзямі яго творы беражліва перапісваліся амаль без перапрацоўкі і скажэння. Яго малітвы і царкоўныя каноны ўзносіліся і пеліся ў цэрквах. Яшчэ сучаснікі называлі Кірылу Тураўскага «Златоуст паче всех воссиявший нас на Руси». Сказанні яго ўключалі ў «Златоуст» і «Торжественник», якія чыталіся па вялікіх святах. Творы Тураўскага ставілі побач з навучэннямі Іаана Златавуста і іншымі славутымі літаратурнымі дзеячамі Старажытнай Русі.

Малітвы Кірылы Тураўскага можна сустрэць і ў старажытных малітоўніках, выдадзеных у Вільні ў 1596, 1602, 1635 гадах, а ў загалоўку выдання 1635 года значыцца, што змешчаныя тут малітвы «из друку осмый раз выданны». Менш перавыдаваліся яго «словы» і павучальныя сказанні. Адно «слова» змешчана ў «Евангелии толковом» выдання Козьмы Мамоніча ў 1595 годзе. Яго творы выдаваліся потым некалькі разоў у Маскве, Львове, Супраслі.

Апошнія гады свайго жыцця Кірыла Тураўскі дажываў у тураўскай царкве св. Міколы. У адной са сваіх малітваў ён гаворыць: «Молитвы умиленныя Кирилла мниха недостойного и многогрешна сушаго у святого Николы в Турове».

Памёр Кірыла Тураўскі, магчыма, у апошнім дзесяцігоддзі XII ст., 28 красавіка (пад такім днём значыцца памяць яго ў «Прологе» XVI ст.). Мошчы яго, па мясцоваму паданню, знаходзіліся на могільніку Барыса-Глебскага епіскапскага манастыра, які ўпамінаецца ў сказанні аб тураўскім мніху Мартыне, сучасніку Кірылы.

Многія стагоддзі аддзяляюць нас ад далёкага і славутага земляка, які стаяў ля вытокаў нашай культуры. Так жыў і асвятляў сваёй выключнай асобай старонкі гісторыі XII стагоддзя славуты дзеяч старажытнарускай культуры Кірыла Тураўскі.

Засяроджаным, мудрым бачыўся мне наш тураўскі зямляк з тых даўніх часоў, калі працаваў над яго партрэтам.

Партрэт гэты — мая маленькая даніна памяці златавуста са слаўнага горада Турава.

Іван ПРАТАСЕНЯ

**Ганарар за публікацыю аўтар пераводзіць на рахунак Беларускага фонду культуры — на пабудову помніка Кірылу Тураўскаму.**

*Нашы інтэрв'ю*

# ЗОРКАВЫ ЧАС СПАДАРЫНІ ЮЛІ

*Не рассталіся б мы з нашым краем,*
*Каб было дзеля нас у ім хлеба...*

Максім Багдановіч

Я бачыўся з ёй ледзь не кожны дзень на працягу месячнага гасцявання разам з сынам на радзіме продкаў. Успамінаецца... На адной з вечарынаў у Мінску Бо́гдан Данчык выконваў задуменна-лірычныя «Зорачкі» на вершы Сяргея Новікава-Пеюна. «Лёс магутны, лёс прышле нам ясны май — прылячу тады, як птушка, ў родны край...» Людзі, як заўсёды, у напружанай тузе ўслухоўваліся ў кожнае слова, гук. А на сцэне пажылая, але маладжавая на твар жанчына, здавалася, кожнай клеткай, фібрамі душы лавіла ўдзячны подых залы. І калі зала раптам схамянулася, устала, выбухнула авацыяй, памятаю, знянацку нахілі́ўся да яе і сказаў: «Варта было нарадзіцца, выхаваць такога сына і... вярнуцца, каб зведаць на Радзіме імгненні, пасля якіх, кажуць, паміраць не страшна?!» Вочы жанчыны завільгатнелі, вусны ледзь чутна прамовілі: «Так...»

Сумны вынік застою: не так далёка адышлі яшчэ веды многіх з нас пра беларускую эміграцыю ад аглабельных артыкулаў нядаўняга мінулага, калі розныя «палітычныя субяседнікі» няславілі так званых «бебурнацаў» — беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Хоць большасць эмігрантаў адносін да апошніх не мела і не мае. Больш таго. У сэрцах суайчыннікаў жыве памяць і самая шчырая любоў да Бацькаўшчыны, усяго беларускага. Лёс маці славутага ў нас сёння Данчыка — таму пацвярджэнне. У сумятні гастрольных канцэртаў я выкраіў вольную гадзіну, каб больш падрабязна пагутарыць пра тамтэйшае жыццё-быццё са спадарыняй Юляй Андрусышынай — маці Данчыка, адной з заснавальніц БАЗы (Беларуска-амерыканскага згуртавання ў Амерыцы), грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах людзей беларускай нацыянальнасці. (Вымаўленне некаторых слоў спадарыняй Юляй я вырашыў захаваць, каб перадаць асаблівасці тамтэйшай гаворкі.)

**— Спадарыня Юля, як перарваліся Вашы сувязі з Бацькаўшчынай?**

— У 44-м годзе разам з сям'ёй апынулася ў лагерах, на Нямеччыне. Пасля вайны пражылі на чужыне шэсць гадоў і, баючыся сталінскіх рэпрэсіяў, пераехалі ў ЗША. У Амерыцы пабралася шлюбам з украінцам, нарадзіла двох сыноў — Багданчыка і Юрчыка. На працягу ўсіх гэтых дзесяцігоддзяў мелі сувязі з роднымі, перапісваліся, але да апошняга часу нат не паўставала пытання наконт прыезду на Беларусь. Данчык спрабаваў аж 12 гадоў пасля знаёмства з Лёнем Барткевічам, і калі пашэнціла (смяецца), дык прычапілася да яго і вельмі задаволена...

**— Але як Вам удалося захаваць сваю беларускасць?**

— У Амерыцы кожны чалавек мае сваю годнасць, у тым ліку і нацыянальную. І калі

хтосьці называе сябе беларусам, не ведаючы аніводнага слова па-нашаму, дык прадстаўнікі іншых нацыянальных супольнасцяў толькі плячыма паціскаюць... Таму мы, як толькі прыехалі ў Амерыку, пачалі неяк гуртавацца. У 50-х гадах узнікла БАЗа. Чым займаемся? Штодва гады робім культуралагічныя з'езды беларусаў Амерыкі і Канады — у Таронта, Кліўлендзе, Нью-Джэрсі, Нью-Йорку (залежыць ад таго, як прагаласуе большасць дэлегатаў). Апошнім часам любім ездзіць у штат Агайо, дзе маем свой кус зямлі і дзе месціцца грамадскі цэнтр «Полацак» з беларускамоўнай абслугай. На з'ездах адбываюцца розныя навуковыя сімпозіумы, чытанні, семінары. З дапамогай нашага Інстытута навукі і мастацтва святкавалі, напрыклад, 450-годдзе Статуту Вялікага княства Літоўскага. Дарэчы, ёсць у нас і беларуска-амерыканскае згуртаванне моладзі, якое збіраецца аднавіць выданне свайго часопіса. Можа, у вас чулі і пра маладзёжны танцавальны гурток «Васілёк». Праўда, часам не можам танцораў падабраць на адзін рост і век, але ўсе «васількоўцы» танцуюць там самааддана, што імі захоплены і «чыстыя» амерыканцы. Ёсць у нас і фундацыя Крычэўскага — невялікая кватэра з абразамі вызначаных дзеячоў, паэтаў, з кавай, гарбатай і шчырымі размовамі — накшталт вашай гасцёўні Галубка. Апроч памянёнага «Полацака», ёсць адпачывальны цэнтр «Менск» у штаце Нью-Йорк, куды любім ездзіць сем'ямі. Між іншым, побач — украінскі лягер, і беларусы заўсёды наладжваюць з імі спартовыя гульні...

**— І з якім поспехам?**

— Нашы часта выйграюць (смяецца). Да таго ж, у амерыканскім «Менску» вялікі басейн і побач — цудоўнае возера. У Нью-Йорку маем дзве праваслаўныя царквы, дзе служба ідзе па-беларуску, у Нью-Джэрсі — два могільнікі, дзе хаваюць беларусаў з усіх Штатаў. Наогул, царква і сям'я — першаасновы выхавання кожнага маладога чалавека ў Амерыцы...

**— Якога веравызнання тамтэйшыя беларусы?**

— З большасці праваслаўныя, але мая маці, напрыклад,— рымакаталічка. На жаль, марудна ідзе пераклад царкоўных тэкстаў на беларускую мову, але «Ойча наш», Евангелле чытаюцца па-беларуску. Зрэшты, не падумайце, што беларуская супольнасць — нешта замкнёнае ад навакольнага свету. Гадоў 5—6 таму славяне Амерыкі з'арганізаваліся і штогод праводзяць Тыдзень славянскіх культур, у рамках якога ладзяцца літаратурныя вечарыны, мастацкія выставы і адзін-два канцэрты ў прэстыжным, на тысячу асобаў цэнтры Лінкальна. Якраз у 90-м годзе Данчык збіраецца выступіць на чарговым злёце ад беларусаў...

**— Колькі нашых суайчыннікаў у ЗША?**

— Апошнія звесткі — 350 тысяч... Але адчуваем сябе нароўні з іншымі нацыямі. Скажам, наш святар спраўляе малітву ў Кангрэсе ў святочныя для беларусаў дні, мэры Нью-Йорку, сталіц іншых штатаў вывешваюць тады над сваімі ўправамі бел-чырвона-белыя сцягі...

**— Ці выдае БАЗа свае газеты, ці мае выхад на радыё, тэлебачанне?**

— Нашы фінансавыя сродкі складаюцца з дабрачынных ахвяраванняў, калі не лічыць 15 даляраў, якія мусіць штогод выплочваць кожны член БАЗы (усім светам, як кажуць, былі запісаны і ўсе пліты Данчыка). Эфірны час для нас занадта дарага абыходзіўся б (украінцы, праўда, маюць раз на тыдзень паўгадзінную царкоўную радыёпраграму). Інфармацыйны ж лісток БАЗы выходзіць штотыдзень у свет. Газета «Беларус» выдаецца раз на месяц фарматам «ЛіМа».

**— Ці не адчуваеце адарванасці ад беларускай культуры?**

— Па-першае, у Нью-Йоркскую публічную бібліятэку паступаюць усе навінкі. Шмат беларускіх кніжак атрымліваем з Беласточчыны. У Нью-Йорку ж ёсць крама, дзе можна набыць кружэлкі з беларускай музыкай, саламяныя вырабы. У Полацку мне падарылі ручнік, які яшчэ прабабка вышывала. Як адкрыем свой Музей беларускай культуры, перадам яго туды...

**— А ёсць і такія планы?!**

— Так, у грамадскім цэнтры «Полацак» будуецца ўжо заля, дзе размесціцца музей і бібліятэка з беларускімі кніжкамі...

Слухаючы спадарыню Юлю, узгадаў яшчэ выпадак. Вяртаючыся з творчай вечарыны Данчыка ў Віцебску, спыніліся ля дарогі, каб пачаставацца свежай антонаўкай. Да вагаў падышоў пажылы, на падпітку, гаспадар. «Колькі каштуюць яблыкі?» — спыталі яго па-беларуску. Чалавек здзіўлена паглядзеў на нас... адказаў па-руску. «А ў нас, у Амерыцы, беларусы па-беларуску гавораць...» — не ўстрымалася спадарыня Юля.



**Спадарыня Юля і Данчык.**

Чалавек пахіснуўся і развёў рукамі — а мне ўсё роўна...

— Усё ж я больш-менш прыгатавалася да таго, што пабачыла,— працягвае субяседніца.— Але вельмі прыкра было, калі на вуліцы, быццам у адказ на беларускія словы, несліся часам рэплікі: маўляў, глядзіце, шавіністы пайшлі. Дзіва: расеец гаворыць на сваёй мове і нічога падобнага не чуе! Хіба ж тыя людзі не разумеюць, што ствараюць у грамадстве атмасферу ўзаемнай недаверлівасці, нянавісці?! У той жа час вельмі ўсцешна было, калі пад час вакацыяў у Ратамку, Ракуцёўшчыну, Радашковічы 13—14-гадовыя хлапчукі, калі ў іх пыталіся пра дарогу, аказваліся на сваёй мове. Я нават не ўяўляла, што вёскі захаваюць, як і ў мае часы, карані цераз 50 гадоў нацыянальнага заняпаду. І проста нельга было стрымаць слязу, калі зноў бачыш гэтыя спусцістыя ўзгорачкі, сінявокія пейзажы, бярозавыя гаі — усё, па-мойму, у нашым краі нараджае Дабрыню. Каторыя кажуць, зрэшты, што яна ў беларусаў залішняя, таму і церпяць вякамі... Аднак сёння павінны ўсе ўсвядоміць спрадвечную ісціну: калі сам не паважаеш сваёй спадчыны, дык наўрад і цябе хтосьці шанаваць будзе... Канечне, невыразна шмат трэба папрацаваць на Беларусі, каб дараўнацца, скажам, амерыканцаў. Але найважнейшае, што заўважала пад час гасцявання ў роднай старонцы: людзі адчулі Свабоду, выціскаюць рабоў са сваіх душаў. «Беларусы выходзяць на арэну»,— такія загалоўкі пачалі з'яўляцца ў амерыканскім друку. Пра Курапаты, пра грамадскую дзейнасць Алеся Адамовіча напісаў найсаліднейшы ў Амерыцы часопіс «Тайм», сваімі вачыма пабачыла «чарнобыльскі шлях»... Усё гэта крокі да Праўды, Дэмакратыі і Лепшай Долі. Мая самая запаветная мара: бачыць беларусаў па-сапраўднаму Годнымі сярод Годных. Разам жа будзем набліжаць гэты час!

**Віталь СЯМАШКА**

**Фота Г. Маскалёвай**



# ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ

Многія беларускія пісьменнікі дваццатых і трыццатых гадоў былі незаслужана забыты.

Па-рознаму склаўся іх лёс. Адны сталі ахвярамі паклёпу і парушэнняў законнасці ў часы культу асобы, і іх творчая дзейнасць была гвалтоўна спынена, зганьбавана. Другія самі перапынілі яе ў вельмі неспрыяльныя для літаратуры трыццатыя гады і пастараліся знайсці іншы, менш небяспечны занятак. Трэція... Ды хіба назавеш усе акалічнасці, пры якіх адышлі ад літаратурнай працы многія нашы паэты, празаікі, драматургі, крытыкі. А саміх іх і ўспамінаць перасталі.

У літаратуру вернуты ўжо з забыцця імёны несправядліва рэпрэсіраваных пісьменнікаў і значная частка іх твораў. Час вярнуць і тых, чые творы засталіся на старонках перыядычных выданняў мінулых дзесяцігоддзяў. А сярод іх — нямала па-сапраўднаму таленавітых. Пра аднаго з такіх паэтаў — Яўгена Замерфельда (1912—1980) — мне і хочацца расказаць.

З ім мы вучыліся разам у Мінскім педагагічным інстытуце. Былі ў адной групе беларускага аддзялення літаратурнага факультэта. Канчаў жа ён інстытут годам пазней, чым уся група: на апошнім курсе яго не абмінулі трагічныя падзеі таго часу. Пратрымалі ў турме некалькі месяцаў. Пра перажытае там не расказваў. Помню, было гэта пасля вайны,— сустрэў я яго ў Мінску (працаваў Яўген Замерфельд настаўнікам у Барысаве). Разгаварыліся. Неяк да слова прыйшлося, і я запытаў, за што ўсё ж яго арыштоўвалі. Сказаў толькі, што розныя былі абвінавачанні, нават такое недарэчнае: нехта данёс, быццам ён займаўся прапагандай у студэнцкім асяроддзі паэзіі Блока і Пастарнака і непаважліва ставіўся да творчасці пралетарскага паэта Андрэя Александровіча. Гэта нічога, што неўзабаве і сам пралетарскі паэт быў арыштаваны.

За нас, літфакаўскіх пачаткоўцаў, Яўген Замерфельд быў крыху старэйшы. Паспеў папрацаваць у школе. А галоўнае — друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Але не толькі гэта хінула да яго. Быў ён душэўна шчодры, далікатны, інтэлігентны, а да такіх заўсёды горнуцца людзі. Я чытаў яго вершы яшчэ ў сямігодцы.

Пачаў ён друкавацца ў «Вясне» — літаратурным дадатку да бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». Там у 1929 годзе з'явіліся яго першыя вершы «Не пужай...» і «Уначы».

Не пужай мяне, жоўтая восень,
Ты не страш мяне злосцю сваёй,
Яшчэ сонца загляне у просінь —
Развітаецца сэрца з нудой,—

так, пераймаючы матывы маладнякоўскай лірыкі, выказваў свой настрой аўтар верша.

З апублікаваных у «Вясне» больш непасрэдны, самастойны яго верш «Нарадзіўся цялёнак». Пра гэту падзею ў сялянскім двары малады паэт расказаў проста, без асаблівых вымудраў. Але даў адчуць, колькі радасці прынесла яна гаспадарам і іх дзецям. Нават у хаце як бы пасвятлела. Сапраўды, хіба маглі не запомніцца, не крануць чытача сваёй цеплынёй такія радкі:

Доіць матку бысюля.
Ласка кружыцца роем,
Ліжа сына рагуля.

Перыяд літаратурнага вучнёўства не задоўжыўся. Майстэрства паэта сталела, і з пачатку трыццатых гадоў яго вершы, хоць і не часта, друкаваліся ў альманаху «Ударнікі», у часопісах «Узвышша», «Паляўнічы Беларусі», «Заклік», а пазней — і «Полымя рэвалюцыі». Вызначаліся яны свежасцю думкі, навізной формы і таму не заставаліся незаўважанымі: іх называлі, цытавалі ў артыкулах і гадавых аглядах паэзіі.

Навізну, арыгінальнасць вершам Яўгена Замерфельда надавалі, вядома, не знешнія асаблівасці іх будовы (нярэдка і ў яго радкі кладліся на паперу лесвічкай), а найперш сэнсавая змястоўнасць, самабытнасць паэтычных вобразаў. Часам дастаткова было двух-трох скупых, дакладных штрыхоў, каб пад пяром паэта ўзнік зрокава адчувальны малюнак, вобраз. Згадаем малюнак ранішняга поля ў вершы «Ворыва», створаны яркімі, кідкімі мазкамі:

Раскацістым бляскам—
лямех на мяжы.
Бадзёрае ранне,
цяплынь.
Глядзіш,
і здаецца:
ва ўсю сваю шыр
дрыжыць
медыятарам
сінь.

Дакладнасць, выразнасць, нечаканасць паэтычных малюнкаў, а за кожным з іх бачыцца рэальны жыццёвы эпізод, нязвыклае ўражанне — найбольш характэрная рыса твораў Яўгена Замерфельда.

Вершам, нават самым задушэўным лірычным, ён даваў часам занадта празаічныя назвы — «На педпрактыку», «Ідуць плыты», «У запаведніку». Напэўна, хацеў, каб чытачы вастрэй адчулі паэтычнасць самога твора.

Звернемся да гэтых вершаў. Гаворыцца ў іх пра звычайныя падзеі, з'явы. Цягнік, на якім студэнты ад'язджалі на педпрактыку, рушыў у свой шлях.

І дзве рэйкі,
бліскучых такіх,
як слязінкі дзяўчат,
пацяклі,—

скажа аўтар. Створаны ім вобраз памагае глыбей выявіць адчуванні, настрой тых, хто ад'язджаў на педпрактыку ў школы далёкіх палескіх вёсак.

Прыбіла да берага плыт. Апавяданне пра тое, якімі намаганнямі плытагоны вярталі яго на быстрыню ракі, і складае змест верша.

Пругкасць рук упілася ў шасты.
Рухі цягліц, як хваль перакаты.
Раз у бераг урэзаўся плыт,
рвацца з сіл плытагоннай брыгадзе.

А «казку» пра марозную ноч у лесе («У запаведніку»), мабыць, і можна было расказаць толькі такім вершам:

Месяц яркі.
Лесніччанка.
Нерасцёртыя дарогі.
Снег калючы.
Каля ганку
ланцугі слядоў з бярлогі.
Гурбы.
Ціш.
А ноч як казка:
за вакном
на варту сталі
сосны,
слепячыя бляскам,
адкаваныя са сталі.
Глуш лясная.
Тут паверыш,
што з-за сіняй
цені-глебы,
як адліты,
моцны
шэры
лось-рагач
дыхне на шыбы.

Месца такім залацінкам паэзіі — у анталогіі старанна адабраных узораў гэтага мастацтва.

Пісаў Яўген Замерфельд творы пейзажнай лірыкі, адметныя мяккасцю фарбаў, здольныя абудзіць адчуванне асаблівай душэўнай сцішанасці. Як верш «Сакавік»:

Бляск паводкі, сняжок наздраваты,
шкельцы льдзінак-лапек дзе-нідзе,
сінь сасны, беразняк белаваты
ды празрыстае сонца ў вадзе.

Яўген Замерфельд вельмі любіў паэзію Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, захапляўся іх творамі, вучыўся ў іх майстэрству. І стараўся перадаць сваё захапленне ўсім, хто слухаў іх вершы з яго вуснаў. На трэцім курсе педінстытута ў час педпрактыкі мы, студэнты, давалі ўрокі ў адной з мінскіх школ. Калі размяркоўвалі тэмы, Замерфельд папрасіў запісаць яму ўрок па творчасці Янкі Купалы. Мы хадзілі на заняткі аднакурснікаў, абмяркоўвалі іх. Урок Замерфельда атрымаў самую высокую адзнаку. Безумоўна, шмат памог яму набыты ранней педагагічны вопыт, а найбольш — замілаванне да купалаўскай творчасці, якое адчулі і вучні.

Запомнілася расказаная Замерфельдам гісторыя, звязаная з імем Янкі Купалы. У маі 1930 года адзначалася дваццаціпяцігоддзе творчасці народнага паэта. У Барысаве вырашылі арганізаваць для настаўнікаў лекцыю пра яго жыццё і творчасць. Слухачоў сабралі ў памяшканні 1-й сярэдняй школы, якая насіла імя Янкі Купалы. У якасці лектара прыехаў Лукаш Бэндэ. Можна ўявіць, што ён гаварыў, у якіх грахах вінаваціў паэта, калі дырэктар школы, не дачакаўшыся канца лекцыі, ціхенька выйшаў з залы і загадаў тэхнічцы зняць шыльду з будынка школы.

Настаўніцкая праца была прызваннем Яўгена Замерфельда. З гадамі яна забірала ўсё больш і больш часу, душэўных сіл. Паэзія ж складала як бы другое яго жыццё. Пасля вайны яго вершы толькі калі-нікалі можна было сустрэць у друку: некалькі іх апублікавалі «Чырвоная змена», часопісы «Беларусь» і «Маладосць», ды газета «Літаратура і мастацтва» змясціла падборку гумарэсак, напісаных на матэрыяле школьнага жыцця. Адзін з вершаў («Сустрэча») ён прысвяціў памяці сваёй вучаніцы партызанкі-гераіні Людмілы Чалоўскай. Яго пяру належаць артыкулы пра творчасць асобных пісьменнікаў (Янкі Маўра, Аркадзя Куляшова, Міхася Клімковіча) і па пытаннях выкладання літаратуры ў школе, рэцэнзіі. Шырокія веды і педагагічны вопыт, якімі валодаў паэт, вельмі прыдаліся пры складанні метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, чым таксама займаўся ён.

Паэтычная спадчына Яўгена Замерфельда небагатая. Але большая частка напісанага ім не страціла свайго значэння, яркасці і свежасці ўспрымання жыцця. Лепшыя яго вершы вартыя ўвагі сучаснага чытача.

**Янка КАЗЕКА**




# КАЛІ ІДУЦЬ ЯРАВЫЯ ДАЖДЖЫ...

**Алесь Пісарык. Дажджы яравыя: Вершы. Мн.: Маст. літ., 1990.**

У прыродзе, калі ідуць вясновыя дажджы, інакш — дажджы яравыя, звычайна ўсё бурна гоніць у рост: траву, рунь. Вось-вось гатовы раскрыцца пупышкі і зазелянець лістота. Гэтая прыкмета даўняя — ад нашых продкаў, якія маліліся на падобныя дажджы. Бо ад іх часта залежаў плён сялянскай працы.

Думаецца, так разумеў значэнне яравых дажджоў і Алесь Пісарык, калі даваў назву сваёй новай паэтычнай кнізе.

Сярпом жняі—
Мігціць маланка.
Варушацца снапы аблок.
Мне ў шуме ветру
Калыханка
Матулі чуецца здалёк.

Дагэтуль у Алеся Пісарыка былі ў набытку нізка вершаў у калектыўным зборніку «Нашчадкі» («Лíставір», 1979) і ўласная кніжка вершаў «Белы май» (1982 г.). Як бачна, часу ад выдання папярэдняй кнігі прайшло багата. Помніцца, «Белы май» у друку ацэньвалі па-рознаму. У «ЛіМе», напрыклад, «тэарэтычны эксперт» і «крытычны інтэрпрэтатар» маладой беларускай літаратуры Сяргей Дубавец, як назваў ён сам сябе ў сваім жа артыкуле «Хто там?», надрукаваным у часопісе «Крыніца» (№ 2, 1990 г.), проста паздзекаваўся тады з маладога паэта.

У Алеся Пісарыка сваё, адметнае паэтычнае бачанне свету.

Гордага роду майго карані
Тут—на пагорачку.
Колькі зямлёю забрана радні—
Даўка ад горычы!
. . . . . . . . . .
Помню і тых,
Каго лічыць вайна
Без вестак прапаўшымі.
Дзіўна думаць,
Што тыя, каго вы калісь
Закрывалі ад кулі варожае,
Маці вашай сардэчнае штосьці далі,
Акрамя абяцання парожняга.
Самі ўроскаш пасля тых баёў пажылі,
Іх сямейкі не зведалі посніцы...
Ну а тое, што хлопцы за іх паляглі,
Дык пра тое даўно ўжо не помніцца...

**(«Гордага роду...»)**

Так, здаецца, яшчэ не пісалі на тэму вайны...

«Свет думак і пачуццяў вясковага хлопца, а цяпер — гарадскога жыхара, рабочага, які ў памяці сваёй захоўвае чыстыя вобразы дзяцінства,— такое лірычнае гучанне зборніка «Дажджы яравыя»,— напісана ў анатацыі да кніжкі. І я з ёю поўнасцю згодзен. Згодзен таму, што рэдактар кнігі Леанід Дранько-Майсюк тонка ўлавіў і вызначыў лейтматыў «Дажджоў яравых». У паэта, выхадца з вёскі, а цяпер гараджаніна, вядома ж, не маглі не пераплесціся (гэта ў крыві і навекі!) матывы як вясковага («Пакланюся барам і лясам — вершалінам гордым. Я — не госць, і мой смутак там, дзе пражыў маладыя годы»), так і гарадскога жыцця («А там, каля лётак рудых, заміраеш, заглядзеўшыся ў круглявае шкельца вагранкі: расцякаючыся ў расколінах, шыхты чыгун...»). У кнізе суседнічаюць звычайныя пейзажныя замалёўкі і вострагрaмадзянскія вершы (пра Курапаты, пра дзеда, якога за тое, што «уласную песціў палоску, зганялі ў Сібір», пра лёс аднавяскоўца старшыню ЦВК БССР А. Р. Чарвякова...). Багаты зборнік на інтымную лірыку і вершы фальклорнага плану («Альта», «Валошкавыя світанкі», «Жураўка», «Надакучнікі», «Бабуліна жалейка»). Падобны паэтычны дыяпазон быў у кнігах «Нашчадкі» і «Белы май». Хоць там усё-ткі пераважалі матывы гарадскога жыцця, думкі і памкненні рабочага чалавека. Яно і зразумела: Алесь Пісарык і яго аднагодак паэт Кастусь Жук працавалі тады на трактарным заводзе і, як кажуць, мазалямі спазналі «смак жалеза», што не магло не адбіцца і на іх творчасці. Памятаю, маладых паэтаў за гэта адначасова і хвалілі, і крытыкавалі. Хвалілі за рабочую тэму, за якую з маладых амаль ніхто не браўся, акрамя Пісарыка і Жука. Крытыкавалі за каструбаватасць, павярхоўнасць «рабочай паэзіі». Што ж, пісаць «гістарычныя» ці вершы асяэальна-сузіральнага плану сёння больш прэстыжна. Там шмат загадкавага, неспазнанага... А як пра рабочы клас напісаць, ды яшчэ цікава і нязбіта? Нялёгкая задача. Таму і А. Пісарык і К. Жук, якім крытыка адбіла ахвоту пісаць вершы на рабочую тэму, хутка пачалі шукаць сябе ў іншых паэтычных варунках. Часцей за ўсё яны вярталіся ў сваё вясковае дзяцінства. За што новая «крытычная генерацыя» не праміне ўпікнуць «вясковых гараджан».

Дык што рабіць 35-гадовым творцам, «вясковым гараджанам», жыццё якіх раздзялілася напалову: палова — вясковае, палова — гарадское? Пісаць так, як пішуць сённяшнія маладыя паэты «без біяграфіі», часцей гарадскія, ім не з рукі. У такіх паэтаў, як А. Пісарык, надта ж абвострана пачуццё ўласнай біяграфіі, надта ж баліць яно... Без яго яны проста не былі б паэтамі. У ёй, біяграфіі,— аснова іх паэзіі. І пісаць нешта абстрактна-аморфнае, што ўзбрыдзе ў галаву, ім не хочацца. Дый не дазваляе перажытае... Бо яно вельмі няпростае, часта балючае, і не заўсёды па іх віне...

Я рос у маленькай прыземістай хаце,
Дзядуля—за бацьку,
Бабуля—за маці,
Бацькі ж—
У сталіцы тым часам жылі:
Як дзед мне казаў—
Зараблялі рублі.

**(«Куточак роднай Беларусі»)**

Я помню долю горкую сяла,
Якое мы з тугою пакідалі,
Бо ў тым сяле—
Хоць ты сагніся ў рог—
Пыхлівыя «князькі» сваё тварылі...
Мы пакідалі спадчынны парог
З надзеяю,
Што горад—нас акрыліць.

**(«Успамін аб сабе»)**

Паэту баліць усё, што адбываецца і ў вёсцы, і ў горадзе. Ён ідзе ад рэалій. І ў гэтым традыцыйны. І вядома ж, будзе не зразуметы тымі, хто сёння эксперыментуе, шукае на грані свядомага і падсвядомага... Ён — антыпод фармальным пошукам.

Яшчэ адно забытае жытло,
Яшчэ адна пакінутая хата...
Сюды маіх дзіцячых год святло
Заходзіла і ў будзень, і на свята.
. . . . . . . . .
Цяпер сярод высокіх камяніц
Знячэўку я згадаю тую хату
З даверлівай чароднаю сініц
У звонкалістых яблыневых шатах.
Я чую спеў—
Ён праз гады не змоўк,—
На спадчынных дзвярах—
Сівы замок...

**(«Пакінутая хата»)**

З такім прачулым «багдановічаўскім» болем да ўсяго роднага, зямлі, маці, мовы, паэту не пагражае касмапалітызм, які прарочыць усё той жа С. Дубавец беларускай літаратуры пры ўсіх яе бедах. Калі твае карані «там — ля вогненных крыніц, дзе мы сябе гублялі ў даўкім гуле і сёння песня родная звініць, якую ў сэрцы з болем берагу я». А глядзіце, які непрымірымы паэт да падобных «касмапалітаў»:

І ў мовы лёс палынна-горкі.
Змялела моўная рака,
І не пазнаць у час гаворкі
У роднай вёсцы земляка...
Мо ў тым—
Падлашчванне сляпое...
Але, даруйце,—перад кім,
Калі—Радзіма за табою?
Чаго ж баімся, землякі?

**(«Мо так адны мы, беларусы...»)**

Што ж ты, брат недаверлівы мой,
Прынудзіцца сябе прымушаеш,
Пры матулінай мове жывой
Горда мачаху ў сэрцы люляеш.

**(«Сыны і пасынкі»)**

Асаблівая зажураная пачуццёвасць прысутнічае ў вершах А. Пісарыка, у якіх ён кранаецца трагічнай тэмы. Неяк вельмі пасвойму, тонка вырашае іх паэт. І «ўдовая Хадосся», і «цётка Прузына», і «аднавяскоавец паэта старшыня ЦВК А. Р. Чарвякоў», і заўчасна памерлая сястра аўтара Людміла, і пісьменнік Міхась Стральцоў ажываюць у вершах са сваімі непаўторнымі абліччамі...

Пяшчотнасцю з гарчынкай болю няспраўджаных мар вызначаецца інтымная лірыка паэта.

Твой чую смех
І подых твой лаўлю.
Цяплом вясны тваёй
Душа сагрэта.
Жыву тваім
Растрачаным: «Люблю...»,
Пакутую і мучаюся гэтым.

(«Ты думаеш, не помню я цябе...»)

Мяне парадавала і тое, што А. Пісарык побач з традыцыйнымі абжывае і нетрадыцыйныя формы верша. Ён разумее: новае ў жыцці патрабуе і новых форм яго выражэння. У зборніку некалькі верлібраў, якія пакідаюць добрае ўражанне.

Кожная хата назву мае сваю —
Сваю гісторыю.
І калі ў руках маці
З'яўляецца спрытны чапёлак,
Звыклы да справы сваёй каля печы,
Я прыгадваю калгаснага каваля
Дзядзьку Стася.
Гасцюючы неяк у нас,
Ён пажадаў:
«Дай бог, каб ніколі
Не астываў качарэжнік!..»
Я падумаў тады
Пра свой верш.

(«Кожная хата мае назву...»)

Сапраўды, думаць пра свой верш, каб ніколі ён «не астываў»,— задача кожнага паэта. Алесь Пісарык, відаць, і сам разумее, што не ўсё ў яго паэзіі раўнацэннае. Часам паэту перашкаджае нявынашанасць верша, паспешлівасць выказвання, рытарычная агаленасць радка. Як прыклад, верш «Маладым літаратарам з літаб'яднання «Каласавіна» (не назва, а хутчэй прысвячэнне). Папершае, такога літаб'яднання не існуе. Была спроба яго стварыць. Па-другое, верш напісаны дзеля верша.

Наша мова —
Яна, як жывая вада,
Ажыўляе чароўнаю сілаю душы.
Хіба можна яе нам на здзекі аддаць
Тым, хто спадчынны гонар наш
душыць?

Згадзіцеся, гэта голая публіцыстыка. Тая ж рытарычнасць і ў вершах пра трактар «Беларусь», «Мо ўсе мы — рыбы пад вадою?», «Адзін — чужы, другі для нас — не свой...», у якіх адны пытальнікі і клічнікі.

Псуе ўражанне ад верша часам непрычасанасць, непаэтычнасць фразы. («Як ад дому ты б ні быў далёка, як бы ні спяшаўся, а прымусь сам сябе даўжэй паслухаць рокат трактара, што з маркай «Беларусь»). У ім — працы нашае характар, дужасць рук і сэрцаў галасы...»)

У зборніку сустракаюцца аднатыпныя назвы вершаў: «Ранак», «Світанак», «Валошкавыя світанкі»... Назвы ж прыдумаць прасцей за ўсё.

Наогул, калі даваць парады А. Пісарыку, то яму перш за ўсё трэба звярнуць увагу на вершы глыбіннага, філасофскага, гістарычнага плану. Іх у яго няшмат. Асабліва, што тычыцца нацыянальнага адраджэння Беларусі, што сёння кожнаму баліць... Хоць у «Дажджах яравых» некалькі вершаў пра лёс роднай мовы ёсць...

Зіхацяць паляны ад пралесак,
Толькі хмарка ў небе —
Зімнім сном.
Заспявай, калі пачуццям цесна:
Голас твой далучыцца сучешна
Да другіх,
Да звонкіх галасоў.

Верыцца, што голас паэта не згубіцца ў хоры паэтычных галасоў, а будзе набываць сваю адметнасць, свой тэмбр. Гэтаму пацвярджэнне яго новы зборнік «Дажджы яравыя».

Яўген ХВАЛЕЙ



# Клуб „Ён і Яна"

Мы планавалі закрануць у гэтым нумары часопіса якую-небудзь актуальную праблему ва ўзаемаадносінах маладажонаў, але атрыманыя літаральна ў апошнія дні лісты вымусілі нас спыніцца менавіта на іх, бо закранутыя тэмы дастаткова балючыя. Пытанне паўстала ў папярэднім нумары часопіса, але там быў, так бы мовіць, толькі намёк, а вось зараз мяркуйце самі. Пытанне, якое мы мусім разгледзець, нешта накшталт... яго, яе і... нацыянальнага гонару.

«Паважаная рэдакцыя,— піша студэнт з Мінска Анатоль Х.,— давайце не будзем круціць, а выкажамся прама. Пачытаў я пра тую дурніцу Ларысу Д. з Оршы і падумаў: да чаго мы дажыліся, што гатовыя перад кожным іншаземцам запабягаць толькі таму, што ён з-за мяжы і ў «фірму» апрануты. Дзе ж нацыянальны гонар? У нашым інстытуце вучылася адна такая ж, нарадзіла ад ангольца дзіця, а бацькам, вядома, сорам — размяняліся, з'ехалі ў другі квартал, у «хрушчоўку» пасяліліся, абы не быць побач з такой дачкой. І хоць дзіця наведваюць, шкадуюць і нават песцяць, з дачкой адносіны кепскія. А як можна да яе ставіцца, калі замуж за таго яна не выйшла (што дзіўна, бо кожны негр марыць аб белай жонцы), а зараз увогуле стала папіваць ды бадзяцца па дварах, а інстытут, вядома, кінула.

Ніхто не супраць таго, што ў людзей бывае каханне, але вось якой нацыянальнасцю запішацца з часам яе дачка? Анголкаю? Наўрад. Беларускай? А ці не занадта ў нашых садках, школах, дзіцячых дамах такіх «цемнаскурых беларусаў»? Як яны будуць сябе адчуваць, да якой культуры належаць? Няхай яны будуць паважанымі і прыстойнымі людзьмі — бацькоў жа не выбіраюць, а ўсё-такі што яны пра іх, сваіх бацькоў, будуць думаць? Ды што гаварыць, ёсць такія, што і ад малпаў бы панараджалі, каб можна было, ды каб тыя малпы балбаталі па-іншаземнаму ды ахвяравалі ім бранзалеткі ды шмоткі...»

Алёна К. са Смалявіцкага раёна. «Раскажу пра сябе, пра тое, як я паламала сваё жыццё. Я з вёскі, вучылася ў тэхнікуме, была, можа, і не прыгажуня, але з твару нармальная, толькі ростам невысокая. І вось здарылася так, што я выйшла замуж за в'етнамца. Пасля вяселля я неўзабаве нарадзіла сына, але з маім мужам жыцця не атрымалася. Ён мовы нашай не ведае, а я яго, быццам глухі і сляпы, я яго не магла зразумець, а ён мяне. І чым далей, тым болей. У рэшце рэшт ён паехаў на сваю радзіму, і больш я яго не бачыла. Хачу папярэдзіць дзяўчат, што жыццё ў нас адно, і выходзіць замуж трэба за таго, з кім хоць ёсць аб чым пагаварыць, каб было нешта агульнае...»

Ніна В., студэнтка політэхнічнага інстытута з Мінска. «...Мая сяброўка выйшла замуж за нігерыйца, паехала з ім на яго радзіму і нарадзіла там двух дзяцей. Нядаўна я атрымала ад яе ліст, дзе яна піша, што ў яе не жыццё, а страшнае трызненне, што сніцца ёй дом і родны пасёлак на Віцебшчыне, што яна пастарэла, многа хварэе, бо клімат не той, хоча дамоў, муж ёю пагарджае і б'е, хаця адпускае на ўсе чатыры бакі, але дзеці... Як яе прымусь з такімі дзецьмі дома, калі нават муж і аддасць іх, бацькі ды суседзі?»

Вячаслаў Л. з Б. (Вячаслаў не назваў нават горада, дзе жыве).

«Да нас у Б. прыехалі на завод некалькі практыкантаў з Эфіопіі. Я супраць іх нічога не маю, але тых нашых, што ля іх круціліся, я б адлупцаваў на плошчы, каб народ бачыў. Аднаго эфіопа адправілі дадому, бо



**ў яго знайшлі СНІД, і тут пайшлі раскручваць, з кім ён паспеў пераспаць, і аказалася, што з трыма нашымі... Няхай цяпер тыя дзяшоўкі атрымаюць тое, што хацелі... А што, калі яны паспелі заразіць каго са сваіх хлопцаў, што тады? Ці іх дзе калолі, а потым шпрыцамі тымі дзіця якое хворае на звычайную прастуду ўколюць?..»**

Валянціна М. **«Я жыву побач з Камароўскім рынкам і часта бачу, як нашы маладыя дзяўчаты наймаюцца ў парабчанкі, інакш не назавеш, да гандляроў-каўказцаў, гарбацяць на іх за прылаўкамі. Не ведаю, як хто, а я на такое б не згадзілася ніколі. Сядзяць, цыгарэты смаляць і «тащатся», думаюць, што яны нейкія «деловые» бізнесменкі. А на самой справе яны «деловые», як я балерына. Так, дурнічкі, стукнутыя пыльным мехам, вяршкоў нахапаліся. Вось я, напрыклад, «деловая» не па размовах, а па жыцці. Каб я з-за капеек каму паслугоўвала — не бываць такому. Я, калі захачу, зараблю ў сто разоў больш і не апаганюся, ды толькі як — не скажу. У кожнага свае сакрэты...»**

**«...А мы такіх спрытненькіх Ларысачак, якія бегаюць да іншаземцаў, стрыжом пад нулік,**— не без з'едлівасці піша нам Віктар З. з Мінска.— **Спаймаем і... гатова — ідзі дадому з голай галавой, калі розуму няма. От тут яны круцяцца, як піскуны на патэльні. «Хлопчыкі, не трэба, вы ж добрыя, я вам на «пузырёк» дам, не — на два, нават на дзесяць, толькі не стрыжыце... Магу пераспаць з вамі, толькі не трэба пад машынку...» А мы возьмем і абстрыжом. І ніякія мы не агрэсіўныя, не камплексанты. Проста трэба камусьці быць у жыцці чысцільшчыкамі ў сэнсе маральнасці. А то развялося ўсялякіх...»**

ЯНІНА:

Мне, як жанчыне, не выпадае пагадзіцца з усім тым, што напісаў Анатоль Х. і тым больш Віктар З. Праблемы так проста не вырашаюцца. Нічога, вядома, дрэннага няма, калі пакахаюць адзін аднаго прадстаўнікі рознага этнасу. Возьмем крыху гістарычных фактаў, успомнім хаця б каханне англічаніна Джона Ленана і японкі Ёкі Она, беларускі Надзі Хадасевіч і француза Фернана Лежэ. Увогуле многія вялікія французскія мастакі пабралі сабе жонак з рускага балета Дзягілева, і такіх прыкладаў шмат. Сэрцу, тым больш жаночаму, не загадаеш, каго кахаць, а каго не. Іншая справа, што некаторыя дзяўчаты занадта цікаўныя сексуальна і гатовы пайсці на ўсё з любым незнаёмым, каб зведаць у ложку «новыя» пачуцці, іншыя ж вельмі прагматычныя і за «шмоткі» гатовыя таксама на ўсё... Хаця, безумоўна, у такіх вось дзяўчат і назіраюцца элементы пагарды да сваёй нацыянальнай культуры, спадчыны, да чалавечай годнасці, урэшце. А хлопцы, вядома, гэтага ім даравацъ не хочуць. Адсюль і канфліктныя сітуацыі.

АЛЕСЬ:

Я ведаю водгукі некаторых вучоных-псіхолагаў пра змешаныя шлюбы і магу зацвердзіць, што яны маласуцяшальныя. Псіхалагічная несумяшчальнасць праяўляецца іншы раз не прама, а даволі незаўважна і каварна, а ў выніку такія сем'і перастаюць існаваць. Што ж тычыцца нацыянальнага гонару, то ў нас, беларусаў, ён адышоў неяк на другі план, і гэта вельмі крыўдна. Вось я прачытаў дзённікі Ларысы Геніюш, якія надрукавала наша «Маладосць», і падумаў: гэта жанчына-патрыётка, а такія, на шчасце, нараджаюцца на нашай зямлі, павінна быць прыкладам для моладзі.

Дзе ж, на якіх шляхах мы пагублялі наша асабістае, адметнае? «Пад каго затаўклі», як пісаў яшчэ адзін наш гігант — Уладзімір Караткевіч. Вядома, ніякага там расізму, нацыяналізму быць не павінна, але ж і сваё трэба шанаваць, як шануюць, напрыклад, нашы балцкія суседзі.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Мы падрыхтавалі гэтае пасяджэнне клуба, як бы мовіць, з калёс і, можа, менавіта таму не далі большага месца развагам Алеся і Яніны, бо атрыманыя лісты, здаецца, гавораць самі за сябе. Дарэчы, такая праблема, як сумяшчальнасць этнасу, думаецца, не менш важная, бо па праблемах сексуальных адносін у друку можна знайсці многа розных артыкулаў, а пра ўзаемаадносіны на нацыянальнай глебе, пра гонар нашага народа, які павінна захоўваць моладзь, калі яна таксама хоча застацца народам, а не проста насельніцтвам, — амаль нічога няма. Пра гэта неяк мала пішуць, абыходзяць вострыя вуглы, заплюшчыўшы вочы. Быццам няма «деловых» на Камароўцы і рынках іншых гарадоў, «цемнаскурых беларусаў» у садках, школах і дзіцячых дамах, а ля гасцініц для іншаземцаў не таўкуцца з выклікам апранутыя «ў фірму» прадстаўніцы «першай старажытнай прафесіі». Таму і наш абавязак сказаць пра ўсё пра гэта прама, бо прафесія журналістаў таксама старажытная, хаця і «другая».**

Фота **С. Брушко.**

## *Анатоль Зэкаў*

# Пародыі

## Пад хатнім абрыштам

*Туман халодны вытру я з акна,*
*І змрочныя прасветляцца прасторы.*
*Тайком два дзядзькі выпілі віна*
*І аб жанчынах весела гавораць.*

Віктар Шніп

Ажно становіцца маркотна,
Калі я выгляну ў акно
І ўбачу: дзядзькі два употай,
Ад жонак збегшы, п'юць віно.

Мая ж душа не заспявае,
Нібы гітарная струна,
Бо я сяджу, сліну каўтаю,
За імі сочачы з акна.

А дзядзькі вольныя — як вецер:
І пляшка ёсць, і агурок.
Я мог бы крыкнуць:
«Буду трэцім!»
Ды на дзвярах маіх —
замок.

## Вясковы класік

*За душой не маючы капейкі,*
*Я ў душы вызвоньваў грошны верш.*

Леанід Галубовіч

Дзіваком, прызнацца, нейкім
Я жыву на белым свеце:
За душою — ні капейкі,
І ў кішэнях — толькі вецер.

Сябрукі мае ў калгасе
Да зарплаты дні ўсё лічаць.
Атрымаюць грошы ў касе
І мяне з сабою клічуць.

Я сяджу, чытаю вершы
Для вясковых Коляў, Васяў
І адным сябе ўжо цешу,
Што для іх, сяброў, я — класік.

## Агледзіны

*Я голас твой прывёз к сабе дамоў...*

Алесь Бадак

Я голас твой к сабе дамоў прывёз
Паслухаць даць бацькам сваім
І каб параілі, ці варта лёс
Мне звязваць з голасам такім.

«Як,— запытаў,— ці згодны ажаніць?»
А бацька з маці — мне ўсур'ёз:
«Па голасе нам цяжка ацаніць —
Ты б лепш усю яе прывёз...»

# *Нашы аўтары*

**ДАШКЕВІЧ Таццяна** нарадзілася ў 1968 годзе ў Мінску. Працавала ў Лошыцкім саўгасе. Зараз—студэнтка Літаратурнага інстытута імя Горкага ў Маскве.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ДУДЗЮК Зінаіда** нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Слабодка на Віцебшчыне. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працавала на будоўлі, у праектным інстытуце, на Бярозаўскай ДРЭС. Цяпер—карэспандэнт-арганізатар СП БССР.
Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак», «Абрысы лета».

**СЫЧЫК Іван** нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Здзітава Бярозаўскага раёна. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў мастаком у Брэсцкіх вытворча-мастацкіх майстэрнях.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**КАМАРОЎСКІ Алесь** нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у Літаратурным музеі Я. Коласа, у рэспубліканскім праўленні аматараў кнігі, на Рэспубліканскім тэлебачанні.
Аўтар кніг «Пачатак», «Адкрытая тайна», «Зямля маіх надзей», «Завароджаны мяч».

**МАРОЗАЎ Зміцрок** нарадзіўся ў 1954 годзе ў пасёлку Язбы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў аграномам у калгасах на Магілёўшчыне. Быў на камсамольскай рабоце. Зараз працуе ў Дзяржаграпраме БССР.
Выдаў паэтычныя зборнікі «Пад небам буслiным», «Хлеб і памяць», «Хлебны верасень», кнігу апавяданняў для дзяцей «Азбука агранома Валошкі».
Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**КАРАМАЗАЎ Віктар** нарадзіўся ў 1934 годзе ў горадзе Чэрыкаве. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў адказным сакратаром Чэрыкаўскай раённай газеты «Сацыялістычная перамога», крычаўскай раённай газеты «Шлях сацыялізму», у газетах «Магілёўская праўда», «Звязда», «Літаратура і мастацтва».
Аўтар кніг прозы «Па талым снезе», «Спіраль», «Пушча», «Вясёлка сярод зімы», «Дзень Барыса і Глеба», «Дома», «Проста ўспомню я цябе», «Глядзіце ў вочы лемуру» і інш.

**СКАРЫНКІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі. Працаваў інжынерам у Мінскім аэрапорце. Выдаў зборнікі паэзіі «Буслы над аэрадромам», «Гукавы бар'ер», «Дазвольце ўзлёт», «Чацвёрты разварот» і інш.

**ГАРДЗЕЙ Віктар** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Завочна скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у калгасе і раённых газетах, у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», зараз—у рэдакцыі часопіса «Маладосць».
Выдаў кнігі прозы і паэзіі «Дом з блакітнымі аканіцамі», «Карані вечнага дрэва», «Касавіца», «Верасное палясоўе», «Засевак Радзімы», «Незабудкі азёр», «Узрушэнне», зборнікі вершаў для дзяцей.

**«МОЛОДОСТЬ» № 8 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Валянціна Марынчанка.**
Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.06.90. Падпісана да друку 25.07.90. АТ 14991. Фармат 70×90 1/16. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 16,51. Тыраж 10 008 экз. Зак. 809. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



**Я. БАТАЛЬЁНАК. Дзе сон-трава** (алей, 1986).